Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 5 (4600) 4 лютага 2011 г.

## У нумары:











**Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, якая штогод шырока праводзіцца ў лютым, з'яўляецца своеасаблівым падсумоўваннем здабыткаў у галіне кнігавыдання за папярэдні год. Так адбываецца і сёлета. З чым, якімі паказчыкамі ўваходзіць айчыннае кнігавыданне ў 2011 год, а адпаведна і ў новую пяцігодку, — пра гэта міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі расказаў чытачам газеты "Літаратура і мастацтва".**



# Дзяржава — надзейны гарант у фарміраванні нацыянальнай кніжнай прасторы

**Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА**

**— Алег Вітольдавіч, відавочна, час сённяшні не зусім спрыяльны для развіцця кнігавыдання. Прычыны вядомыя ўсім: найперш — пашырэнне электроннай інфармацыйнай прасторы, а яшчэ — павелічэнне выдаткаў на паліграфічныя паслугі, змена прыярытэтаў у бок задавальнення матэрыяльных, а не духоўных патрэб…**

— Заўсёды цікавы той час, у якім мы жывём. З іншым настроем і не варта займацца стваральнай дзейнасцю. Самі лічбы пераканаўча сведчаць пра тое, што кніжная справа ў Беларусі застаецца на дастаткова высокім узроўні.

Мяркуйце самі: у 2010 годзе пабачыла свет 11 тыс. назваў кніг і брашур агульным тыражом звыш 43 млн. экзэмпляраў. Для нашай невялікай краіны такія лічбы падаюцца дастаткова ўражлівымі. Па выпуску літаратуры ў разліку на аднаго жыхара мы знаходзімся дзесьці на ўзроўні еўрапейскіх краін. І адназначна лідзіруем на постсавецкай прасторы.

А кніга ж — гэта, пагадзіцеся, не толькі паказчык дзейнасці паліграфічных прадпрыемстваў, характарыстыка сістэмы распаўсюджвання, кніжнага гандлю, але яшчэ і сведчанне інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі, дзяржавы.

**— Вядома, што ў Беларусі зарэгістравана 837 суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца выдавецкай дзейнасцю. Як, дарэчы, складваецца тэматычны падзел у кніжнай справе?**

— Перш-наперш давайце звернем увагу на самі выдавецтвы, на суб'екты гаспадарання, пра якія вы гаварылі… Тых, хто актыўна займаецца кнігавыдавецкай справай, — не так і шмат. Да 5 адзінак кніг выпусцілі ў свет 152 выдавецтвы, 58 — ад 5 да 10 кніг і брашур. Актыўна ж дзеючых выдавецтваў, якія адрасавалі чытачу ад 11 да 50 назваў, — 97. 33 арганізацыі выпусцілі ад 50 да 100 і толькі 15 — ад 101 да 200.

Лідарамі выдавецкага рынку краіны сярод дзяржаўных выдавецтваў з'яўляюцца "Народная асвета", "Вышэйшая школа", "Пачатковая школа", Мінская фабрыка каляровага друку, "Мастацкая Літаратура", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Беларусь", рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва". З недзяржаўных найперш адзначу "Харвест", "Аверсэв", "Белый ветер", "Современную школу", "Попурри".

А калі гаварыць пра тэматычнае насычэнне кніжнага рынку, то асноўны акцэнт робіцца на вучэбныя, вучэбна-метадычныя і літаратурна-мастацкія выданні, кнігі для дзяцей і юнацтва.

Такая тэматычная запатрабаванасць яшчэ раз вяртае да пытання пра залежнасць кнігавыдання ад электронных інфармацыйных рэсурсаў. Што адбываецца на самай справе? Студэнты, вучнёўская моладзь аддаюць пэўную перавагу Інтэрнэту, электронным носьбітам вучэбных праграм і г.д. Вось тут і пляцоўка для канкурэнцыі з боку выдавецтваў. Вельмі важна тыражаваць у электроннай форме інфармацыю, рабіць дадаткі да слоўнікаў, методык і гэтак далей. А яшчэ трэба думаць пра аўтарытэт кніжнай прадукцыі. Усім вядома, што электронная інфармацыя не заўсёды носіць якасны характар. Нельга таксама не браць пад увагу бібліятэчную сетку. Ды й айчынны чытач пакуль што захоўвае вернасць папяровай кнізе.

**— Алег Вітольдавіч, у структуры Міністэрства інфармацыі не так і шмат кніжных выдавецтваў…**

— Па колькасці і сапраўды няшмат. Але звярніце ўвагу, якой прадстаўнічай з'яўляецца іх дзейнасць у маштабах краіны. Пяць кніжных выдавецтваў — "Беларусь", "Мастацкая літаратура", "Вышэйшая школа", "Народная асвета", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" — за мінулы год выпусцілі каля 700 назваў. А што да кнігі на беларускай мове, то асноўная нагрузка тут прыпадае якраз на дзяржаўныя выдавецтвы: каля чвэрці ад усіх беларускамоўных кніг і брашур па рэспубліцы.

**— І дзяржава выдаткоўвае сур'ёзныя сродкі на кнігавыданне...**

— Так, дзяржава па-ранейшаму з'яўляецца надзейным гарантам у фарміраванні трывалай нацыянальнай кніжнай прасторы. Леташні ўзровень датацыі з рэспубліканскага бюджэту склаў каля 5 мільярдаў рублёў, з іх на выпуск серыі "Школьная бібліятэка" — звыш 2,7 млрд. рублёў. Дарэчы, нельга забывацца, што дзяржаўная субсідыя скіравана на зніжэнне кошту кнігі для спажыўца, пакупніка. Кнігі, выдадзеныя ў серыі "Школьная бібліятэка", увогуле бясплатна паступаюць ва ўстановы адукацыі.

**— Не расхалоджваюць такія падыходы нашага пакупніка?**

— Дзяржава вызначае, якую літаратуру падтрымліваць. Мы перад пачаткам кожнага года разглядаем планы па выданні сацыяльна значнай літаратуры. Стварылі экспертны савет, да ўдзелу ў рабоце якога запрасілі бібліятэкараў, Саюз пісьменнікаў Беларусі, іншых прадстаўнікоў грамадскасці. Як мне падаецца, такі фармат публічнага разгляду выдавецкіх планаў толькі на карысць кнігавыдавецкай справе.

Сёння ўжо не лагічна, каб дзяржава брала на свае плечы ўсе выдаткі ў галіне кнігавыдання, але мы не можам не быць сацыяльным апірышчам грамадства і ў гэтым кірунку. Да таго ж, хто, як не Міністэрства інфармацыі, павінен дыктаваць рост якасных запатрабаванняў у кнігавыданні. У тым ліку — і ў плане мастацкага афармлення. Дарэчы, летась два праекты нашых дзяржаўных выдавецтваў атрымалі дыпломы ў міжнародным конкурсе "Мастацтва кнігі" краін СНД: І ступені — "Ніколі не забудзем" ("Мастацкая літаратура"), дыплом ІІ ступені — "Энцыклапедыя Перамогі. Беларусь — Масква" і дыплом у намінацыі "Гран-пры" — фотаальбом "Зямля сілы. Белавежская пушча" (абедзве гэтыя кнігі — выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя").

Мы можам па праву ганарыцца прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне", якую па выніках 2010 года атрымаў творчы калектыў выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" за альбомы "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў" і "Зямля сілы. Белавежская пушча".

**— Сапраўды, калі ўважліва агледзець асартыменты айчынных кнігарняў, то складваецца ўражанне, што прадаецца ў большай ступені расійская кніга…**

— Але гэта і заканамерна. Палічыце, колькі назваў кніг адначасова выстаўлена на продаж у такіх магазінах "Белкнігі", як "Светач" альбо "Веды". Зразумела, што размова — як мінімум пра некалькі дзясяткаў тысяч назваў. Значыць, кнігагандаль можа задаволіць самага патрабавальнага пакупніка. І што ў гэтым дрэннага? Але ўсё ж кнігагандаль сістэмы "Белкнігі" патрабуе рэфармавання. Гэта перш-наперш датычыцца аб'яднання суб'ектаў гандлю ў адзінае прадпрыемства з болей шырокімі рэсурснымі, лагістычнымі, інфраструктурнымі магчымасцямі. У хуткім часе "Гомелькніга", "Брэсткніга", "Віцебсккніга", "Гроднакніга" ўвойдуць у склад "Белкнігі". Болей магутная гандлёвая сетка дазволіць прымаць больш гнуткія кіраўніцкія эканамічныя рашэнні. Да таго ж прадпрыемства ў новым фармаце магло б больш рашуча прадстаўляць беларускія кніжныя інтарэсы на знешнім рынку. Пакуль што выдавецтвы працуюць у гэтым напрамку не вельмі актыўна. Важны яшчэ адзін момант, з якім звязаны любы гандаль. Напачатку, у сярэдзіне 1990-х, істотна скарацілася колькасць кнігарняў. Магчыма, не ўсюды яны патрэбны такія, як "Светач" альбо "Веды", але тое, што сёння ў некаторых раёнах краіны няма ніводнай кнігарні, патрабуе сур'ёзных рашэнняў.

На выніковай калегіі Міністэрства, якая адбылася 28 студзеня, было адзначана, што сёлетні год павінен стаць годам продажу кніг. І гэта ў першую чаргу датычыцца працы выдавецтваў. Трэба актыўна прапаноўваць сваю літаратуру, праводзіць агрэсіўную маркетынгавую палітыку, актыўна задзейнічаць сродкі масавай інфармацыі, Інтэрнэт.

**— Алег Вітольдавіч, вы асабіста ў мінулым годзе неаднойчы гаварылі пра акцыю "У падтрымку чытання"…**

— Я вельмі спадзяюся на тое, што абвешчаная Міністэрствам акцыя набудзе шырокі грамадскі рэзананс. Цікавасці да кнігі павінны паспрыяць агульная атмасфера ўвагі да мастацкага слова, дзіцячай літаратуры, клопат аб забеспячэнні адукацыйных устаноў вучэбнай літаратурай.

Вельмі важная тут рознабаковая інфармацыйная падтрымка. Безумоўна, найважнейшай падзеяй для кніжнай галіны з'яўляецца традыцыйна маштабная Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, работа якой пачнецца 9 лютага. Упэўнены, што яна дазволіць умацаваць стасункі выдаўцоў, паліграфістаў і чытачоў — усіх тых, хто нераўнадушны да беларускай кнігі.

## Пункціры

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў Дзень беларускай навукі па традыцыі ўручыў дыпломы дактароў навук і атэстаты прафесараў навуковым і навукова-педагагічным работнікам. Згодна статыстыкі, у 2010 годзе навуковая ступень была прысуджана 632 саіскацелям, у тым ліку доктара навук — 45 навукоўцам.

Дыплом у намінацыі "Лепшая кандыдацкая дысертацыя 2010 года" ў штогадовым рэспубліканскім конкурсе навуковых прац атрымала галоўны захавальнік Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Шклярава Святлана Лявонцьева. Яе праца "Мастацтва рукапісу кнігі Веткі XVIII — пачатку XX стагоддзя" прызнана лепшай у галіне гуманітарных навук.

Рашэннем Бабруйскага гарвыканкама заснавана прэмія імя Міхася Лынькова. Яна будзе прысуджацца дзеячам культуры, мастацтва, адукацыі, прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі Бабруйска і Бабруйскага раёна за значныя дасягненні ў папулярызацыі беларускай мовы.

Генеральны дырэктар дырэкцыі міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" Радыён Бас узнагароджаны званнем "Чалавек года Віцебшчыны" за развіццё міжнародных сувязей і вялікі ўнёсак у развіццё славутага фестывалю.

Нацыянальны гістарычны музей Беларусі арганізаваў выстаўку ўнікальных фотаработ ураджэнца Гродзенскай вобласці протаіерэя Паўла Валынцэвіча, адзінага праваслаўнага святара, які з'яўлялся таксама прафесійным фатографам. Валынцэвіч нарадзіўся ў XIX стагоддзі, апошнія яго негатывы датаваны пачаткам 1950-х гадоў. Яны ўяўляюць не толькі мастацкую, але і гістарычную каштоўнасць.

У Гомельскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя А. І. Герцэна ствараецца музей рэдкага аўтографа. Туды патрапяць кнігі з асабістымі дароўнымі подпісамі вядомых пісьменнікаў, палітычных дзеячаў — ураджэнцаў Гомельшчыны, а таксама аўтографы сусветных славутасцей, якія наведвалі Гомель. Музей будзе адкрыты ўжо ў гэтым годзе.

Шведская майстрыха Гуніла Пэтаў-Шоберг, якая працуе ў моднай тэхніцы фільцавання, прыехала ў Віцебск, каб прэзентаваць свой праект "Аспекты жыцця". На базе Віцебскага цэнтра сучаснага мастацтва шведка разгарнула выстаўку сваіх работ "Рэльефы і скульптура", а таксама, сустрэўшыся з беларускімі калегамі, прачытала лекцыю "Майстэрства лямцавага валяння: гісторыя і сучаснасць" і правяла майстар-клас. Арганізатарамі сустрэчы выступілі пасольства Швецыі ў Беларусі і аддзел культуры Віцебскага гарвыканкама.

У полацкага бронзавага сярэднявечнага студэнта з'явіцца сябра-сучаснік у Наваполацку. Конкурс на стварэнне скульптуры сучаснага студэнта, якая мае быць усталявана на тэрыторыі філіяла Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Наваполацку, ужо абвешчаны. Работы будуць прымацца да 11 лютага. Улічваючы, што, у адрозненне ад сярэднявечнай Еўропы, ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях сёння ўсё больш дзяўчат, удзельнікам конкурсу было прапанавана прадставіць "студэнта" ў дзявочым аблічы.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Захоўваючы лепшыя традыцыі

**Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі размясцілася ў прыгожым будынку на пешаходнай вуліцы Савецкай у самым цэнтры Гродна. Творцам утульна тут збірацца і абмяркоўваць свае надзённыя справы, хаця некаторыя не-не ды і памянуць тыя часы, калі на сходы ды пасяджэнні яны спяшаліся ў славуты Домік Элізы Ажэшкі.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

І нават не таму, што там было зручней, але таму, што сапраўдны пісьменнік мае патрэбу ў пастаяннай падпітцы свайго натхнення, і ўзгадванне пра славутых літаратараў мінулага надта гэтаму спрыяе. Можа, імем Элізы Ажэшкі будзе названа літаратурная прэмія для пісьменнікаў Гродзеншчыны, калі яна будзе заснавана? А можа, прэмія атрымае нейкае іншае імя, бо на Гродзеншчыне багатыя літаратурныя традыцыі.

Аднак, сабраўшыся на свой справаздачна-выбарчы сход, члены Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў абмяркоўвалі не толькі пытанне з усталяваннем прэміі. Яны разглядалі і ацэньвалі вялікі перыяд дзейнасці сваёй арганізацыі. За пяць справаздачных гадоў яе склад павялічыўся амаль што ў тры разы, з 12 чалавек да 32. Гэта — людзі рознага ўзросту, але большая частка з іх — паэты. У справаздачным дакладзе старшыня Гродзенскага аддзялення Людміла Кебіч сцісла і без залішніх адхіленняў ад тэмы пералічыла дасягненні пісьменнікаў Гродзеншчыны. 1223 выступленні непасрэдна перад насельніцтвам — у бібліятэках, школах, гімназіях, працоўных калектывах, вайсковых часцях; 59 тэлевізійных выступленняў; 984 публікацыі ў перыядычным друку, у тым ліку ў такіх салідных літаратурна-мастацкіх выданнях як часопісы "Полымя", "Нёман" (№ 5 за 2009 і № 5 за 2010 гады цалкам прысвечаны літаратурнай Гродзеншчыне), штотыднёвік "ЛіМ". Выдадзена 72 аўтарскія кнігі, прычым, толькі ў 2010 годзе — 24. Члены Саюза дапамагалі і дапамагаюць падрыхтоўваць да друку кнігі маладым аўтарам і аўтарам-аматарам. У мінулым годзе такіх адрэдагаваных прафесіяналамі кніг сталася ажно 10. Члены Саюза пісьменнікаў Беларусі спрыялі адраджэнню традыцый выдання на Гродзеншчыне літаратурных альманахаў, падрыхтаваўшы два нумары альманаха "На Нёманскай хвалі". Другі літаратурны альманах, у якім пастаянна друкуюцца пісьменнікі Гродзеншчыны, — выданне гродзенскіх настаўнікаў "Голос надежды".

Добрай традыцыяй для літаратараў Гродзеншчыны сталі вандроўкі па літаратурных мясцінах Беларусі. Гэтак здзейснілі яны паломніцтва на радзіму Якуба Коласа, у Купалаўскую Вязынку. Узгадваўшы пра Цётку і Францішка Багушэвіча, наведалі Стары Двор і Гудзевічы. Завіталі ў Тышкевічаву Свіслач. Гродзенскія аўтары мацуюць дружбу з пісьменнікамі суседніх рэгіёнаў, у прыватнасці берасцейскімі і беластоцкімі. Ладзяць сумесныя мерапрыемствы, гасцююць адны ў адных.

Члены Гродзенскай абласной пісьменніцкай арганізацыі адныны з першых на Беларусі далучыліся да святкавання Сусветнага дня паэзіі, які цяпер штогод адзначаюць 21 сакавіка. Усе значныя даты беларускага календара на Гродзеншчыне адзначаюцца ўдзелам пісьменнікаў у святочных мерапрыемствах, правядзеннем літаратурных конкурсаў, выданнем новых зборнікаў прозы, паэзіі, публіцыстыкі, падрыхтоўкай тэматычных літаратурных старонак у абласной і раённай прэсе.

Моладзь — патэнцыял пісьменніцкай арганізацыі, і літаратары-прафесіяналы добра ведаюць гэта, асэнсавана ўдзельнічаюць у рабоце па выяўленні (у асноўным праз конкурсы) здольных маладых паэтаў і празаікаў і станаўленні іх як творчых асоб. А значыць, у хуткім часе колькасць сяброў Гродзенскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі павялічыцца.

Заслухаўшы справаздачны даклад свайго старшыні, Гродзенскія пісьменнікі выказалі шэраг пазітыўных прапаноў і вырашылі падоўжыць кіраўніцтва паўнамоцтвы Людмілы Кебіч, даверыўшы ёй старшынства яшчэ на пяць гадоў. У Савет пісьменніцкай арганізацыі ўвайшлі Алена Руцкая, Пётр Сямінскі, Ала Нікіпорчык, Ірына Фамянкова, Мар'ян Дукса і Галіна Самойла.

## Прынятыя ў СПБ



**Ірына Антонаўна ВОЙТКА**
***Паэтэса***

Нарадзілася 23 кастрычніка 1961 года ў в. Каралін Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працуе загадчыкам дзіцячага сада № 3 ў г. Слоніме.

Друкавалася ў раённых і абласных перыядычных выданнях, у газеце "Чырвоная змена", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", часопісах "Маладосць", "Роднае слова", "Пралеска", "Вясёлка". Выдала зборнікі вершаў "Спасціжэнне" (2003), "Пагляджу вачамі неба" (2010).



**Сяргей Сяргеевіч КАРЫЦЬКА**
***Паэт***

Нарадзіўся 30 ліпеня 1952 года ў в. Калоднае Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Узнагароджаны Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, медалём "За трудовые заслуги", мае ганаровае званне "Заслужаны ўрач Рэспублікі Беларусь". Працуе галоўным урачом у ДУ "Рэспубліканскі цэнтр медыцынскай рэабілітацыі і бальнеалячэння".

Пачаў пісаць вершы ў школьныя гады. Спачатку друкаваўся ў раённых газетах, пазней — у рэспубліканскіх ("Рэспубліка", "7 дней", "Белорусская нива", "Советская Белоруссия", "Звязда"). Выдаў чатыры зборнікі вершаў: "Зязюля напрарочыла" (2004), "Я маю гонар быць вясковым" (2006), "Ад сэрца" (2007), "Зачараваны родным краем" (2010).

## За падзеяй

# Дзяржава і грамадскасць: творчы дыялог

**У Мірскім замку адбылося першае пасяджэнне Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Юрыя Іванова

У Рэспубліканскі савет уваходзяць прадстаўнікі эліты беларускага мастацтва, кіраўнікі ўсіх творчых саюзаў і вядучых устаноў культуры, творчая моладзь, прадстаўнікі рэгіёнаў краіны — усяго 68 чалавек. Старшыня Рэспубліканскага грамадскага савета міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка падкрэсліў: "Спадзяёмся, савет стане добрай пляцоўкай для ўзмацнення дыялога паміж дзяржавай і грамадствам у справе далейшага развіцця культуры і мастацтва нашай краіны. Для нас вельмі важны абмен думкамі, атрыманне з першых вуснаў інфармацыі, бачанне падыходаў да праблемных момантаў, якія існуюць у сферы. Культура — жывы механізм. За апошнія гады дзякуючы высілкам дзяржавы і творчых асоб назапашаны значны рэсурс. Але нам падаецца, што настае чарговы этап развіцця культуры краіны, і мы павінны прадпрыняць шэраг вельмі важных сістэмных рухаў".

Пасяджэнні савета плануецца праводзіць некалькі разоў у год. Паміж імі будзе працаваць пастаянная рабочая група, кіраўніком якой абраны Анатоль Бутэвіч, і тэматычныя рабочыя групы, якія возьмуцца аналізаваць стан спраў па розных кірунках і выпрацоўваць прапановы для разгляду на чарговых пасяджэннях савета. У плане на 2011 год акрэслены наступныя тэмы: "Культура: выхаванне праз усё жыццё" і "Ахова аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны і іх выкарыстанне ў выхаваўчай рабоце і турыстычнай сферы". У перспектыўным плане — разгляд на пасяджэннях Рэспубліканскага савета пытанняў развіцця нацыянальнага тэатральнага мастацтва ў сучасным кантэксце; развіцця культуры рэгіёнаў Беларусі; прадстаўлення культуры Беларусі за мяжой; распрацоўкі комплексу прапаноў па падтрымцы беларускай мовы і літаратуры; падтрымцы творчай моладзі; развіцця кінамастацтва; ролі грамадскіх арганізацый у развіцці культуры і мастацтва; ролі СМІ ў сферы культуры.



Мы пацікавіліся тым, якім бачаць свой удзел у Савеце непасрэдныя яго ўдзельнікі.

***Тэатральны крытык Таццяна АРЛОВА:***

— Тэатральная справа апошнімі гадамі апынулася ў цяжкім становішчы. І з-за таго таксама, што ідзе рэканструкцыя памяшканняў тэатраў — Купалаўскага, дзіцячага, маладзёжнага. Змяніліся мастацкія кіраўнікі многіх устаноў, галоўныя рэжысёры, ім на змену прыйшлі новыя, моладзь мігруе — вельмі шмат пытанняў, якія трэба рашаць. Спадзяюся, я як крытык змагу нешта падказаць.

***Народны артыст СССР, Беларусі Генадзь АЎСЯННІКАЎ:***

— Напрамак адзін: будзе добрае фінансаванне — культура пойдзе па правільным шляху. А не будзе — давядзецца культуры шукаць нейкія сцежкі, каб мець дастойны выгляд. А гаварыць і са сцэны, і праз СМІ мы павінны праўду. Праўду жыцця.

***Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір ГІЛЕП:***

— Паміж намі яго так і называюць: Савет старэйшын — людзей вопытных у розных кірунках культуры, якія стварылі славу культуры. Іх погляды, веды, безумоўна, будуць запатрабаваныя і наступнымі пакаленнямі.

***Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман МАТУЛЬСКІ:***

— Гэта не орган кіравання і не орган, які будзе дзяліць грошы. Разумныя людзі будуць думаць пра стратэгічныя пытанні — пра будучыню. Спадзяюся, савет будзе прыкладаць намаганні і да таго, каб страчаныя помнікі, у прыватнасці, кніжнай культуры, рэальна ці віртуальна вярнуліся ў Беларусь.

***На здымку: міністр культуры Павел Латушка і члены Савета ў зале Мірскага замка.***

## Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота аўтара

# Кветкі для Настаўніка



**У дзевяносты дзень нараджэння Івана Пятровіча Шамякіна прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі накіраваліся на Усходнія, мемарыяльныя, могілкі Мінска і ўсклалі да помніка карыфею беларускай літаратуры чырвоныя гваздзікі — мужчынскія кветкі.**

Яны ўпалі на заснежаную пліту, нібыта кроплі крыві. Той самай, якую праліваў на палях бітваў Вялікай Айчыннай маладзенькі салдат Шамякін. Ужо было прыкмечана: рыска на надмагільнай пліце ветэрана, якая аддзяляе светлую дату з'яўлення ад цёмнай даты адыходу, вельмі падобная да следу ад кулі, што ўсё жыццё ляціць за ім, каб аднойчы, ужо ў мірны час, падпільнаваць і ўдарыць у сэрца. Шамякіну, здаецца, пашанцавала, "куля" ўсё не знаходзіла яго. Іван Пятровіч пражыў доўгае жыццё, спазнаў славу і народную любоў. Стаўся адным з сімвалаў сваёй эпохі. Ён зрабіў сваё жыццё песняй. А ў песні бывае не толькі пачатак, але і заканамерны канец. І усё ж…

— Ёсць людзі, пра якіх, нават калі яны пражылі восемдзесят гадоў, хочацца сказаць: мала, — падзяліўся сваімі развагамі з журналістамі ў гэты дзень старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. — Калі Шамякін пайшоў ад нас, гэта сталася вялікай трагедыяй для ўсяго беларускага народа.

І яшчэ кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі заявіў:

— Мы прыйшлі сюды зусім не дзеля таго, каб гэтак адзначыць юбілей вялікага майстра, хаця 90-годдзе Шамякіна і занесена ва ўсе календары, выдадзеныя ў Беларусі, як ўрачыстая дата. Але сёння мы тут як паплечнікі Івана Пятровіча. Многія беларускія літаратары лічаць яго сваім настаўнікам, а асабіста мне Шамякін даваў рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў.

Мікалай Чаргінец прыгадаў, што прозвішча Шамякіна адным з першых было ўнесена ў план выдання кніг серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі" — яго творчасці быў адведзены двухтомнік. Выглядаюць тамы гэтыя як стаskładжытныя фаліянты, перапісчыкі якіх імкнуліся заключыць пад адной вокладкай "усю мудрасць зямную", увесь вопыт былых пакаленняў. Раманы Шамякіна, сабраныя разам, таксама могуць прэтэндаваць на адпаведны ўзровень, бо ў іх — адлюстраванне цэлай эпохі, якую мы проста называем XX стагоддзем. Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін пайшоў з жыццё разам з гэтай эпохай, пакінуўшы нам багацейшую спадчыну. А нам у XXI стагоддзі — выдаваць і перавыдаваць яго кнігі, вучыцца па іх і — нічога не забываць з урокаў вялікага Настаўніка.

***На здымку: кветкі і словы ўдзячнасці для Настаўніка ад пісьменнікаў Рыгора Сакалоўскага, Алеся Савіцкага, Мікалая Чаргінца.***

## Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Уладзіміра Сіза

# Год Мулявіна

**Гэтая дата выклікае неабыякавасць у самых розных людзей: асоб творчых натхняе на новыя праекты, захопленых аматараў наводзіць на ўспамін і роздум. І можна не сумнявацца, што адзначаць яе мы будзем увесь год, які дзякуючы той самай людской неабыякавасці акрэсліўся ў жыццы многіх прыхільнікаў незабыўнага таленту Уладзіміра Мулявіна як год яго юбілею.**



Мы гаворым "Мулявін" — маем на ўвазе "Песняры", і наадварот. Вось і студзеньскія імпрэзы сталічных музеяў сталіся нагодай для размовы пра традыцыі "Песняроў" у кантэксце мулявінскай творчасці. Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, напрыклад, арганізаваў сустрэчу з тымі, хто ажыццявіў і ў запісе, і на сцэне новае ўвасабленне рок-оперы І. Лучанка — У. Мулявіна, створанай паводле Купалавай паэмы "Курган". Сучасны варыянт гэтай буйной кампазіцыі з рэпертуару "Песняроў" 1980-х быў запісаны на дыск, пазней прадстаўлены ў гала-канцэрце на святкаванні Дня беларускага пісьменства ў Хойніках. Аўтар праекта і выканаўца ролі Гусляра — паэт А. Скарынкін — расказаў прысутным у музеі пра вялікую калектыўную працу па ўзнаўленні знакавага твора і прадэманстраваў фрагменты відэазапісу хойніцкай прэм'еры. Яго расповед і развагі пра актуальнасць зробленага двума вялікімі песнярамі, народным Паэтам і народным Артыстам, дапоўнілі дырэктар музея А. Мацевасян, кампазітар І. Лучанок, музыкант, паплечнік У. Мулявіна У. Місевіч, выканаўца ролі Князя А. Ярмоленка; пісьменнік А. Савіцкі... Мінская прэм'ера гэтай версіі "Кургана" — 21 лютага, у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.

Сваю інтэрпрэтацыю музычнай паэмы "Гусляр" ("Курган") ужо двойчы прадставіў сталічнай публіцы Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам маэстра М. Казінца ды яго творчыя спадзвіжнікі. Прычым другі паказ прэм'еры адкрываў вялікую вечарыну "Канцэрт у дзень нараджэння", прымеркаваную да юбілею У. Мулявіна. Апроч ганараванага авацыяй "Гусляра" жыновічаўцы ў партнёрстве з іншымі шматлікімі музыкантамі, салістамі прэзентавалі праграму "Незабыўнае..." — яркі букет песень У. Мулявіна. У гэтай частцы канцэрта за дырыжорскім пультам натхнёна шчыраваў А. Крамко.

***На здымку: заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Крамко.***

## Повязі

Ірына ТУЛУПАВА

# Спадчына канцлера Румянцава

**Традыцыйныя Румянцаўскія чытанні пройдуць сёлета 9 — 21 красавіка ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы. Іх мэта — садзейнічаць развіццю партнёрства паміж рознымі інстытутамі і структурамі Расіі і Беларусі па вывучэнні багатай гістарычнай спадчыны.**

Летась Румянцаўскія чытанні праходзілі ў Гомелі. Іх арганізатарамі з беларускага боку сталі Гомельскі палацава-паркавы ансамбль, абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. Леніна, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны і Гомельскае абласное "Румянцаўскае таварыства".

Ініцыятыву падтрымалі Гомельскі абласны выканаўчы камітэт і Гомельскі абласны Савет дэпутатаў.

Як вядома, пасля смерці графа Мікалая Румянцава багатая калекцыя яго кніг стала захоўваца ў Расіі. Летась у выставачнай зале Гомельскага палаца Румянцавых-Паскевічаў была разгорнута выстава рэдкіх кніг з фонду Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Многія з прадстаўленых фаліянтаў уваходзілі ў асабістую бібліятэку графа Румянцава, якую ён завяшчаў Айчыне. На выставе можна было пабачыць кнігі, прысвечаныя пытанням гісторыі, геаграфіі, эканомікі, горадабудаўніцтва ды іншыя. Шмат кніг прысвечана стваральніцкай дзейнасці князя Румянцава ў Гомелі. Дзякуючы такім чытанням у Беларусь, у прыватнасці, палацава-паркаваму ансамблю перададзены электронны каталог рукапіснага фонду Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Падарункам сталі кнігі "Евангелие Елисаветградское" і "Евангелие учительное", перавыдадзеныя з арыгіналаў XVI стагоддзя.



Гомельская абласная бібліятэка рыхтуе мерапрыемствы ў межах свайго рэгіёна. На 14 красавіка запланаваны "круглы стол" па праблемах знаходжання, захавання і прадастаўлення ўвазе карыстальнікаў рэдкай кнігі — "Кніга Беларусі: дзяржаўныя і прыватныя калекцыі. Сучасны погляд". 15 красавіка мяркуецца правесці прэзентацыі і сустрэчы, у прыватнасці, з маскоўскім творцам Віктарам Лапатнікавым, аўтарам кнігі, якая выйшла ў серыі "ЖЗЛ", "Канцлер Румянцев".

Будзе арганізавана выстаўка кніг тых часоў, калі ў Гомелі ўладарылі князі Румянцавы.

***На здымку: інтэр'ер палаца Румянцавых — Паскевічаў у Гомелі.***

## З-пад пяра

Завяршаецца конкурс акравершаў "Зорка Венера ўзышла над зямлёю", абвешчаны Літаратурным музеем М. Багдановіча для студэнтаў ВНУ. Конкурс прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння Ганны Рафаілаўны Какуевай, музы Максіма Багдановіча, якой ён прысвяціў мноства цудоўных твораў. Сярод іх былі і акравершы, а таксама, як мяркуюць, знакаміты раманс. Апошні дзень прыёму твораў на конкурс — 8 лютага. Пераможцы будуць абвешчаны 16 лютага, у дзень святой Ганны.

**Юлія МАЦУК**

Добрая вестка прыйшла з далёкага паўночнага Мурманска. Аказваецца, наваго дніх святы дзеці там адзначалі з беларускай казкай пра Цётку Прастуду. Казка належыць пяру беларускага драматурга Наталлі Марчук, а спектакль паводле яе пастаўлены ў Мурманскім абласным драматычным тэатры заслужаным артыстам Расіі Аляксандрам Вадап'янавым. Казка атрымалася музычнай дзякуючы кампазітару Максіму Таўрыкаву. Дзеці і бацькі, якія прыйшлі на спектакль беларускай аўтаркі, засталіся задаволеныя відовішчам.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

Людміла Кебіч выдала чарговую паэтычную кнігу "На беразе белай ракі". Назва невыпадковая. Ураджэнка Краснасельска Ваўкавыскага раёна, паэтэса назаўжды захавала ў сэрцы шэра-белы ад цэментнага пылу колер зямлі, травы, дрэваў. Аднак паводле закону адзінства і барацьбы супрацьлегласцей, менавіта Краснасельскі цэментны завод даў новае жыццё пасёлку, ператварыўшы яго ў сучасны гарадок. Эпітэт "белы" нечакана прарываецца водарам квітнеючых вішань, журчаннем рэчак, што адлюстроўваюць белыя аблокі, і плаўна пераходзіць у дарагое нашаму сэрцу спалучэнне — Белая Русь.

**Ірына ФАМЯНКОВА**

Міжнародная навуковая канферэнцыя "Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах", прысвечаная памяці народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Івана Навуменкі, была праведзена кафедрай беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф.Скарыны. На канферэнцыю з'ехаліся навукоўцы з Украіны, Польшчы, Расіі, Германіі, Сербіі, Ірака. Найбольш запомніліся прысутным выступленні Гун Брыт Колер з Альдэнбургскага ўніверсітэта, якое яна зрабіла на беларускай мове, і іракскага славіста Байэш Жабар Зіяра, які шукаў уплывы творчасці Амара Хаяма ў беларускай літаратуры.

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

Рэдакцыя часопіса "Вясёлка" правяла традыцыйнае ўручэнне прэміі імя Васіля Віткі. Сёлета лаўрэатамі сталі пісьменнікі Мікола Мятліцкі, Павел Саковіч і мастачка Анастасія Лебядзінская, якім уручыў узнагароды галоўны рэдактар "Вясёлкі" Уладзімір Ліпскі. У гэтым годзе прэмія набывае асаблівае значэнне, бо ў маі спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння знакамітага пісьменніка, які стаяў каля вытокаў дзіцячага часопіса і быў яго першым рэдактарам. Ужо трэці год за лепшыя творы, надрукаваныя ў "Вясёлцы", узнагароджваюцца і юныя аўтары. Імянную прэмію У. Ліпскага за 2010 год атрымалі вучаніца гімназіі № 22 г. Мінска Ангеліна Статкевіч і вучань СШ № 2 г. Дзяржынска Саша Бобрык.

**Ліна ЧАРНЯЎСКАЯ**

Марына ВЕСЯЛУХА

# Жаданне пісаць прозу — здзейснілася

**Падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу беларускую сталіцу наведае нямецкая пісьменніца Катрын Шміт, чый раман “Ты не пампрэш” быў названы ў Германіі лепшай кнігай 2009 года. Свой творчы шлях яна пачынала з паэзіі, але пазней звярнулася да прозы. Пра літаратурную творчасць, уплыў прэмій і грамадскага прызнання на асобу пісьменніка, чаканні ад падарожжа ў Беларусь — наша гутарка з Катрын Шміт.**

**— Спадарыня Катрын, свой шлях у літаратуру вы пачалі з паэзіі. Што стала прычынай пераходу да прозы? Гэты пераход для вас быў складаным?**

— Не, цяжка не было. Але да таго як я пачала працаваць вольна, мела шмат работы з дзецьмі... Да 1994 года ў мяне быў поўны працоўны дзень, і на той час я мела чацвёра дзяцей. Маё апошняе дзіця з’явілася на свет у 1996 годзе. Я ўсюды “рабіла” вершы: калі ў трамваі ехала на працу ці калі мыла пялёнкі. Мне патрэбна было толькі запісаць іх у вольную хвіліну. Проза і раней была ў маёй галаве. Але калі мне было гэтым займацца, працуючы восем гадзін на дзень? Як толькі я пачала працаваць вольна, маё жаданне пісаць прозу здзейснілася. У той час як дзеці былі ў садку альбо ў школе, я магла пісаць па 6 — 8 гадзін на дзень. Мой першы раман пабачыў свет у 1998 годзе.

**— Па асноўнай прафесіі вы псіхолаг. Ці дапамагаюць веды псіхалогіі пісаць літаратурныя творы?**

— Думаю, напісанне твораў заўсёды было для мяне натуральнай формай самавыяўлення. Не важна, якой бы прафесіяй я пры гэтым займалася. Нельга адмаўляць той факт, што вывучэнне псіхалогіі наклала адбітак на маё ўспрыманне чалавечага жыцця і існавання і, канечне, на мае творы. Я б сказала так: псіхалогія паўплывала на мае творы, але не стала перадумовай іх напісання.

**— У адным з інтэрв’ю вы казалі, што адасобленыя ад рэчаіснасці і 80 працэнтаў вашага жыцця складае літаратура. Гэта сапраўды магчыма сёння?**

— Няўжо я такое казала? Мне здаецца, што не... Насамрэч я вельмі рэалістычны чалавек, які, аднак, праводзіць строгую мяжу паміж звычайным жыццём, сям’ёй і працай. Мае дзеці не мелі ніякага ўяўлення пра маю працу, пакуль я яшчэ была невядомай пісьменніцай. Я жыву цалкам у рэальнасці.



Фота Вольфганга Гебхарта

**— У вас пяцёра дзяцей. Напэўна, складана спалучаць іх выхаванне з актыўнай працай у літаратуры?**

— Думаю, гэта не лягчэй і не цяжэй, чым калі б у мяне было менш ці ўвогуле не было б дзяцей. Чацвёра маіх дзяцей з’явіліся на свет у часы ГДР. Зразумела, яны наведвалі садок, а я ўвесь час працавала. Калі стала вольнай пісьменніцай, мой працоўны дзень ад гэтага не змяніўся! Безумоўна, я жыву не так, як пісьменнікі-мужчыны, якіх падтрымліваюць жонкі. Доўгі час я не магла нікуды выехаць, рэдка сустракалася з іншымі аўтарамі. Але паміж маім мужам і мной заўсёды было раўнапраўе, інакш нашы адносіны доўгі час не працягваліся б. І праца для нас абаіх заўсёды была вельмі важнай.

**— Раман “Ты не пампрэш” ужо пераклалі на беларускую мову. Як вы лічыце, беларускі чытач успрыме кнігу, зможа яе зразумець?**

— Гэтага я не магу сказаць. “Ты не пампрэш” — кніга пра тое, як чалавек губляе і зноў знаходзіць сваю ідэнтычнасць і ўменне разважаць. На маю думку, гэта тэма, якая ва ўсіх адносінах не мае межаў.

**— За раман вы атрымалі вельмі прэстыжную літаратурную ўзнагароду. Яна змяніла вашу самаацэнку і тое, як вы самі ацэньваеце свае творы?**

— Не, я спадзяюся, узнагарода не зрабіла мяне ганарыстай. Калі я яе атрымала, то была вельмі здзіўлена і адразу падумала пра тых многіх-многіх аўтараў і іх кнігі, якія, магчыма, выпадкова ці з-за таго, што не былі надрукаваны ні ў адным выдавецтве, не падышлі пад крытэрыі журы. Для мяне гэта ўзнагарода як выйгрыш у латарэю, на які я ніяк не магла паўплываць. Яна мяне радуе, але нічога не змяняе.

**— Напэўна, пасля такога поспеху адной кнігі складана было ўзяцца за наступную…**

— Гэта было зусім не складана. Праз некалькі месяцаў пасля таго, як я атрымала ўзнагароду, пабачыў свет новы зборнік вершаў. Праз колькі тыдняў з’явіцца том кароткіх празаічных твораў. Цяпер я працую над новым раманам, які будзе надрукаваны прыкладна ў 2013 годзе.

**— Што з’яўляецца крыніцай натхнення для вас? Адкуль бераце сюжэты для раманаў?**

— Я не шукаю сюжэты для сваіх раманаў, а чакаю, пакуль яны самі мне аб’яўяцца. У маім першым рамане “Экспедыцыя Гунара Ленэфсэна” („Die Gunnar-Lennefsen-Expedition“) гаворка ідзе пра адно вялікае табу з майго дзяцінства: пра паходжанне маёй сям’і па лініі маці з Кёнігсберга, сённяшняга Калінінграда. У часы ГДР пра гэта нельга было казаць услых. Другі раман “Дзеці караля” („Koenigs Kinder“) распавядае пра наступнае табу майго дзяцінства: час турэмнага заключэння майго бацькі. У 1946 годзе яго арыштавала савецкая ваенная адміністрацыя ў Германіі, і ён атрымаў 25 гадоў прымусовых работ. Тэма трэцяга рамана з назвай “Зебахскія чорныя коткі” („Seebachs schwarze Katzen“) — сярэднестатыстычная кар’ера супрацоўніка службы дзяржаўнай бяспекі і яго далейшае жыццё пасля аб’яднання Германіі. А апошні раман “Ты не пампрэш”(„Du stirbst nicht“) мае аўтабіяграфічную аснову. Таму што ў мяне самой у 2002 годзе лопнула мазгавая анеўрызма з усімі вынікамі, што апісваюцца ў рамане.

*“Раман нямецкай пісьменніцы Катрын Шміт “Ты не пампрэш” у 2009 годзе быў названы лепшай кнігай года і атрымаў прэстыжную літаратурную ўзнагароду — нямецкі аналаг Букера. “Ты не пампрэш” — кніга пра вяртанне да жыцця, у ёй пісьменніца расказвае гісторыю жанчыны, якая выходзіць з комы пасля кровазліцця ў мозг, наноў будуе жыццё з аскепкаў старога. Абвінаваціць спадарыню Катрын у пустаслоўі складана — восем год таму яна сама была той жанчынай, пасля кровазліцця ў мозг знаходзілася ў коме. А затым прайшла доўгі перыяд рэабілітацыі, здолеўшы цалкам перамагчы хваробу, што практычна роўна дзіву.*

**— Што вам вядома пра беларускую літаратуру?**

— З перакладаў на нямецкую мову робіш выснову, што беларуская літаратура была нібы падчарыца… Але, безумоўна, мне вядомы такія імёны, як Алесь Адамовіч, чый раман “Карнікі” я з захапленнем чытала шмат гадоў таму, ці Васіль Быкаў. А ў 2004 годзе ў Віперсдорфе я пазнаёмілася з Алесем Разанавым. Ён, як і я, быў там некалькі месяцаў у якасці стыпендыята.

**— Хутка вы наведаеце Беларусь. Чаго чакаеце ад гэтага падарожжа?**

— Мне цікава. Я ведаю Беларусь з ранейшых часоў. Некалькі разоў падлеткам і пазней дарослым чалавекам была ў Мінску. У Брэсце я помню рыначак, які быў зусім блізка ад вакзала. Калі цягнікі пераставілялі на іншыя рэйкі, мы куплялі там пірагі... Тады я хутчэй успрымала Беларусь як частку Савецкага Саюза, а не як самастойную краіну. На маё тагачаснае ўспрыманне накладвалі адбітак урокі гісторыі. Цяпер я хацела б крышку дакрануцца да паўсядзённасці, зноў схадзіць на рынак, паглядзець, што змянілася. На штосьці большае часу наўрад ці хопіць.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Новае нараджэнне

Прэзентацыя калектыўнага зборніка “Сказки детей Беларуси-Märchen belarusishes Kinder”, які ўбачыў свет у рэдакцыйна-выдавецкай установе “Літаратура і Мастацтва”, адбылася ў сталічнай мастацкай галерэі “Беларт”.

Зборнік казак, створаны дзецьмі Беларусі, што ўдзельнічалі ў конкурсе на лепшую казку Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў “Мы — дзецям” у 1990-х гадах, атрымаў другое жыццё. На гэты раз выдадзены на рускай і нямецкай мовах, з маляўнічымі ілюстрацыямі Рыты Цімохавай, ён стане своеасаблівым падручнікам для беларускіх школьнікаў, якія вывучаюць нямецкую мову, а таксама для нямецкіх дзяцей, што вывучаюць рускую мову. Прэзентацыяй зборніка мастацкая галерэя “Беларт” адзначыла сваё другое нараджэнне — цяпер яна будзе працаваць па адрасе: вуліца К. Маркса, 4. На ўрачыстым адкрыцці выступілі людзі, дзякуючы намаганням якіх ажыццявіўся і быў годна прадстаўлены гэты праект і плануюцца іншыя, не менш цікавыя, — старшыня Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў “Мы — дзецям” Яўген Ландзін, мастак Рыта Цімохава, дырэктар мастацкай галерэі “Беларт” Юрый Хмыроў, намеснік генеральнага дырэктара, дырэктар па маркетынгу групы кампаній “ALUTECH” Уладзімір Рыбакоў, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, старшыня таварыства “Беларусь — Польшча”, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, пісьменніца Наталля Голубева.

На пытанне, наколькі сумяшчальныя рэчы кніга і мастацкая выстаўка, дырэктар мастацкай галерэі “Беларт” Юрый Хмыроў адказаў: “Думаю, што вельмі сумяшчальныя. І мастакі-графікі з гэтым пагодзяцца. Нестандартнае рашэнне правесці прэзентацыю ў мастацкай галерэі дало магчымасць прадставіць розныя грані творчасці мастака Рыты Цімохавай, якая, па словах Яўгена Ландзіна, адыграла вырашальную ролю ў згодзе нямецкага боку — урада зямлі Брандэнбург — актыўна падтрымаць выданне зборніка казак.



***На здымку:** старшыня Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў “Мы — дзецям” Яўген Ландзін, намеснік генеральнага дырэктара, дырэктар па маркетынгу групы кампаній “ALUTECH” Уладзімір Рыбакоў, мастак Рыта Цімохава, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч.*

**Напярэдадні XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу карэспандэнт "ЛіМа" сустрэўся з кансультантам Міністэрства інфармацыі, членам Савета беларускага саюза дызайнераў, членам журы Міжнароднага конкурсу "Мастацтва кнігі" Валерыем Рагалевічам, каб паразмаўляць пра сітуацыю з дызайнам беларускай кнігі.**



# Крэатыўны падыход

Алеся ЛАПІЦКАЯ,
фота Кастуся Дробава

**— Валерый Антонавіч, як можна ахарактарызаваць сучасную сітуацыю з дызайнам беларускай кнігі?**

— На такія пытанні лепш за ўсё адказваюць лічбы. Так, на VII Міжнародным конкурсе "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД (чэрвень 2010 г., Масква), дзе былі прадстаўлены 152 выданні з 10 краін СНД і Эстоніі, Беларусь атрымала 6 дыпломаў і па іх колькасці заняла другое месца пасля Расіі (7 дыпломаў). На такіх конкурсах прадстаўнікоў Беларусі заўсёды вітаюць стоячы. На сёлетняй выстаўцы-кірмашы будуць прадстаўлены кнігі-пераможцы апошніх Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў "Мастацтва кнігі", і кожны наведвальнік кірмашу зробіць свае высновы.

Істотнай для нас падзеяй з'яўляецца тое, што ў гэтым годзе ўпершыню прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" быў узнагароджаны творчы калектыў выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі" за стварэнне фотаальбома "Зямля сілы — Белавежская пушча" і альбом "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVI-II — XIX стагоддзяў", які адкрыў новую выдавецкую серыю "Энцыклапедыя рарытэтаў".

**— Як ідзе падрыхтоўка да чарговага нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі"?**

— Сёння наша ўпраўленне працуе над новым Палажэннем аб парадку правядзення нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі". Будуць унесены змены ў тэматычныя, спецыяльныя і персанальныя намінацыі конкурсу. Варта адзначыць, што пералік спецыяльных намінацый штогод змяняецца, дапаўняецца новымі намінацыямі, якія ўлічваюць спецыфіку года, значныя падзеі ў жыцці нашай краіны. Напрыклад, намінацыя "Зямля мая" была прысвечана Году роднай зямлі, "Скарбы Радзімы" — 600-годдзю ўсталявання запаведнага рэжыму ў Белавежскай пушчы, "Вызваленне" — 65-годдзю вызвалення Беларусі, "Наша Перамога" — 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Плануем скараціць колькасць тэматычных намінацый конкурсу, адысці ад драбнатэм'я. Праз скарачэнне колькасці намінацый уздымем прэстыж кожнай з іх.

Зразумела, у Беларусі выходзіць шмат розных добрых кніг, і заўсёды ёсць кнігі-падзеі, над якімі працуюць, укладваючы ўсю душу і сэрца, прафесійная аўтарская калектывы. Такія выданні — падзеі ў нацыянальным кнігавыданні. Наша задача — вызначыць іх, ацаніць належным чынам і прадставіць на міжнародных кніжных форумах.

**— І што вы маглі б вылучыць?**

— Фотаальбом "Чарнобыль" выдавецтва "Рыфтур" — вельмі складаная кніга, за якую Беларусь упершыню атрымала ў 2006 г. Гран-пры на Міжнародным конкурсе "Мастацтва кнігі". У кнізе няма нічога выпадковага, усё прадумана: фармат, фактура, колер, якасныя эмацыянальныя фотаздымкі, выдатны друк… У гэтага выдання – сур'ёзная канцэпцыя, распрацаваная Дзянісам Раманюком, які заўсёды вельмі трапятліва ставіцца да кніг. Праект уражвае сваёй глыбінёй. Я бачыў, як гартаюць гэту кнігу — тут усё ўплывае на свядомасць, на падсвядомасць, на эмацыянальны стан чалавека.

Бясспрэчны поспех выдавецтва "БелЭн" — выданне фотакнігі "Зямля сілы. Белавежская пушча" (2009 г.). Аўтарскі калектыў здолеў стварыць сапраўдную паэму пра запаведны куток нашай Беларусі. Выдатная праца фатографаў, дызайнераў, ілюстратара, каліграфа, мастацкіх і тэхнічных рэдактараў.

Вельмі сур'ёзна працуе над кнігай каманда выдавецтва "Паліграфіка": "Брест на перекрестке эпох и дорог" і "Брестская крепость. Война и мир" — высокамастацкія, складанаструктурныя выданні, якія вылучаюцца найвышэйшай выдавецкай культурай.

У 2010 годзе выдадзена кніга пра кнігу "Никогда не забудем" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). У гісторыі суверэннай Беларусі не выдавалася нічога, прысвечанага тэме вайны, на такім высокім мастацкім узроўні. У кнізе вельмі пераканаўча і эмацыянальна перададзена мастацка-графічнымі сродкамі тое, што перажылі дзеці вайны.

**— Калі казаць пра ілюстраванне кніг, то з гэтым ёсць пэўныя праблемы?**

— Такія знакамітыя мастакі старэйшага пакалення, як Арлен Кашкурэвіч, Георгій Паплаўскі, Васіль Шаранговіч, Уладзімір Савіч, з-за розных падстаў актыўна не працуюць у кніжнай ілюстрацыі. З'ехаў у Францыю Барыс Забораў, пайшоў з жыцця Мікола Селяшчук… Прыходзіць таленавітая моладзь: Павел Татарнікаў, Ігар Гардзіёнак, Раман Сустаў, Уладзімір Даўтяла, Тамара Шэлест, Рыта Цімохава, Юры Алісевіч і іншыя. Але нашы выдавецтвы на сённяшні час не могуць стварыць умоў для плённай працы над кнігай. Таму гэтыя мастакі шукаюць магчымасці рэалізаваць свой творчы патэнцыял у іншых сферах. Затое мы заўсёды рады, калі маладыя мастакі выяўляюць жаданне паспрабаваць свае сілы ў ілюстраванні кніг.

Адзін з сур'ёзных ілюстрацыйных цыклаў апошняга часу — кніга "Чароўны свет", якая выйшла ў 2008 г. у выдавецтве "БелЭН" і ўжо вытрымала перавыданне. На кожны разварот — выдатная палосная ілюстрацыя Валерыя Славука, прафесара кафедры графікі БДАМ, лаўрэата дзяржаўнай прэміі. Адразу бачна: прафесійны мастак працаваў добрасумленна, для яго гэта сур'ёзны жыццёвы і творчы этап.

**— Як змянілася аблічча кнігі ў выніку камп'ютарызацыі?**

— З аднаго боку — камп'ютар дае вялікія магчымасці для дызайнераў кнігі, магчымасць падрыхтаваць пастаронкавы арыгінал-макет непасрэдна ў выдавецтве, што значна скарачае тэрмін выдання кнігі. З іншага боку — камп'ютар дае магчымасць нават спецыялістам тэхнічных прафесій, якія валодаюць пакетам дызайнерскіх праграм, займацца дызайнам кнігі, а гэта адлюстроўваецца на якасці выданняў не лепшым чынам. Добры той камп'ютарны кніжны дызайн, у якім камп'ютара не бачна. Камп'ютар — гэта сродак. Непасрэдна на камп'ютары робіць ілюстрацыі Уладзімір Лукашык, але Мікалай Казлоў, Наталля Сустава, Таццяна Беразенская, Валерый Славук і іншыя выдатна працуюць у традыцыйных тэхніках. Жывая лінія вельмі цэніцца за мяжой, таму нашы мастакі там выключна запатрабаваныя.

**— Такім чынам, ёсць кнігі — маштабныя праекты, ёсць дзіцячая кніга, якая не можа існаваць без малюнкаў. А як справа з ілюстраваннем мастацкай літаратуры?**

— Ілюстрацыі не робяць кнігу значна даражэйшай, але выдавецтвам прыходзіцца вырашаць шэраг праблем, дый мастакі часам не ўкладваюцца ў тэрмін. Разам з тым, малюнак — не адзіны вывяўленчы сродак. Нават калі не будзе ілюстрацый, але дызайнер прадумае шрыфт, палі, фармат, колеравы клімат выдання, гэта будзе вызначаць настрой кнігі. Можна зрабіць палосную ілюстрацыю і намаляваць дождж, але гэта будзе вельмі традыцыйна — выява дажджу можа быць і на палях, па ўсім кніжным блоку. Дызайн кніг вельмі ўплывае на ўспрыманне тэксту: творы класікаў у новых выданнях з якасным афармленнем успрымаюцца больш па-сучаснаму. З новым дызайнам, партрэтамі, што выяўляюць этапы станаўлення пісьменніка, выходзіць у "Мастацкай літаратуры" збор твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах, "Беларуская навука" заканчвае працу над выдатным трынаццацітомнікам Максіма Танка.

Сёння вельмі запатрабавана серыя "Школьная бібліятэка", для якой Аляксандр Цароў распрацаваў вокладку, тытульны ліст, прынцып вёрсткі. Гэта другая ў Беларусі міжвыдавецкая серыя — гэта значыць, што розныя дзяржаўныя выдавецтвы робяць кнігі серыі, але кнігі павінны быць аднолькавымі па афармленні. Міжвыдавецкай была статрыццацітомная серыя гісторыка-дакументальных хронік "Памяць".

Безумоўна, у Міністэрстве інфармацыі вельмі ўважліва ставяцца да архітэктонікі кніг, іх мастацкай структуры, да іх афармлення і ілюстравання і, безумоўна, да запатрабаванасці кнігі. Творчая думка, крэатыўны падыход, прафесіяналізм былі, ёсць і будуць асновай кніжнай справы.

*На здымку: Валерый Рагалевіч з кнігай "Никогда не забудем".*

# Нямецкія старадрукі

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі вядомая як месца, дзе можна знайсці любыя кнігі беларускіх і расійскіх выдавецтваў. Але мала хто ведае, што ў навукова-даследчым аддзеле кнігазнаўства захоўваецца каля 26 тысяч заходнееўрапейскіх стaрадрукаў — з іх каля 7500 кніг выдадзеныя на нямецкай мове. Цёмныя скураныя вокладкі, строгія гравюры, гатычны шрыфт — здаецца, гэтыя кнігі толькі што стаялі на паліцах манастырскай бібліятэкі…**

Алеся ЛАПІЦКАЯ,
фота Кастуся Дробава

Самая ранняя друкаваная кніга, што захоўваецца ў НББ, — "Гісторыя Апалонія, караля Цірскага", першы пераклад грэчаскага рамана на нямецкую мову, надрукаваны ў Германіі ў 1471 г. — прыкладна праз 30 гадоў пасля вынаходніцтва кнігадрукавання Іаганам Гутэнбергам! З 43 інкунабул (так пяшчотна — ад лац. "калыска, ранняе дзяцінства" — называюць кнігі, выдадзеныя да XVI ст.) 19 кніг выдадзеныя ў Германіі. Большасць з іх — трактаты антычных філосафаў і рэлігійныя тэксты на лацінскай мове. Адзін з самых цікавых экземпляраў — "Кніга хронік" Шэдэля, у якіх аўтар, згодна з тагачаснымі ўяўленнямі, імкнецца распавесці гісторыю свету ад яго стварэння. У выданні змешчана больш як 1400 ілюстрацый, прычым, упершыню за ўвесь час існавання друкаванай кнігі мастакі падпісалі гравюры сваімі імёнамі.

З 50 нямецкіх кніг першай паловы XVI ст. у фондзе бібліятэкі маюцца 17 прыжыццёвых выданняў Марціна Лютэра, у тым ліку пропаведзі і перакладзенае ім на нямецкую мову Пяцікніжжа Маісея — небяспечных кніг, за шмат якія нашы экзэмпляры, — распавядае загадчыца аддзела Галіна Кірэева. — У XIX ст. улюбёнай была французская мова, але нямецкую вывучалі таксама, асабліва студэнты Варшаўскага, Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэтаў. Да таго ж, жыхары нашай краіны былі цалкам у рэчышчы еўрапейскай культуры і, натуральна, любілі чытаць нямецкую літаратуру ў арыгінале…"

Значная колькасць нямецкіх кніг эпохі Асветніцтва — творы па філасофіі, эканоміцы, прыродазнаўчых навуках (улюбёны экспанат бібліятэкараў — выданне нямецкага натураліста А. Розэнгофа сярэдзіны XVIII ст. з ілюстрацыямі, расфарбаванымі ад рукі), а таксама кнігі мастацкай літаратуры і перыядычныя выданні. У бібліятэцы маюцца тры тамы Берлінскага выдання першага збору твораў Гётэ, 1775 — 1776 гг., дзе былі выкарыстаны малюнкі аднаго з найлепшых на той час нямецкіх гравёраў Даніэля Ходавецкага.

"Найкаштоўны экземпляр фонду — выдадзены ў 1809 г раман І. Ф. Гётэ ("Die Wahlverwandschaften") ("Выбіральнае падабенства"), на верхнім форзацы якога змешчаны даравальны надпіс, зроблены рукой самога Гётэ ў



якія ў эпоху Рэфармацыі можна было паплаціцца жыццём. Некаторыя з гэтых выданняў ілюстраваныя Лукасам Кранахам — вядомым нямецкім гравёрам, сябрам Лютэра, што жыў у Вітэнбергу. На Беларусі няма асобных арыгінальных работ Л. Кранаха, А. Дзюрэра, затое кожны, хто цікавіцца мастацтвам, мае магчымасць пагартаць стaрадрукі, ілюстраваныя іх гравюрамі.

Адзін з адметных экзэмпляраў з кніг XVII ст. — "Падарожжа" А. Венера, выдадзенае ў 1622 г. У кнізе змешчаны апісанні замежных краін, вядомых палітычных дзеячаў. Выданне належала беларускаму памешчыку Ягору Бараноўскаму (1821 — 1914), які зрабіў добрую дыпламатычную кар'еру ў Расіі, ажыццявіў кругасветнае падарожжа і ў сталым узросце вярнуўся на сваю сядзібу Выдранка (Магілёўская вобласць). Кнігу Венера Бараноўскі, верагодна, набыў на аўкцыёне падчас падарожжа ў Германію; увогуле ж Бараноўскі меў добрую бібліятэку, падручнікі, слоўнікі, кнігі пра падарожжы. Бараноўскі нават замовіў уласны экслібрыс (кніжны знак з прозвішчам уладальніка кнігі) у мюнхенскага мастака Бота Шміта.

"Значная частка замежных выданняў, якія маюцца ў нашым аддзеле, належыць яшчэ да даваеннага збору: беларусы вучыліся ў нямецкіх універсітэтах, падарожнічалі, таму нямецкія кнігі меліся ў магнацкіх, манастырскіх, царкоўных бібліятэках. Штампамі Магілёўскай духоўнай семінарыі, Полацкага езуіцкага калегіума пазначаны

1812 г. — расказвае супрацоўнік аддзела Вераніка Высоцкая. — Гэтую кнігу Гётэ разам з лістом даслаў Леапольду фон Лэмелю, з якім вёў перапіску па фінансавых пытаннях, Лэмель перадараваў кнігу сваёй нявесце — Сафі Зэлігман". У фондзе НББ захоўваецца яшчэ адна кніга, якая належала сям'і Лэмеляў — зборнік кулінарных рэцэптаў 1839 г. з уладальніцкім запісам дачкі Лэмеля Аўгусты. Нямецкія кнігі, выдадзеныя да XX ст., друкаваліся выключна гатычным шрыфтам, у адрозненне ад італьянскіх альбо французскіх, якія друкаваліся зразумелай нам антыквай (больш зручны для чытання шрыфт прапанаваў у пачатку XVI ст. венецыянскі выдавец Альд Мануцый). З-за гэтага чытаць і апісваць нямецкія стaрадрукі даволі складана, дый людзей, якія вывучаюць і даследуюць старыя нямецкія кнігі, зусім не шмат. Між тым, кожны чытач бібліятэкі можа замовіць любую кнігу, выдадзеную пасля 1830 г. — ад вышэйзгаданага зборніка кулінарных рэцэптаў да працы аднаго з заснавальнікаў параўнальнай граматыкі індаеўрапейскіх моў Ф. Бопа.

Цікава было б разгадаць таямніцы кніг, што праз мноства рук невядомым шляхам трапілі ў фонды Нацыянальнай бібліятэкі. Гэтыя выданні — вялікі скарб, а скарбы існуюць не толькі для таго, каб іх беражліва захоўвалі, але і для таго, каб імі карысталіся. Іншая справа, якім чынам дапамагчы заходнееўрапейскім стaрадрукам знайсці сваё месца ў сучасным жыцці.

# Мінск — Берлін — Масква — Мінск

## Германіяна Яўгена Барычэўскага

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**Для літаратуразнаўчай ды і наогул усёй гуманітарнай навукі XIX — пачатку XX стагоддзя асноўным цэнтрам прыцягнення была філасофская думка Германіі. Еўропа жыла адзіным полем мыслення, але так сталася, што выдавецтвы нямецкіх універсітэтаў кожны год выпускалі кнігі цалкам наватарскія, якія пасля засвойваліся іншымі краінамі — Францыяй, Англіяй, Расійскай імперыяй (веданне нямецкай мовы для філолагаў і філосафаў усяго свету было тады абавязковым). Не знікла гэтая з'ява і да пачатку 1920-х гадоў, калі ў Беларусі быў арганізаваны Інбелкульт і ўніверсітэт і, адпаведна, узніклі навуковыя філалагічныя асяродкі.**



Аднак нямецкая метадалагічная думка не была тады аднароднай, у ёй існавала некалькі напрамкаў і школ. Кожны з вучоных мог абіраць свой. У сувязі з гэтым падзяляліся і прыхільнікі — феменалогіі Гусэрля, неакантыянства бадэнскай ці марбургскай школы альбо свабоднае мысляворчасці кштэлту Карла Фослера ці Георга Зімеля.

Апошняга абраў сваім настаўнікам вядомы беларускі філолаг Яўген Барычэўскі.

Як вядома, ён нарадзіўся ў Мінску ў сям'і натарыуса, калежскага асэсара Івана Казіміравіча Барычэўскага. Акрамя таго, што ён скончыў мінскую класічную гімназію і што ў бацькавым доме па Мала-Манастырскім завулку (сёння Герцэна) была неблагая бібліятэка, звестак практычна больш няма. Як жа дваццацігадовы мінскі юнак мог так зацікавіцца нямецкай філасофіяй, каб паехаць паступаць у далёкі Берлінскі ўніверсітэт?

Прычын і падстаў можа быць некалькі. Адна з версій з'явілася ў мяне пасля вывучэння архіву спачылай летась Яўніі Барычэўскай, дачкі вучонага. Як вынікае са зместу паштовак Яўгена Барычэўскага да родных, верагоднае дзявочае прозвішча маці вучонага, Соф'і Аляксандраўны, — Фохт. Таксама з папер БДУ відаць, што для ўстанаўлення сваёй асобы С. А. Барычэўская прадастаўляла выпіску з метрычнай кнігі лютэранскай абшчыны г. Мінска. Гэта дазваляе выказаць меркаванне пра тое, што "па кудзелі" Яўген Барычэўскі паходзіў з этнічных немцаў.

Але ўсё гэта здагадкі. Зрэшты, і гэтага хапіла б: добрае веданне нямецкай мовы і чытанне з малых гадоў талковай літаратуры многа дае. Факт адзін: на самым пачатку XX стагоддзя Яўген Барычэўскі едзе ў Берлін, паступае на філасофскі факультэт і слухае курс Георга Зімеля. Што гэта быў за вучоны, Барычэўскі пазней раскажа ў разгорнутым некралогу "Философ-художник (Памяти Георга Зиммеля)". Артыкул быў змешчаны ў друкаваным органе маскоўскага Наркамасветы (дзе і працаваў Барычэўскі ў 1918 — 1921 гг.) — часопісе "Художественная жизнь" у 1920 годзе. З прычыны таго, што гэты і многія іншыя артыкулы Барычэўскага маскоўскага часу не згадваюцца ў біябібліяграфічных даведніках, дазволім сабе прывесці аб'ёмную цытату адтуль: "Сярод нешматлікіх рэдкіх навін, што дайшлі да нас у толькі што адышоўшым годзе праз наглуха забітае акно ў Еўропу (sic! — *Ц. Ч.*), была вестка пра смерць аднаго з самых вострых і глыбокіх мысляроў і вытанчаных эстэтыкаў нашага часу, — Георга Зімеля. Паміж філасофаў універсітэцкай Германії Георг Зімель стаяў самотна. Анічога школьнага, анічога дагматычнага не было ў ягонай істоце. Уваходзячы ў аўдыторыю універсітэта, ён прыносіў з сабой повеў і трымценне іншага, больш тонкага і складанага жыцця, жыцця сучаснага вялікага горада. Дух гэтага жыцця, хваравіта-ўражлівы, выкшталцона-аналітычны, які атрымлівае асалоду ад вастрыні і трапнасці свайго аналізу і ў той жа час пакутуе ад яго і дзесьці ў спратах захоўвае думку пра цуд, нервова б'ецца нават у такім, паводле ўяўленняў староннята абывателя, самазадаволеным і не надта чуйным горадзе, як Берлін, — горадзе, у якім прайшла амаль уся акадэмічная дзейнасць Зімеля. Але дух гэтага новага жыцця мала адчуваецца ў германскай філасофіі, якая дагэтуль жыве старой і моцнай верай у абсалютныя нормы маралі і логікі. З Зімелем у гэты свет рацыяналістычнага дагматызму, які ўмее пастаяць за сябе, уварвалася плынь новай культуры.

Ён не быў педагогам у звычайным сэнсе гэтага слова; ён быў мысляром, які меў пакліканне зачароўваць слухачоў сваёй здольнасцю не толькі чытаць з кафедры, але і мысліць на кафедры. Выкшталцоныя і стройныя пры ўсёй сваёй складанасці, яго лекцыі, нягледзячы на ілюзію імправізацыі, якую яны часта стваралі, былі, бясспрэчна, абдуманы дома, балазе яны звычайна былі толькі спадарожнікамі новай, яшчэ не напісанай кнігі. Але адчувалася: яго думкі, што нядаўна ўзніклі, яшчэ раслі, і што тут, на кафедры, пад уплывам напружанай увагі слухачоў яны былі здольныя атрымаць новыя адценні, знаходзіць для сябе новыя падставы, адкрываць нечаканы працяг. Яго слухачы былі сведкамі і ўдзельнікамі яго нованароджанай думкі, і гэтая радасць суперажывання — радасць і для іх, і для яго — рабіла абстаноўку лекцый асабліва інтымнай". Ідэал педагога, якому Барычэўскі заўсёды імкнуўся адпавядаць.

Нягледзячы на тое, што ў Берліне Барычэўскі правучыўся толькі адзін курс (у сям'і нашчадкаў Барычэўскага засталося паданне, што ў Берліне яму было вельмі самотна), любоў да першага настаўніка захавалася назаўжды. Праз дваццаць гадоў, дасылаючы з Масквы ў БДУ сваё curriculum vitae, ён напіша: "учился у Георга Зиммеля, сторонником философских методов которого являюсь" (НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 754, л.3). І нават у ліхія 1930-я, калі яму даводзілася апраўдвацца, маўляў, "у маіх ранейшых працах заўважаецца значны ўплыў буржуазнага нямецкага літаратуразнаўства. Перада мной… задача канчаткова перамагчы гэты ўплыў. Я думаю, што [у] апошніх працах ёсць значныя крокі ў набліжэнні да марксісцкага мэтаду", Барычэўскі адзначаў: "Усё ж нават і апошнія працы зараз яшчэ не здаюцца мне здавальняючымі" (Чарнавік аўтабіяграфіі. Пачатак 1930-х, БДАМЛМ, ф. 329, воп. 1, спр. 10, л. 1 — 2 адв.). Ягоным цэнзарам — Я. Браніштэйну, В. Бухаркіну, В. Вольскаму, Я. Ліманоўскаму — было зразумела: прафесар не здольны перабудавацца, занадта моцная закваска. Зрэшты, парадаксальна атрымлівалася так, што нават у дыялектычным матэрыялізме Барычэўскі разбіраўся лепш за марксістаў. Кепска было толькі тое, што веды не ратавалі, бо дактрына мянялася кожны дзень, а гэта ўжо да навукі не мела ніякага дачынення.

Другі перыяд "германіяны" Барычэўскага быў звязаны з Масквой. Ён паступае на філасофскае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта і вучыцца, "главное внимание уделяя философии искусства" (НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 754, л. 3). Калі ўніверсітэт абвяшчае конкурс на напісанне работы па тэме "Трансцэндэнтальны рэалізм Гартмана", тэкст Барычэўскага прызнаецца лепшым, яму прысуджаецца залаты медаль і даецца прапанова застацца пры кафедры філасофіі для падрыхтоўкі да прафесарскага звання.




У гэты час Яўген Барычэўскі найбольш займаецца перакладамі. Наогул, што да валодання замежнымі мовамі, то ў рэгістрацыйнай анкеце БДУ ў адпаведным пункце ён пазначыў іх пяць: французскую, нямецкую, польскую, лацінскую і грэчаскую (НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 874, л. 1). Перакладаў прынамсі з дзвюх — нямецкай і французскай. Займаўся гэтым у 1900-я гады пастаянна. Вось як успамінае сваё знаёмства з Я. Барычэўскім крытык і эстэтык Канстанцін Локс (малодшы сучаснік Барычэўскага, у той час ён таксама вучыўся на філасофскім аддзяленні — дарэчы, разам са сваім сябрам-аднакурснікам Барысам Пастэрнакам), аўтар мемуарнай кнігі "Аповесць пра адно дзесяцігоддзе": "Мы ўвайшлі ў вялікі, добра абсталяваны з пэўнымі эстэтычнымі прэтэнзіямі пакой, які мала нагадваў нашыя жалю вартыя халупы. Гаспадар ішоў нам насустрач, ветла ўсміхаючыся. Гэта быў малады чалавек, хутчэй маленькага, чым сярэдняга росту, што праяўлялася ў абцасах ягоных ботаў, гжэчны, ён трохі нагадаў мне маркіза XVIII стагоддзя. У ягонай знешнасці і манерах было нешта польскае. Так яно і аказалася ў далейшым. Бацька яго, Іван Казіміравіч, натарыус у Мінску, быў бясспрэчна "па мячы" палякам, і сам Яўгеній Іванавіч, які выдатна валодаў польскай мовай, зразумела, быў увесь прасякнуты польскай культурай, тонкай, выкшталцонай, крыху хітраватай і арыстакратычнай… Пагаварыўшы пра Шэстава, пра сімвалістаў і сучаснасць, Барычэўскі ўзяў са стала маленькую жоўтую кніжачку. — Я толькі што скончыў пераклад некалькіх старонак з Марсэля Швоба, — прамовіў ён, — я пачытаю, калі хочаце?

Пераклад быў ахайна перапісаны ў невялікі самаробны сшытачак. Пазней я бачыў у яго шмат падобных сшытачкаў. У іх утрымліваліся ягоныя афарызмы, урыўкі і пераклады. Аркушы былі закладзеныя чырвонымі кляновымі лістамі. Я. І. чытаў пераклады з "Le livre de Monelle". Марсэля Швоба мала хто памятае цяпер. Адзін з самых глыбакадумных і выбітных пісьменнікаў эпохі сімвалізму. "Le livre de Monelle" — шэраг вельмі тонкіх афарызмаў; іх тэма — індывідуаліст, які ўзыходзіць на касцёр і спальвае сябе ў полымі кахання і неспатоленай пяшчоты.

— Не азірайся назад, — чытаў Барычэўскі, — бо за табою пажар Садому, і ты абернешся ў статую акамянелых слёз. Глядзі на ўсё ў святле імгнення.

— Дарэчы, — дадаў ён, — перакласці гэта вельмі цяжка. Regarde en toutes les choses sous l'aspect du moment. "Sous l'aspect" — па-руску "з пункту гледжання" — немагчыма, — я пераклаў "у святле імгнення". Цяпер бы я сказаў яму, што ён пераклаў няправільна, бо аспект — тэрмін астралагічны, і Манэла, якая прарочыць свой лёс, павінна была карыстацца менавіта гэтым тэрмінам. Сёння я так і пераклаў бы: "Глядзі на ўсё ў аспекце імгнення". Мы пазахапляліся Швобам, пагаварылі пра нашых прафесароў. Паводле рускага звычаю скончылі нашу размову тым, што ўсіх аблаялі… і разышліся".

Французскія пераклады хутчэй за ўсё засталіся ў рукапісе. Яшчэ і сёння ў фондзе Барычэўскага ў БДАМЛМ, а таксама ў нашчадкаў вучонага захоўваецца некалькі згаданых сшытачкаў. Нямецкія пераклады знайшлі большае пашырэнне, і перадусім дзякуючы лідару маскоўскага неакантыянства — Барысу Фохту. Апошні ў сярэдзіне 1900-х гадоў разгарнуў маштабную педагагічную дзейнасць — у гімназіях, на Вышэйшых жаночых курсах, у Таварыстве народных універсітэтаў — і адначасна вёў курс па неакантыянстве ў сваёй кватэры. Але падручнікаў катастрафічна не хапала. Тады Б. Фохт засноўвае навуковую серыю "Kantiana", дзе збіраецца надрукаваць асноўныя працы замежных кантазнаўцаў. Ужо ў другім выпуску, працы Ёгана Шульца "Тлумачальны выклад "Крытыкі чыстага розуму": дапаможнік для чытання" (Масква, 1910) працу над перакладам у суаўтарстве ажыццяўляе Я. Барычэўскі. Але яшчэ раней у ягоным перакладзе, пад рэдакцыяй і з прадмовай Б. Фохта выходзіць кніга Бродэра Хрысціянсэна "Псіхалогія і тэорыя пазнання" (М., 1907). На той час гэта быў адзін з культавых нямецкіх філосафаў, аўтар знакамітай "Філасофіі мастацтва". Нездарма на гэтую перакладную працу Барычэўскага адгукнуўся рэцэнзіяй у часопісе "Весы" вядомы паэт-сімваліст і філосаф Андрэй Белы. Не спыняліся і аўтарскія публікацыі. На жаль, іх праблематычна адшукаць у мінскіх бібліятэках — няма нават падшывак адпаведнай маскоўскай перыёдыкі. Вядомы толькі дзве рэцэнзіі 1908 года на кнігі нямецкіх філосафаў Лааса і Меймана ў часопісе "Вопросы философии и психологии". У аўтабіяграфіі Барычэўскі называе таксама свой артыкул "Ницше и Франция", але дзе і калі ён быў надрукаваны — невядома.

Наступная і ў той жа час апошняя ў маскоўскай перыёдыцы германазнаўчая публікацыя вучонага — "Философия экспрессионизма" ў альманаху "Шиповник" (Масква, 1922). Па сутнасці, гэта таксама агляд дзвюх кніг нямецкіх эстэтыкаў Германа Бара і Франца Ландсбергера (нядаўна рэцэнзія ўвайшла ў акадэмічную анталогію "Русский экспрессионизм: Теория. Практика. Критика" (М., 2005) пра беларуса Барычэўскага там, праўда, нічога не паведамляецца). Зрэшты, у 1910-я гады вучоны цалкам перайшоў ад філасофіі да вывучэння літаратуры.

Трэці і найбольш вядомы перыяд — беларускі. Вясной 1922 года Я. Барычэўскі перабіраецца на сталае жыццё ў Мінск (да таго чытаў лекцыі наездамі), дзе пачынае працаваць у БДУ, Інбелкульце, Камуніверсітэце, друкуецца ў выданнях "Маладняка", "Узвышша", але дэбют ягоны ў беларускамоўнай перыёдыцы стаўся ў 1925 годзе ў часопісе "Полымя". Артыкул "Літаратурныя погляды і густ сучаснай Нямеччыны" з'яўляецца як бы працягам рускамоўнай "Філасофіі экспрэсіянізму". Ясна, што гэты напрамак у той час надзвычай хваляваў Барычэўскага, ад імёнаў філосафаў Гусэрля, Шпенглера, Ніцшэ ён свабодна пераходзіць да творчасці Майрынка, Верфеля, Георге і даробку эстэтыкаў Гільдэбранда, Левандоўскага, Вальцаля, Рэйнахера. На кнігу "Твор слоўнага мастацтва" Аскара Вальцаля ён яшчэ адгукнецца рэцэнзіяй ва "Узвышшы" ў 1927 годзе, але, па вялікім рахунку, у 1920-я гады назіраецца спад зацікаўленняў вучонага нямецкім мастацтвам слова. На змену прыходзіць напружаная педагагічная дзейнасць і доследы ў галіне агульнай паэтыкі, а таксама эстэтыкі новай беларускай літаратуры (дарэчы, некаторыя з беларусазнаўчых публікацый з'явіліся і ў нямецкамоўным часопісе "Slavische Rundschau", пра што ў свой час пісаў У. Сакалоўскі). Усплёск адбываецца толькі на пачатку 1930-х гадоў, калі ў юбілейныя дні Ё. В. Гётэ Барычэўскі публікуе ў часопісах "Маладняк і рэвалюцыя", "Полымя рэвалюцыі" і газеце "Літаратура і мастацтва" шэраг аналітычных артыкулаў памяці вялікага германца. Планавалася і выданне кнігі ў Белдзяржвыдавецтве, але ўзніклі перашкоды. Побач з артыкуламі у "Полымі" вучоным былі выдрукаваны і шэраг афарызмаў (улюбёны жанр Барычэўскага!) Гётэ ў перакладзе на беларускую мову. Са смерцю ў 1934 годзе скончылася і "германіяна" Я. Барычэўскага. Вядома, што захаваліся запісы ягоных лекцый па заходнееўрапейскай літаратуры, і, магчыма, неўзабаве "нямецкі след" у спадчыне Барычэўскага папоўніцца яшчэ адной публікацыяй.

***На здымках:** Я. Барычэўскі (1900-я); берлінская паштоўка студэнта-філосафа.*

***Фота з архіва сям'і Барычэўскіх***

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Перакладчык «Халоднага сэрца»

**Калі правесці асацыятыўны тэст, разлічаны на сучасных аматараў беларускай літаратуры, рэакцыяй на прозвішча “Бахарэвіч” у большасці выпадкаў, верагодна, будзе слова “Нямеччына”. Шмат хто ведае пра прыхільнасць пісьменніка да гэтай краіны, дзе апошнія некалькі гадоў ён жыве і працуе. Каштоўнае тое, што асэнсаванне жыцця за мяжой мела вынікам напісанне не толькі эсэ ці падарожных дзённікаў, як яно звычайна здараецца ў беларускіх літаратараў, але і стварэнне больш буйных твораў, апошні з якіх — “Пасьлямова перакладчыка” да казкі “Халоднае сэрца”. Кніга выйшла ў 2009 г., але паколькі рэцэнзій на яе пакуль не было (на жаль, да гэтага аргумента можна звяртацца, пачынаючы пісаць пра самыя розныя кнігі), мае сэнс пагартаць яе старонкі і расказаць пра яе чытачу. Тым больш што гэтае выданне, у адрозненне ад іншых кніг Бахарэвіча, пакуль яшчэ трапляецца на паліцах кнігарняў.**
**Варта, аднак папярэдзіць: Achtung[*]! “Пасьлямова…” — твор не для ўтульнага чытва…**

Кніга “Халоднае сэрца” (Мінск, “Галіяфы”, 2009 г.) складаецца з двух частак: перакладу аднайменнай казкі нямецкага пісьменніка Вільгельма Гаўфа (1802 — 1827) і “Пасьлямовы перакладчыка”, якім, натуральна, з’яўляецца Альгерд Бахарэвіч. “Халоднае сэрца” шмат хто, верагодна, памятае з дзяцінства: гісторыя пра вугальшчыка Пэтэра Мунка запамінальная нямецкім каларытам (пры выключнай лаканічнасці апісанняў), адмысловым настроем, які вынікае з уласцівай менавіта гэтаму аўтару суаднесенасці рэальнага і фантастычнага, і нязвыклымі казачнымі героямі, першы з якіх — Шкляны Чалавечак — рухавы дзядок у адзенні са шкла, здатны не толькі паспачуваць, але і бразнуць якога нягодніка аб зямлю.

Мараль казак, пра якую так дбаюць бацькі і выхавацелі, верагодна, фіксуецца ў дзіцячай падсвядомасці, аднак мала хто з малечы на ёй сапраўды засяроджваецца. Між тым праблема, якую аналізуе Гаўф, даволі рэдкая для казак, на якіх раслі беларусы. Звычайна чароўны дарунак, які атрымлівае галоўны герой у развязцы твора, з’яўляецца платай альбо ўзнагародай за выключны ўчынак альбо пэўныя маральныя якасці. Але як дадуць рады хлопцы-асілкі, хітраватыя сяляне і замораныя гаспадаркай падчаркі з нечаканым багаццем, палацам і немалымі зямельнымі ўладаннямі? Ёсць казкі, што заканчваюцца самым цікавым, а ёсць такія, якія з самага цікавага пачынаюцца — да іх якраз і належыць “Халоднае сэрца” Вільгельма Гаўфа.

У гэтым творы чароўны дарунак з’яўляецца ў самым пачатку казкі: Мунк лічыць, што беднасць і не надта прэстыжная праца даюць яму права на дармовыя грошы і “самую прыгожую і багатую гуту ва ўсім Шварцвальдзе”. Хлопец атрымлівае жаданае, але высвятляецца, што Мунк не мае асаблівага розуму, належнага імпэту і прадпрымальніцкіх здольнасцей, дый літаральна праз тыдзень пасля здзяйснення сваёй мары пачынае стала завітваць у карчму.

“Трымайся далей ад карчмы і яе заўсёднікаў, такія месцы і такія людзі яшчэ нікога не даводзілі да дабра”; “Ты захацеў стаць гутнікам, ня ведаючы, куды будзеш прадаваць шкло? Розуму, Пэтэр, розуму і разважлівасці – вось чаго табе не хапала”; “Грошы і марнатраўства сапсавалі цябе настолькі, што тваё сэрца ператварылася ў камень і ня ведала больш ні радасьці, ні пакуты, ні раскаяньня, ні спачуваньня” — так размаўляе з былым вугальшчыкам Шкляны Чалавечак. Падкрэслім трыма рыскамі: нарэшце пад вокладкай з прозвішчам Бахарэвіча з’явіўся “правільны” герой, маральныя арыенціры і выхаваўчы прыклад, што абавязкова павінна быць занесена ў “адмысловы рэестр” грахоў і дасягненняў пісьменніка.

Што да працягу казкі, то сыходзячы з “Вечара напярэдадні Івана Купалы” М. Гогаля ці “Шляхціца Завальні” Я. Баршчэўскага чытач ужо ведае: колькі б грошай ні дала за душу нячыстая сіла, нічога добрага з гэтага не атрымаецца. Дый народныя паданні заўсёды перасцерагаюць: скарб — закляты, шукаць яго складана і небяспечна, дый незаробленыя, незаслужаныя грошы не прынясуць уладальніку шчасця…

У “Пасьлямове перакладчыка” — сучаснае асэнсаванне праблемы лёгкіх грошай і прагі да прыгожага жыцця. Бахарэвіч пераносіць мадэль паводзін Мунка на безыменнага перакладчыка: ён таксама апынаецца ва ўладзе інфернальных істот, нібы выпадковых здарэнняў, ён таксама не можа даць рады з самім сабой, яго лёс зададзены, прадвызначаны, і пераадолець наканаванасць перакладчык не здольны.

Галоўны герой даволі выпадкова атрымлівае прапанову пажыць некалькі месяцаў у Германіі і перакласці на беларускую мову казку В. Гаўфа “Халоднае сэрца”. Здаецца, перакладчык мае ўсе ўмовы для пленнай працы, але натхненне хутка мінае, пачынаецца перыяд запою, з якога герой запознена выкараскваецца дзякуючы бібліятэкам, музеям і сябру Сімі; тэрмін камандзіроўкі заканчваецца, а твор перакладзены толькі часткова… Выпадак галоўнага героя тыповы: існуе цэлы праект па перакладзе “Халоднага сэрца” на розныя малавядомыя мовы, і людзі, што сутыкаліся з папярэднімі перакладчыкамі, нібыта з мэтай пазбавіць героя веры ў самога сябе скептычна заўважаюць: “Яшчэ ніхто, ніводзін з стыпендыятаў ван Дрэйка не справіўся са сваёй задачай”.

Таямнічы ван Дрэйк — фундатар праекта, які ніводнага разу не з’яўляецца ў творы і кантактуе з перакладчыкамі выключна праз сваіх памагатых. Верагодна, ван Дрэйку цікава праводзіць сацыяльны эксперымент: наколькі эфектыўнай будзе праца носьбітаў малавядомых моў, калі гарантаваць ім добры заробак і стварыць камфортныя ўмовы для жыцця і творчасці? А можа, утульнасць, камфорт і ўпэўненасць зусім не спрыяюць натхненню і, наадварот, забіваюць яго? Не выпадкова ж галоўны герой з нянавісцю ставіцца да спакою, ціхмянасці і пакорлівасці, да дэкарацый, у якіх няма “хаця б ілюзіі руху”.

Галоўнае ж адрозненне між перакладчыкам і Петэрам Мункам — тое, што галоўны герой “Пасьлямовы…” амаль не зьмяняецца на працягу твора, ягоны характар не псуецца і сэрца не робіцца халаднейшым. Між тым па вяртанні на радзіму перакладчык заўважае: грошы літаральна лезуць з кожнай шчыліны ў ягонай кватэры, але пры новых варунках, значна адрозных ад сітуацыі XVII ст, такая вялізная колькасць чароўных грошаў амаль бессэнсоўная: калі траціць іх напоўніцу, то непазбежна прыйдзецца тлумачыць крыніцы свайго прыбытку ў падатковай інспекцыі.

Адзначым, што ў сваіх інтэрв’ю Бахарэвіч заўважаў: “Пасьлямову…” варта ўспрымаць таксама як казку, а “самае галоўнае — перакладчык не ёсць Альгердам Бахарэвічам”.



Малюнак Алесі Ісы

Апошняе вынікае нават з самога тэксту: кватэру перакладчыка, які зноў збіраецца з’ехаць за мяжу, здымае сам Альгерд Бахарэвіч з сям’ёй. Гэта можна разглядаць не толькі як імкненне размежаваць асобу пісьменніка з ягонымі героямі, але і як прапанову чытачу самастойна дадумаць заблытаную гісторыю. Бо, вярнуўшыся з Германіі, герой зноў пачынае піць (здрадзіла даўно ўжо не каханая жонка), і, натуральна, справа з перакладам амаль не рухаецца. Зрэшты перакладчыка збіваюць футбольныя фанаты, бо яму пашчасціла ў дзень матчу між “Дынамітам” і вядомым флібусцьерскім клубам апрануць куртку з “варожай” сімволікай. Збіваюць, верагодна, да смерці — і хто ж у гэтым выпадку скончыў пераклад казкі і выдаў яе разам з нататкамі перакладчыка? Рэальнае скрыжоўваецца з мастацкай рэчаіснасцю, і кожны можа па-свойму паспрабаваць суаднесці перакладчыка, Бахарэвіча-героя, Бахарэвіча-аўтара і лёс твора…

У “Пасьлямове...” ёсць яшчэ цэлы шэраг загадкавых камбінацый: так, напрыклад, куды магла прывесці перакладчыка бутэлька з залатым жуком, якую скраў Энтузіяст? Хто такі форвард ван Дрэйк, які ў трагічны вечар забівае фатальны гол, што раз’юшвае мінскіх аматараў футболу? Навошта перакладчык сустракае ў самых розных месцах цёцю Шуру і яе дачку Ліку — колішніх лепшых сябровак сям’і? Творы Бахарэвіча не разлічаны на адназначнае ўспрыманне і, адпаведна, кожны мае права самастойна, без падказак аўтара, зрабіць вырак галоўнаму герою. Прыкладам, фрау Габіхт характарызуе яго як “авантурыста, які прыязджае сюды і пачынае ныць, як у іх дома ўсё дрэнна”, як “ахвяру ўласных амбіцыяў, нікчэмную, нікому не цікавую ахвяру”. “…Чаму, з чаго вы ўзялі, што можаце перакладаць Гаўфа?... Вы, дарагі мой, спакусіліся на ўяўны лёгкі хлеб. Хаця павінны былі здабываць сапраўдны, потам і мазалямі,” — так, цалкам у духу Шклянога Чалавечка, абураецца старая на перакладчыка. Пры гэтым перакладчык, натуральна, піша пра сябе памяркоўна і аб’ектыўна не з’яўляецца злачынцам, мізэрнасцю, амаральным паскудствам — ці, інакш кажучы, абсалютным антыгероем.

Аднак містычнасць, заблытанасць, нечаканыя звівы сюжэта — не адзінае, што прываблівае прыхільнікаў прозы Альгерда Бахарэвіча. Усім безумоўна цікава: як жывецца беларускаму пісьменніку ў Германіі, якое яно, тамтэйшае жыццё, як суаднесці яго з беларускай рэчаіснасцю? Дзіўна было б, каб Бахарэвіч не адчуваў настрою чытачоў, — таму ў “Халодным сэрцы” і ў “Сароцы на шыбеніцы” (у 2010 г. гэты раман быў выдадзены ў Лейпцыгу ў перакладзе Томаса Вайлера на нямецкую мову) ёсць і сучасная нямецкая рэчаіснасць, і герой, што часова пакінуў Беларусь дзеля ўлюбёнай Германіі.

Са старонак гэтых твораў чытач даведваецца пра звычку немцаў шмат ездзіць на роварах, пра цягнікі Intercity Express і ветравыя генератары, пра смаўжоў, што сядзяць на шыбінах вокнаў, і “поўную адсутнасьць лятучых інсэктаў” у Гамбургу. Назвы нямецкіх вуліц і ўстаноў, урыўкі нямецкіх фраз, нямецкія звароткі — чытач згаджаецца, што гэтыя творы напісаныя пра Германію, бо праз старонку чуе нямецкую мову. Але, як ні дзіўна, у “нямецкіх” эпізодах пісьменнік пераважна абыходзіцца без яркіх дэталяў, вельмі коратка апісвае невядомыя беларусам жыццёвыя рэаліі і не імкнецца зачараваць чытача экзотыкай. Сівы кантралёр з завушніцамі ў вушах, пакецікі з-пад цукру і малака, якія спырхваюць са стала летняй кавярні і ляцяць праз вуліцу, пакой з балалайкай і гамаком, капрызлівыя бландзінкі — усё гэта можа існаваць і ў іншай краіне.

“Пасьлямова перакладчыка” не дае магчымасці чытачам па розных крытэрыях супаставіць грамадскую сітуацыю ў Германіі і на Беларусі: Бахарэвіч не імкнецца падрабязна апісваць побыт немцаў, выкрываць іх сацыяльныя праблемы — гэта выдатна робяць самі нямецкія пісьменнікі. А вось пра беларускую сучаснасць менавіта ў праблемным аспекце піша мала хто: адны распрацоўваюць гістарычную тэму, іншыя засяроджваюцца на сферы асабістага. Таму галоўнае, чым займаюцца героі Бахарэвіча, — гэта не ўзвядзенне факталагічна добра абгрунтаваных апазіцый “Беларусь — Еўропа”, а асэнсаванне Радзімы (пішучы пра Бахарэвіча, вялікую літару “Р” ставіш даволі няўпэўнена), свайго стаўлення да яе і таго дзіўнага стану, калі ты паўсюль пачуваешся госцем. Пэўна, чытачам будзе цікава даведацца пра “адмысловы графік, які паказвае, як змяняюцца пачуцці чалавека, што жыве за мяжой” і прасачыць змены ў настроі галоўных герояў “Сарокі…” і “Пасьлямовы…”: ад агаломшанасці і адчування абранасці да ўздыхаў пра вечны “гаманійскі” дождж.

Аднак самае каштоўнае ў творах Бахарэвіча — гэта зварот пісьменніка да беларускай рэчаіснасці. “Што да тыпізацыі, то я заўжды яе ненавідзеў. Я не ствараю тыпы, я імкнуся ствараць жывых людзей,” — сцвярджае пісьменнік. Аднак большасць герояў яго твораў — гэта не звышлюдзі і не дзіўнаватыя індывідуалісты, а “нармальныя, сярэднестатыстычныя” беларусы. Кожны чытач можа без складанасцей прыгадаць між сваіх знаёмых некалькі Веранік, Ларысак і цёць Шур; сям’я Веранікі, дзе маці вымярае ўдаласць шлюбу наяўнасцю мяса ў лядоўні, сям’я перакладчыка — “ілюзія стабільнага шлюбу” і бабуліна кватэра, з якой у любы момант могуць выперці сваякі,— сям’я яго бацькоў, “дзе ўсё круцілася вакол маці, а мы з бацькам пачуваліся на яе арбіце заўжды абароненымі і нязьменна любімымі” — гэта тыя сем’і, якімі жыве большая частка беларусаў.

Творы Бахарэвіча можна аналізаваць вельмі доўга: будаваць розныя версіі адносна ван Дрэйка і забойцы Веранікі, вышукваць тое, што тычыцца канцэптаў грошай, мастацтва, Бога, смерці, Радзімы, старонкамі цытаваць трапныя метафары і выпісваць кавалкі філасофскіх разважанняў, захапляцца выдатным адчуваннем меры (калі казаць пра стыль, архітэктоніку і кампазіцыю твораў), бо — згадаем Гётэ — “у абмежаванні спазнаецца майстра”. Ужо сёння па творчасці Бахарэвіча можна напісаць цікавае даследаванне, мы ж сціпла абмежаваліся спробай пазнаёміць чытача з кнігай “Халоднае сэрца”. Дарэчы, казка Гаўфа — ужо не адзіны пераклад гэтага пісьменніка: у межах XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбудзецца прэзентацыя рамана “Ты не памрэш”, напісанага Катрын Шміт — у перакладзе Альгерда Бахарэвіча.

[*] Achtung! — увага! (нямецк.).

# Палітра нямецкай лірыкі XX стагоддзя

**Падборка вершаў нямецкіх паэтаў ні ў якім разе не адлюстроўвае ўсю палітру нямецкай паэзіі XX стагоддзя, тут асабліва бракуе прадстаўнікоў яе апошніх дзесяцігоддзяў. Магу патлумачыць гэта толькі тым, што пераклады рабіліся не па замове, а па "закліку сэрца", на працягу многіх гадоў. Перакладчык кіруецца сваім асабістым густам і паэтычнымі магчымасцямі. Мне гэтыя вершы блізкія па сваёй гуманістычнай накіраванасці. Астатняе — у даведніках.**

**Уладзімір ПАПКОВІЧ**

## Герман Гесэ
## 1877 — 1962

### *Снег*

*Снег, што зацярушыў сад і луг,*
*Нам дае спачын, як лёгкі дах,*
*Пад якім, нібы ў гняздзечцы птах,*
*Свет у зморы прыпыніў свой рух.*

*Калі смерць падставіць мне нагу,*
*Усміхніцеся на развітанне мне.*
*Усё мінаецца ў сваю чаргу…*
*Толькі, што ствараю, не міне.*

### *Спакуснік*

*Каля дзвярэй прастойваў я нямала,*
*Спяваў на вушка песенькі дзяўчатам,*
*Спакуснікам лічыўся зухаватым,*
*І ў гэтым ладны поспех меў, бывала.*
*Але заўжды, спазнаўшы вуснаў мёд,*
*Але заўжды, займеўшы, што шукаў,*
*Я не ўзвышаўся, а наадварот,*
*Я толькі нізасць плоці адчуваў.*
*І пацалунак, горача жаданы,*
*І ноч, якую палка так выпрошваў,*
*Здабыўшы, бачыў: кветачка зламана,*
*І водар знік, я годнае спустошыў.*
*З пасцелі часам я выносіў боль,*
*Для насычэння я хапаў зашмат,*
*Ад асалоды я ўцякаў назад*
*У мары, у тугу, у алкаголь.*
*О гора мне: валоданне — не шчасце,*
*А рэчаіснасць жорстка мары нішчыць,*
*Мне ж мроіліся хмельныя ігрышчы*
*Пад музыку нябёс у лепшым часе.*
*Да кветкі зноў цягнуся ў цішыні,*
*Зноў заляцаюся, рыфмую зноў…*
*Не вер, красуня, прыгажосці слоў,*
*Пярэч жаданням, а мяне гані.*

## Райнэр Марыя Рыльке
## 1875 — 1926

### *У саборы Святога Віта*

*Са зборніка "Ахвяры ларам" (1895)*

*Гляджу я на сабор стары —*
*Якое тленне і гнілізна,*
*А вокны і калоны трызняць*
*Уласнай мовай гаварыць.*

*На кукішкі там дом прысеў.*
*І ракако так эратычна*
*Смяецца, готыка прывычна*
*Ўздымае рукі пакрысе.*

*Цяпер мне ясны casus rei* —*
*Вось параўнанне з дзён мінулых:*
*Тут герр абат, а з ім заснула*
*Спадарыня roi soleil***

*Casus rei (лац.) — парадак рэчаў.
**Roi soleil (фр.) — караля-сонца.

## Штэфан Цвайг
## 1881-1942

### *Пяшчота*

*Люблю я вельмі першыя пяшчоты:*
*Маўклівасць і пужлівасць да ўсяго,*
*Прыходзіць час пераадолець цноту,*
*Забыцца ўсё, што зналі "да таго".*

*Час чуйнасці, і час — судакранання,*
*Усмешка ў позірку, нясмелая далонь,*
*Ад іскаркі — пажар, ён неадольна цягне*
*Нізрынуцца ў яго: хай спапяліць агонь.*

*Салодкі час, які гульнёй здаецца,*
*Без мэты і намераў, і без слоў.*
*Так дрэва гнецца, сіле паддаецца*
*Нахабных незакілзаных вятроў.*

### *Апошні верш*

*Круціцца, аж глянуць люба,*
*дзён сівых верацяно.*
*Толькі нахіліўшы кубак,*
*бачыш залатое дно.*

*Прадчуванне блізкай ночы*
*не баліць і не гняце!*
*Цэлы свет спазнаўшы, вочы*
*не заблудзяцца ў лухце.*

*Дасягненні не трывожаць,*
*Мера ёсць свая ў жыцці.*
*Старасць мудра дапаможа*
*развітацца і пайсці.*

*І ніколі так яскрава*
*быў не бачны далягляд.*
*Адыход заве ласкава*
*на жыццё зірнуць назад.*

## Георг Тракль
## 1887 — 1914

### *Пацукі*

*На двор шле месяц белае святло,*
*Ад стрэхаў цені падаюць, як здані.*
*Маўчанне ў вокнах глуха залягло,*
*Глянь, выйшлі пацукі на паляванне…*

*Яны пішчаць, мільгаюць там і тут,*
*За імі ўслед агідны пах смярдзючы,*
*Які ад прыбіральні ў кожны кут*
*Залазіць лёгка, жудасна ліпучы.*

*Спажывы прагнуць. Вэрхалам сваім*
*Запоўнілі кладоўкі, там сваволяць.*

*Тут зерня і ласункаў хопіць ім.*
*У змроку вецер жудасна скуголіць.*

### *Змярканне*

*Змрок пабялеў, нібы ад варажбы…*
*Вось двор, дзе хворыя брыдуць, як цені,*
*У іх вачах — былых часоў імгненні,*
*Спакой, віно… без жалю і журбы.*

*Яны — хваробы злоснае рабы,*
*Што бачаць жахі ў зоркавым мігценні,*
*А цемень з жудасцю ў спляценні*
*Не адступае ад сваёй цвяльбы.*

*Прывіды прылятаюць і знікаюць*
*Па сцежках патаемных, між прысадаў,*
*Іх цені на мурах глуха ўздыхаюць.*

*А іншыя бягуць цераз аркады,*
*Крылом чырвоным ноччу памахаюць*
*І вернуцца зноў з ветрам, як менады.*

## Ёганэс Р. Бехер
## 1891 — 1958

### *На гэтай мове*

*На гэтай мове маці мне спявала*
*Пяшчотна песню-казку перад сном.*
*Мне гэта мова сілы надавала,*
*Была ў няволі добрым вестуном.*

*На гэтай мове я рашыўся скласці*
*Хвалу каханню, марам і вясне.*
*Мне гэта мова не давала ўпасці,*
*Усмешкай падбадзёрвала мяне.*

*Няхай памру — з табой на гэтай мове,*
*Радзіма-маці, буду гаварыць.*
*Я — твой заўжды, на справе і на слове.*
*Хай сонца ясна над табой гарыць!*

*Няхай напішуць над маёй магілай:*
*"Ён быў з народам, жыў ягонай сілай".*

## Бэртальт Брэхт
## 1898 — 1956

### *Таму, хто вагаецца*

*Ты кажаш: наша справа — дрэнь.*
*Змрок гусцее. Сілы змяншаюцца.*
*Цяпер, пасля нашых*
*шматгадовых намаганняў*
*Мы патрапілі ў больш цяжкое становішча,*
*чым напачатку.*

*А вораг стаіць моцна, як ніколі.*
*Здаецца, што яго сілы ўзраслі.*
*У яго з'явіўся выгляд неперможнага.*
*Мы нарабілі памылак, гэта відавочна.*
*Нас менее і менее.*
*Нашы заклікі — адна блытаніна.*
*Частку нашых слоў*
*Вораг перакруціў да непазнавальнасці.*

*Што мы гаварылі няправільна?*
*Тое-сёе ці ўсё?*
*На каго мы яшчэ разлічваем?*
*Тыя, што засталіся, выкінуты*
*З жывой плыні? Так мы і застанемся,*
*Нікога не разумеючы і незразуметыя нікім?*
*Ці нам пашанцуе?*

*Так ты пытаешся. Не чакай*
*Іншага адказу акрамя свайго ўласнага!*

## Мары Луізэ Кашніц
## 1901 — 1974

### *Не сказала*

*Не сказала*
*Што трэба было б сказаць пра сонца*
*і пра маланку адзінае правільнае*
*тым больш — пра каханне.*

*Спробы. Пошукі. Беспаспяхова*
*Недакладнае апісанне*

*Прапушчана заранка*
*Не прамоўлена пра сейбіта*
*І толькі на палях —*
*Пра люцікі ды фіялкі.*

*Вас не падтрымала ў бядзе*
*Святой дабрынёй*
*Не адмаўляла гібенне*
*Як і адчай.*

*Не пужала нячыстай сілай*
*Бо не веру ў яе*
*Не ўсхваляла Бога*
*Бо хто я каб*

## Альбрэхт Гаўсгофер
## 1903 — 1945

### *Віна*

*Я лёгка прызнаю, што гэты суд*
*Паставіць мне ў віну: намер і планы,*
*Я сам сабою быў бы пакараны,*
*Калі б не дбаў, што заўтра будзе тут.*

*Ды я інакш, чым вы, сябе віню,*
*Гатоў карыць сябе запозненым дакорам,*
*Што я назваў запозна гора горам…*
*Адцягваў вырак, хоць і ведаў, што маню.*

*Сябе абвінавачваю цяпер:*
*Хлусіў я доўга ўласнаму сумленню,*
*І я хлусню не падвяргаў сумненню…*

*Я разумеў нялюдскі іх намер…*
*Я папярэджваў, ды не ўскрываў ману…*
*Я сёння зразумеў усю сваю віну…*

## Гюнтэр Айх
## 1907 — 1972

### *Паходжанне праўды*

*Падумаць, адкуль яна, праўда,*
*яе карані, што ў пяску,*
*яе сляды,*
*змерыць рухавасць паветра,*
*калі яна птушкай ляцела.*

*Што гаварыў Перміцін*
*пра ластавак перад адлётам.*
*Прэч, прэч, на захад і праз горы!*

*Іншыя, знакі каменячоса на лісцях*
*толькі сну зразумелыя,*
*і жарт ад бабулі яшчэ:*
*заплюшчы вочы,*
*і што ты ўбачыш —*
*усё тваё.*

## Ёганэс Баброўскі
## 1917 — 1965

### *Мова*

*Дрэва*
*большае за ноч*
*з дыханнем азёр*
*з шэптам над*
*цішынёй.*

*Камяні*
*пад ракой*
*бліскучыя жылы*
*даўно ўжо ў пыле*
*навекі*

*Мова*
*загнаная*
*са стомленым ротам*
*на бясконцым шляху*
*да хаты суседа*

## Паўль Цэлан
## 1920 — 1970

### *Вянок*

*Восень ліст свой з рукі маёй жарэ: мы сябруем.*
*З арэхаў вылушчваем час і вучым яго хадзіць:*
*Вяртаецца час у шкарлупку.*

*У люстэрку — нядзеля,*
*сніцца, што спім,*
*язык не хлусіць.*

*Зрок мой кіруецца ўніз да тайны каханай*
*пераглядваемся*
*мы цьмянае кажам*
*як мак і памяць мы любім адно аднаго,*
*мы спім як віно ў ракаўках,*
*як мора ў месячным промні крывавым.*

*Мы стаім у абдымках, праз акно мы бачны ўсім знадворку:*
*няхай ведаюць, час!*
*Самы час, каб і камень злаўчыўся цвісці,*
*Каб сэрца трывогу змяло!*
*Пара ўжо, каб час прыйшоў.*

*Ужо — час.*

## Інгэборг Бахман
## 1926 — 1973

### *Песня пра востраў*

*Калі ты ўваскрэснеш,*
*калі я ўваскрэсну,*
*не будзе каменя каля варотаў,*
*ні лодкі на моры*

*Заўтра пакоцяцца бочкі*
*насустрач святочным хвалям,*
*мы прыйдзем на змазаных*
*падэшвах на бераг, памыем*
*вінаград*
*і выціснем*
*з ягад віно,*
*заўтра на ўзбярэжжы.*

*Калі ты ўваскрэснеш,*
*калі я ўваскрэсну,*
*кат павісне на варотах,*
*молат патоне ў моры.*

**Пераклад з нямецкай Уладзіміра Папковіча**
**Верш Р. М. Рыльке перакладзены**
**Алесем Емяльянавым**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Беларуская мова**

**Варанец, В. І.** Беларуская мова. Прафесійная лексіка: дапаможнік для студэнтаў лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага факультэтаў / В. І. Варанец; Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі універсітэт, Кафедра рускай і беларускай моў. — Гродна: ГрДМУ, 2010. — 196 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-496-655-7.

**Вывучаем мову цікава і займальна**: [для малодшага школьнага ўзросту / аўтар-складальнік А. М. Карчагіна]. — 3-е выд. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2010. — 31 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-290-6.

**Даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі з каментарыямі**: пішам па-беларуску: дапаможнік для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / [З. І. Бадзевіч і інш.]; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 191 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-529-607-3 (у пер.).

**Красней, В. П.** Беларуская мова: поўны школьны курс: тэорыя: дапаможнік для вучняў старшых класаў агульнаадукацыйных устаноў / В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль. — 4-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 272 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-602-8.

**Лепешаў, І. Я.** Практыкум па беларускай мове: вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў / І. Я. Лепешаў, Г. М. Малажай, К. М. Панюціч. — 2-е выд., папраўленае і дапоўненае. — Мінск: Вышэйшая школа, 2010. — 332 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-06-1884-9.

**Макарэвіч, М. М.** Слоўнік народных промыслаў і рамёстваў Беларусі / М. М. Макарэвіч; пад рэдакцыяй М. Р. Прыгодзіча. — Мінск: Права і эканоміка, 2010. — 130 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-866-6.

**Мілкоўскі, В. Л.** Матчына слова: спроба слоўнічка некаторых рэгіянальных гаворак / Вячаслаў Мілкоўскі. — Мінск: Права і эканоміка, 2010. — 45 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-838-3.

**Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі**: зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 г. № 420-З: Закон уступіў у сілу з 1 верасня 2010 г. — Мінск: Дыкта, 2010. — 158 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-494-542-2.

**Тумаш, Г. В.** Беларуская мова: 8-мы клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / Г. В. Тумаш. — 5-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 112 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-414-7.

**Мастацкая літаратура на асобных мовах. Руская літаратура**

**Анисимова, О.** Я и... кто здесь?: [автобиографические заметки] / Ольга Анисимова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 236 с. — 95 экз. — ISBN 978-985-6929-95-6.

## Чытальная зала



### Вучыце, джэнтльмены, мову!

Ці сустракалі вы іншаземца, які б хадзіў па крамах мінскіх магазінаў з англійска-беларускім размоўнікам? Сапраўды, рэдкая пакуль з'ява. Але першыя намаганні ў тым, каб заахвоціць замежных турыстаў размаўляць у Беларусі па-беларуску, зроблены. Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны падрыхтавала і выпусціла ў свет ужо другое, дадатковае, выданне "Англійска-беларускага і беларуска-англійскага размоўніка". Выданне ажыццёўлена ў межах праекта "Дыялог", падтрыманага Дзярждэпартаментам ЗША і зарэгістраванага ў Дзяржэпартаменце па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У падрыхтоўцы выдання прынялі ўдзел сябры суполкі "Нашчадкі".



У кожнага праекта ёсць свае "плюсы" і "мінусы". Да безумоўных "плюсаў" размоўніка можна аднесці яго кампактнасць — кніжачка вельмі зручная для таго, каб ёю карыстацца. Сярод абраных тэм — нічога лішняга. Толькі базавыя, самыя неабходныя фразы, каб цябе зразумелі падчас праходжання пашпартнага і мытнага кантролю, у аэрапорце, магазіне, грамадскім транспарце. Прыцягвае ўвагу тое, што і ў варыянце беларускай мовы, і ў варыянце англійскай скарыстаны не моўныя архаізмы ці то літаратурна правільныя спалучэнні слоў, якія ў нашым гарадскім вулічным жыцці мы па зразумелых прычынах не ўжываем, а сучасная рухомая мова, нават з ухілам на моладзевую лексіку. Надта даступна зроблена транскрыпцыя — беларускае маўленне, ва ўсялякім разе, іншаземец з такой транскрыпцыяй перадасць даволі дакладна. Недахоп у выдання толькі адзін. Калі за беларускага турыста, што патрапіць за мяжу з гэтым размоўнікам, мы можам быць больш-менш спакойныя (і яго зразумеюць, і ён зразумее адказ), то ў зацікаўленага іншаземца можа з кантактам нічога не атрымацца. Бо, на жаль, на яго правільна сфармуляваныя беларускія пытанні ён у пераважнай большасці выпадкаў атрымае адказ на рускай мове.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**Горохов, В.** Стихи блин / Владимир Горохов. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 129 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6929-93-2.

**Диброва, А.** Игра слов: лирика / Алена Диброва. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 109 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-90-1 (в пер.).

**Довбань, Т.** ЛюБИла: стихи и проза / Татьяна Довбань. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 90 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-94-9 (в пер.).

**Долгих, О.** Теорема Евклида: стихи / Ольга Долгих. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 81 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-68-0.

**Жаботинский, В. Е.** Полное собрание сочинений: в 9 т. / Владимир (Зеэв) Жаботинский; [составление и общая редакция Феликса Дектора]; Институт Жаботинского в Израиле (Тель-Авив), Культурно-просветительский центр «Ковчег» (Москва). — Минск: МЕТ, 2007– — ISBN 978-985-436-550-3 (в пер.).

Т. 3: Проза, публицистика, корреспонденция, 1903 / [послесловие Леонида Кациса; примечания Александра Френкеля]. — 2010. — 806 с. — 2000 экз. (1-й з-д 1 тысяча). — ISBN 978-985-436-584-8.

**Имж, А.** Лирика / Адриана Имж. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 31 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-78-9.

**Имж, А.** Неформальные заметки психотерапевта: проза / Адриана Имж. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 116 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-82-6.

**Лучшие стихи русских поэтов о Родине и России**. — Минск: Харвест, 2010. — 63 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-7620-6 (в пер.).

**Нэфэлла.** Поставить точку...: стихи и проза / Нэфэлла. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 88 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-92-5.

**Островский, А. Н.** Гроза; Бесприданница: драмы: [для старшего школьного возраста] / А. Н. Островский. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010. — 157 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1224-5.

**Урядова, С.** Тебе от rozoswet: лирика / Светлана Урядова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 137 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-81-9 (в пер.).

**Яковлева, М.** Непальская история: цикл стихов / Марта Яковлева. — Минск : А. Н. Вараксин, 2010. — 24 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-80-2.

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Ануфриев, Г. Г.** Тотем / Геннадий Ануфриев. — Минск: Харвест, 2010. — 446 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-9016-5 (в пер.).

**Бабич, М. В.** Соловьиная рать: стихи / Марина Бабич. — Слоним: Слонимская типография, 2010. — 318 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6602-83-5.

**Белоусов, В. П.** Стихи разных лет / Владимир Белоусов; [автор предисловия Гурин Николай Александрович]. — Минск: Белпринт, 2010. — 343 с. — 200 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-459-181-0 (ошибоч.).

**Боблевская, Е.** «Чтобы вырасти быстро, нужна мне вода»: стихи / Екатерина Боблевская; [иллюстрации М. А. Шуста]. — Минск: Белпринт, 2010. — 48 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-459-182-7.

**Гаврилов, В. И.** Армагеддон до востребования / Вадим Гаврилов. — Минск: Белпринт, 2010. — 126 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-459-188-9.

**Гусев, Ю. А.** Посланницы небес: стихи, проза / Юрий Гусев; [художник А. Ю. Арсентьева]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 381 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6929-86-4. — ISBN 978-958-6929-86-4 (ошибоч.).

**Дирко, В. В.** Зачем бьется сердце...: стихи и проза / Виктор Дирко. — Минск: Мон литера, 2010. — 119 с. — 320 экз. — ISBN 978-985-90215-6-5 (в пер.).

**Зельдина, А. Я.** Ведьма: роман / Алла Зельдина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 295 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-88-8.

**Карелина, Д. А.** Беспомощный монолог фантома зрительного зала: (шоу для тебя): лирика / Дита Карелина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 95 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-84-0 (в пер.).

**Карелина, Д.** Лирика / Дита Карелина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 26 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6929-85-7.

**Касатонов, В. Ф.** Среди волн: сборник морских новелл / В. Ф. Касатонов. — Брест: Альтернатива, 2010. — 131 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-521-190-8.

**Ковалева, Н. Д.** Строится храм: [стихи] / Нина Ковалева. — Минск: Белпринт, 2010. — 119 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-459-184-1.

**Кондрашук, Н. П.** Зимний букет: стихи / Наталья Кондрашук. — Брест: Альтернатива, 2010. — 127 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-521-191-5.

**Костян, И. С.** Поезд на Флориду: повесть / Игнат Костян. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 255 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-89-5.

**Лавров, О. П.** Родина, я по тебе скучаю: стихи / Олег Лавров. — Слоним: Слонимская типография, 2010. — 116 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6602-85-9.

**Леденев, В. И.** Очки: пьесы, рассказы, стихи / Виктор Леденев. — Минск: Ковчег, 2010. — 315 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6756-86-6.

**Лознюха, Т. П.** Весна Победы: стихи / Тамара Лознюха; [фотоснимки Е. В. Таламай]. — Брест: Альтернатива, 2010. — 32 с. — Часть текста на белорусском языке. — 430 экз. — ISBN 978-985-521-180-9.

**Малиновский, В. И.** На перекрестках судьбы: (Малиновы): роман / Владимир Малиновский. — Минск, 2009–

[Кн. 2]. — А. Н. Вараксин, 2010. — 318 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-72-7.

**Матюшко, Ю. В.** Звучащее время: стихи / Юрий Матюшко; [автор предисловия Любовь Красевская]. — Минск: Ковчег, 2010. — 138 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6950-24-0.

**Матюшко, Ю. В.** По поводу...: стихи / Юрий Матюшко. — Минск: Ковчег, 2010. — 143 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6950-21-9.

**Новаш, Н. В.** Год Кометы: [роман] / Наталия Новаш. — Минск: Харвест, 2010. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-8784-4 (в пер.).

**Овсянкин, В. И.** Мысль и память: [стихи] / Владимир Овсянкин. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 150 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300




**"Книжный мир", г. Барановичи**
**Книги белорусских издательств**

1. Николай Ильинский. Братья по крови. — Минск: Современная школа, 2011.

***Роман рассказывает о событиях на рубеже X и XI веков и продолжает роман «Последняя ладья викингов». Посол Великого князя Георгий Творимирич становится свидетелем и участником масштабной драмы, которая разыгрывалась не только на территории русских княжеств, но и далеко за их пределами. Перекраивается карта Европы, разрываются междоусобицей русские княжества. Братоубийственные войны, интриги, борьба за власть между потомками Ярослава Мудрого — в этом огне сгорают не только города и поселения, идёт борьба между династиями, религиями и внутри их. Нашествие на Русь объединило и людей, и княжескую семью. Надолго ли? Издание предназначено для широкого круга читателей.***

2. Николай Ильинский. Последняя ладья викингов. — Минск: Современная школа, 2010.

3. Николай Ильинский. Воины-хранители. — Минск: Современная школа, 2010.

4. Михаил Голденков. Русь. Другая история. — Минск: ФУАинформ, 2010.

5. Альберт Иванов. Приключения Хомы и Суслика. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010.

6. Сергей Зайцев. Ваш ребёнок от рождения до школы. — Минск: Книжный дом, 2009.

7. Игорь Бышнёв. Беловежское диво. — Минск: Беларусь, 2009.

8. Наталья Батракова. Я играю не по правилам. — Минск: Кавалер, 2008.

9. Наталья Батракова. Сто сорок жизненных мгновений. — Минск: Кавалер, 2008.

10. В. П. Кисель. Памятники всемирного наследия. — Минск: Беларусь, 2010.

**Книги российских издательств**

1. Стефани Майер. Сумерки. Новолуние. Затмение. Рассвет. — Москва: АСТ, 2010.

2. Анджей Сапковский. Владычица озера. — Москва: АСТ, 2010.

3. Александр Вороненко. Охотники за счастьем. — Москва: АСТ, 2010.

4. Дэн Браун. Код да Винчи. — Москва: АСТ, 2009.

5. Кристофер Паолини. Эрагон. — Москва: Росмен, 2010.

6. Михаил Булгаков. Мастер и Маргарита. — Москва: АСТ, 2002.

7. Борис Пастернак. Доктор Живаго. — Москва: АСТ, 2002.

8. Валентин Пикуль. Моонзунд. — Москва: АСТ, 2002.

9. Алексей Черкасов, Полина Москвитина. Хмель. Конь рыжий. Чёрный тополь. — Москва: АСТ, 2002.

10. Эдуард Успенский. Всё о Простоквашино. — Москва: Астрель, 2009.

экз. — ISBN 978-985-6929-65-9 (в пер.).

**Павлють, Э. И.** С юмором о происходящем: стихи / Эдуард Павлють. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 142 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6929-70-3.

**Переверзева, О. В.** Обожженными губами: стихи / Ольга Переверзева. — Минск: Ковчег, 2010. — 122 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6950-38-7 (в пер.).

**Переверзева, О. В.** Узкая лента: стихи / Ольга Переверзева; [автор предисловия Анатолий Аврутин]. — Минск: Ковчег, 2010. — 132 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6950-37-0 (в пер.).

**Печенко, А. Г.** Знать бы прику...: рассказы / Анастасия Печенко. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 71 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6952-54-1.

**Печенко, А. Г.** Зомби: рассказы / Анастасия Печенко. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 95 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6952-56-5 (ошибоч.).

**Помоз, М. А.** Дымчатые кони: стихи / Марина Помоз; [автор предисловия Анатолий Аврутин]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 79 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6929-91-8.

**Потапов, В. П.** Гармония: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 67 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6952-58-9.

**Потапов, В. П.** Мой причал: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 59 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-69-52-53-4 (ошибоч.).

**Потапов, В. П.** Неотвратимость: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 67 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6952-52-7.

**Потапов, В. П.** От истоков...: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 59 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-69-52-55-8.

**Потапов, В. П.** Сопричастие: (избранное): поэзия / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2010. — 107 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6952-59-6.

**Потапов, В. П.** Угол зрения: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А Г., 2010. — 63 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-69-52-57-2.

**Родионова, Г. В.** Кусочек солнца: стихотворения / Галина Родионова; [автор послесловия Евгений Шунейко]. — Минск: Кнігазбор, 2010. — 167 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6976-28-8.

**Сандомирский, Н. Б.** Грустный клоун: [проза] / Наум Сандомирский; [рисунки Г. Л. Левина]. — Минск: Белпринт, 2010. — 216 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-459-185-8.

**Сапильников, Е. Н.** Ковчег: стихотворения и поэмы / Евгений Сапильников. — Минск: Ковчег, 2010. — 152 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6950-22-6.

**Сендер, А. Н.** В цветенье абрикосовом: повести и рассказы / Анатолий Сендер. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 246 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6929-76-5 (в пер.).

**Смолянко, А. В.** Подари аиста: [роман] / Анатолий Смолянко. — Минск: Харвест, 2010. — 381 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-9020-2 (в пер.).

**Чернова, А. О.** Благословенна злая осень...: стихи / Анна Чернова; [рисунки Марии Фоминой]. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2010. — 102 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6936-23-7.

**Черный день Пасхи**: [сборник очерков]. — Минск: Славянское слово, 2010. — 96 с. — 4050 экз.

## Чытальная зала



### От эскалатора до яхты

Новая книга для детей младшего дошкольного возраста С. А. Трафимова, Г. В. Трафимовой и О. Е. Скребцовой "Азбука юного пассажира" — небольшая энциклопедия о транспорте и одновременно свод правил для всех, кто им пользуется, — увидела свет в издательстве "Народная асвета" в самом конце 2010 года. Читатели этой книжки не только узнают, что слово "пассажир" пришло к нам из французского языка, но и познакомятся с основными транспортными средствами, привычными нам и даже не совсем привычными, такими, как, например, яхта. Каждый из видов транспорта — автобус, трамвай, троллейбус, поезд и даже лифт и эскалатор в метро — требуют соблюдать определённые правила поведения, о которых в увлекательной форме рассказали авторы "Азбуки...". Затронули и тему, связанную напрямую не только с транспортом, но и с общей культурой — "Забытые вещи", "Еда для пассажира", чем оказали огромную услугу родителям: теперь долго не придётся рассказывать, почему с мороженым в метро нельзя. Не упустили из виду и то, что может спасти жизнь в экстремальной ситуации, — подушку и ремень безопасности, детское автомобильное кресло. Учитывая реалии современной жизни, авторы "Азбуки..." поместили в книгу главу о том, как пассажиру может послужить Интернет. Не обошли молчанием и сложную тему "Пожар в пассажирском транспорте", изучение которой избавит от паники и повысит шансы выжить у попавших в сложную ситуацию.

Расширяя кругозор юных читателей, авторы "Азбуки..." рассказали о фуникулёре и его "близкой родственнице" — кресельной канатной дороге. Кто знает, может, именно это волшебное слово прорастёт в детских душах полезным увлечением горнолыжным спортом. А в самом конце книжки под белыми парусами зовёт в путешествие волшебная яхта. И, конечно же, несколько полезных советов для пользования водным транспортом.

**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО**

**Щербакова, В. П.** Это было, было...: автобиографическая повесть / Вера Прокофьевна Щербакова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 233 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6929-87-1.

**Ярец, Н. М.** Судьбы открытые страницы: стихотворения, сонеты / Николай Ярец. — Гомель: Барк, 2010. — 71 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6763-59-8.

### Беларуская літаратура

**Бараноўскі, А. А.** Вясляр: вершы / Алесь Бараноўскі; [прадмова Ніны Шклярavай]. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 87 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6976-31-8.

**Вырко, Л. Ф.** Тут мае карані: апавяданні, вершы / Ларыса Вырко. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 55 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6976-30-1.

**Дайнека, Л. М.** Назаві сына Канстанцінам: раман / Леанід Дайнека. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 446 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6941-51-4 (у пер.).

**Дудзюк, З. І.** Аднарог / Зінаіда Дудзюк. — Мінск: Харвест, 2010. — 285 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-9015-8 (у пер.).

**Зуёнак, В. В.** Выбраныя творы / Васіль Зуёнак; [укладанне, каментар аўтара; прадмова Наталлі Заяц]. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 509 с. — 1000 экз. (1-шы з-д 500). — ISBN 978-985-6976-05-9 (у пер.).

**Камейша, К. В.** Паміж кубкам і вуснамі: проза паэта / Казімір Камейша. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010. — 349 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1217-7 (у пер.).

**Колас, Я.** Збор твораў: у 20 т. / Якуб Колас; [рэдкалегія: М. У. Мясніковіч і інш.; прадмова М. І. Мушынскага]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2007– — ISBN 978-985-08-0804-2 (у пер.).

Т. 12: Аповесці / [рэдактары тома: Т. С. Голуб, М. І. Мушынскі; падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Т. Р. Строевай]. — 2010. — 515 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-08-1208-7.

**Кушняроў, М. П.** Друцкія напевы: вершы / Міхась Кушняроў. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 91 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6976-32-5.

**Марціновіч, А. А.** Рагнеда і Рагнедзічы: гісторыя ў асобах: нарысы / Алесь Марціновіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 286 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6941-67-5 (у пер.).

**Старажытная беларуская літаратура (XII–XVII стст.)** / [укладанне, прадмова і каментар Івана Саверчанкі]. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 605 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6824-43-5 (у пер.).

**Танк, М.** Збор твораў / Максім Танк; [прадмова Міколы Мікуліча]. — Мінск: Харвест, 2010. — 1007 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-78-93-4 (у пер.).

**Трысцень, І. І.** Вясковыя байкі: [гумарыстычныя апавяданні і вершы] / Іван Трысцень. — Мінск: Ковчег, 2010. — 99 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6950-08-0.

**Шамякін, І. П.** Збор твораў: у 23 т. / Іван Шамякін; рэдкалегія: У. В. Гніламёдаў [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010– — ISBN 978-985-02-1190-3 (у пер.).

Т. 2: Апавяданні, 1953–2003 / рэдактары тома: У. В. Гніламёдаў, Т. С. Голуб; [пасляслоўе Тацціяны Бельскай; падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Алесі Шамякінай]. — 2010. — 510 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1202-3.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Авласенко, Г. П.** Новые приключения маленького Ветерка из Вентилятора: сказка / Геннадий Авласенко; [художники: Н. Р. Козлов, Н. В. Сустова]. — Минск : Літаратура і Мастацтва, 2010. — 140 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-6941-60-6 (в пер.).

**Екимова, Е. А.** Ангел по небу летел: [для чтения взрослыми детям] / Елена Екимова; [художник — Ирина Зенюк]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2009. — 18 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6876-85-4.

**Исмаилова, Э. Р.** Удивительные приключения мышонка Пипа: [для младшего школьного возраста] / Эсмира Исмаилова; [художник Наталия Кийко]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 92 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-6941-50-7 (в пер.).

**Краснова-Гусаченко, Т. И.** Край родной, любимый: стихи: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Тамара Краснова-Гусаченко. — Минск: Народная асвета, 2010. — 31 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-03-1442-0.

**Машков, В. Г.** Соскучился по дождику: повесть: [для среднего школьного возраста] / Владимир Машков; [художник Елена Карпович]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2010. — 157 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1175-0.

**Харченко, Д. В.** Живая лампадка: [для чтения взрослыми детям] / Дмитрий Харченко; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2010. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6876-83-0.

**Харченко, Д. В.** Как хомячок Кроша Зернышкин научился быть добрым: рассказ для детей о совести: [для младшего школьного возраста] / Дмитрий Харченко; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2010. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6876-82-3.

**Харченко, Д. В.** Теплая слезинка: [для чтения взрослыми детям] / Дмитрий Харченко; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2009. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6876-84-7.

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Антропова, Н. Т.** Русская литература: пособие для поступающих в лицей Белорусского государственного университета / Н. Т. Антропова, В. К. Василевская, Е. Г. Таразевич; Лицей Белорусского государственного университета. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 77 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-476-843-4.

**Голубович, Н. В.** Русская литература как художественная летопись человека: 8-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / Н. В. Голубович; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2010. — 91 с. — 3600 экз. — ISBN 978-985-03-1447-5.

**Захарова, С. Н.** Увлекательное путешествие в мир литературы: 5-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / С. Н. Захарова; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2010. — 141 с. — 3600 экз. — ISBN 978-985-03-1436-9.

**Петровская, Л. К.** Русская литература: учебное пособие для 7-го класса общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения: в 2 ч. / Л. К. Петровская; под редакцией Т. Ф. Мушинской. — Минск: Национальный институт образования, 2010. — ISBN 978-985-465-706-6 (в пер.).

Ч. 2. — 2010. — 286 с. — 113000 экз. — ISBN 978-985-465-771-4.

**Царева, О. И.** Многообразие тем и жанров литературы, живописи, музыки и кино: 7-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / О. И. Царева, Г. М. Юстинская; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2010. — 141 с. — 3600 экз. — ISBN 978-985-03-1441-3.

**Царева, О. И.** Содружество литературы и других видов искусства: 6-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / О. И. Царева, Г. М. Юстинская; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2010. — 155 с. — 3600 экз. — ISBN 978-985-03-1439-0.




### Книжный магазин "Медицинская книга", г. Минск

#### Книги белорусских издательств

1. Леанід Маракоў. Рэпрэсаваныя медыцынскія і ветэрынарныя работнікі Беларусі, 1920 — 1960 гг. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск: Медысонт, 2010.

***У даведніку прыведзены біяграфіі або кароткія звесткі пра рэпрэсаваных урачоў шпіталяў, бальніц, дыспансераў, радзільных дамоў, паліклінік, медпунктаў і інш.***

2. А. В. Белецкий, В. Т. Пустовойтенко, С. В. Макаревич, А. Н. Мазуренко. Рентгенометрия шейного отдела позвоночника. — Минск: Беларусь, 2010.

***В монографии представлен оригинальный рентгенометрический метод искривления шейного отдела позвоночника — метод угла аксиса. Новизна метода подтверждается выдачей Национальным центром интеллектуальной собственности Республики Беларусь (Белгоспатентом) патента на изобретение.***

***Книга предназначена для травматологов, ортопедов, нейрохирургов, вертеброневрологов, невропатологов и мануальных терапевтов.***

3. Валентин Коровкин. Великих "скорбные листы": медицинские аспекты жизни, болезни и смерти великих людей. Версии, предположения, факты. — Минск: Парадокс, 2008.

4. П. А. Путырский. Как сохранить грудь здоровой. — Минск: Вышэйшая школа, 2010.

5. Скорая и неотложная медицинская помощь. — Минск: Вышэйшая школа, 2010.

6. Геннадий Годовальников. Организация фармации. — Минск: Пара Ла Оро, 2010.

7. Т. А. Бирич, Л. Н. Марченко. Офтальмология. — Минск: Вышэйшая школа, 2007.

8. В. С. Улащик. Электрофорез лекарственных средств. — Минск: Беларуская навука, 2010.

9. Н. В. Ежова. Педиатрия. Практикум. — Минск: Вышэйшая школа, 2004.

10. Ф. Батмангхелидж. Ваше тело просит воды. — Минск: Попурри, 2010.

#### Книги российских издательств

1. Леонард Берри, Кент Сейман. Клиника Мэйо: менеджмент и сервис мирового уровня. — Москва: Эксмо, 2010.

2. Дж. Хэмптон. ЭКГ в практике врача. — Москва: Медицинская литература, 2007.

3. Ю. Ю. Дрибноход. Косметология. — Ростов-на-Дону: Феникс, 2010.

4. В. В. Курек. Анестезия и интенсивная терапия у детей. — Москва: Медицинская литература, 2010.

5. И. К. Луцкая. Заболевания слизистой оболочки полости рта. — Москва: Медицинская литература, 2007.

6. А. Ситель. Соло для позвоночника. 125 лечебных поз. — Москва: Метафора, 2009.

7. С. С. Коновалов. Книга, которая лечит. Заочное лечение. — Санкт-Петербург: Прайм Еврознак, 2008.

8. Е. О. Комаровский. Здоровый ребёнок и здравый смысл его родственников. — Москва: Эксмо, 2010.

9. И. П. Неумывакин. Перекись водорода: на страже здоровья. — Санкт-Петербург: Диля, 2009.

10. Виктор Буденко. Зелень для жизни. Реальные истории оздоровления. — Санкт-Петербург: Питер, 2011.

## Віртуальныя вандроўкі

# Па законах франшызы

**Горад, які ласкава прыняў мяне ў свае абдымкі на паўгода — невялікі і ўтульны Веймар на зямлі Цюрынгіі ў Германіі, але памеры яму не замінаюць мець вялікую гісторыю: Гётэ, Шылер, Ана Амалія, Гердэр, Лукас Кранах Старэйшы і Лукас Кранах Малодшы, Ліст, Баўхаўс, Веймарская Рэспубліка, Веймарскі класіцызм і Шцюрмерскі перыяд у літаратуры. Усё гэта і шмат яшчэ што адбылося менавіта ў гэтых мясцінах. І, канечне, распавядаючы пра такія дзівосы ў адным горадзе, што здолеў перажыць шмат гістарычных падзей, якія адбываліся на ягоных вуліцах, цяжка не закрануць тэму кнігі і мясцовага кнігагандлю.**

**Сяргей КАЛЕНДА, г. Веймар**
**фота аўтара**

Распачну аповед з буйных кнігарняў, якія часта павуціннай сеткай пакрываюць не толькі амаль усе гарады Германіі, але і, па законах франшызы, выходзяць далёка за межы адной дзяржавы. Дарэчы, такія кнігарні маюць па некалькі паверхаў і па памерах не саступаюць мінскай “Светач”, а часта нават і пераўзыходзяць. Але калі “Светач” амаль адзіная вялікая кнігарня, у Германіі такія крамы знаходзяцца ў кожным квартале або раёне.

Буйныя кнігарні часта належаць вялікім канцэрнам або кампаніям, якія валодаюць не толькі крамамі, але і выдавецтвамі, друкарнямі, а таксама, магчыма, нейкім іншым бізнесам, што зусім не тычыцца кніг. Гэта даволі зручна, бо пры развіцці адразу некалькіх адгалінаванняў кампаніі ідзе кампенсацыя, так бы мовіць падтрымка менш прыбытковага бізнесу за кошт прыбытковага. Але насамрэч ніводная кампанія, калі гэта толькі не хобі прэзідэнта кампаніі альбо традыцыя, не мае такога бізнесу, за які мусіць расплачвацца іншы. І, гэта відавочна, буйныя кнігарні квітнеюць і часта за кошт вялікіх скідак становяцца здольнымі прадаць той ці іншы наклад кніг і ў выніку выйграюць колькасцю продажу замест якасці.

Чаго не скажаш пра маленькія прыватныя кнігарні, якія, як, напрыклад, у Веймары па вуліцы Шылера, часта суседнічаюць з буйнымі франшызамі. Маленькія кніжныя лавачкі добра канкуруюць за кошт рэдкіх кніг. Часта можна ўбачыць на іх паліцах не чарговы бязглузды бестселер, які за гадзіну прагартаў і запамятаваў, а кнігі, правераныя гадамі. Такія магазіны маюць свой асаблівы пах і настрой, а наведвальнік мае шанц знайсці штосьці вельмі рэдкае і якаснае на паліцах…

Здаровая канкурэнцыя дазваляе існаваць як вялікім, так і маленькім кнігарням. І, дарэчы, не толькі ім, бо праз дарогу абавязкова апынецца якая-небудзь кавярня, таксама з кнігамі, дзе кожны можа свабодна сесці і прабавіць з кавай некалькі гадзін над кнігай літаратурай. Альбо, і што тут не дзіўна, любая антыкварная лаўка часта мае шмат прапаноў, што пагартаць, і запрашае ў свае ўтульныя пакоі з фатэлямі, пледамі і стосамі кніг...

Так, напрыклад, кнігарнька “Гофмана” (Hoffmann’s Buchhandlung) у Веймары існуе з 1710 года і квітнее як сямейны бізнес, а побач, праз краму адзення, узвышаецца трохпаверхавая “Талія” (Thalia), буйная кнігарня (яна мае вялікі вэб-сайт па продажы кніг). Дарэчы, ёсць у яе і філіялы па ўсёй Германіі і не толькі... Альбо, крыху меншая, у Веймарскім Атрыуме — “Вэлтбілд” (Weltbild).

Увогуле, у нямецкай кніжнай традыцыі часта, як і ў агульнаеўрапейскай, складваецца асаблівае стаўленне да самога працэсу чытання і выбару кніг. І незалежна ад таго, буйная гэта кнігарня, сетка філіялаў якой, як спрут, можа пакрываць амаль усю дзяржаву, маленькая прыватная кнігарня, якая перадаецца ў спадчыну, альбо антыкварыят... Усе маюць адметную рысу, якой амаль не сустрэць у Мінску,



— спецыяльна адведзеныя месцы з кавай і фатэлямі, каб, калі ты зацікавіўся кнігай, але вагаешся, набыць ці пакінуць яе на паліцы, або ў цябе ўвогуле няма грошай, — дык, калі ласка, завары сабе кавы альбо гарбаты, сядай у крэсла і чытай сабе на здароўе, пакуль не зачыніцца кнігарня... І, шчыра кажучы, мне найбольш даспадобы прыйшліся маленькія кнігарні, бо сталы і кава там спрэс атачаны хатнім гаспадарствам, ад якога на сэрцы становіцца крыху цяплей, асабліва калі ты замежнік... Бо, на жаль, буйныя кнігарні надта ярка асветлены, і месцы для чытання і адпачынку ў іх выглядаюць занадта афіцыйнымі, нестае ім чагосьці сямейнага, чагосьці такога, быццам ты завітаў і адчуў, што плед пакладзены на фатэлі і кава заварана амаль як тваёй матуляй.

Магчыма, гэта з-за таго, што ў маленькіх кнігарнях часта каву падносіць сам гаспадар, які жыве над сваім “маленькім бізнесам” на другім паверсе, у тым самым доме, які яшчэ ягоны дзед выкупіў або пабудаваў. І падносіць ён гэту каву ў сваім хатнім кубку. Вось гэта шыкоўна...

Часта буйныя кнігарні прыгандлёўваюць не толькі кнігамі. Напрыклад, на Цэнтральным Гамбургскім вакзале вялікая кнігарня паступова пераходзіць у краму для дарослых з відэа і часопісамі, з бялізнай і іншым, але зразумела, што яна не проста паступова пераходзіць у секс-шоп — на ўваходзе стаіць ахоўнік і правярае дакументы ў тых, каму відавочна меней за дваццаць адзін год...

І калі прыватная кнігарня мае свае плюсы ва ўтульнасці і рэдкасці кніг, то ёй не стае шмат розных дробязей, як, напрыклад, лямпаў для чытання альбо паштовак і слоўнікаў, якіх вельмі шмат у буйных кнігарнях. А антыкварныя лаўкі, якія спецыялізуюцца на літаратуры, напрыклад, “Антыкварыят каля Царквы Гердэра” (Antiquaritat An Der Herderkirche) у Веймары, гандлююць шмат чым іншым, бо трэба плаціць падаткі і за арэнду, а на адных кнігах гэта часта немагчыма. Трэба мець пэўную колькасць танных раманаў і дэтэктываў, колькі бестселераў ды сшыткаў, каб весці добры гандаль, а немцы — людзі з адмысловым густам і стаўленнем да літаратуры, таму, калі маленькая прыватная кнігарня і адчыняецца, то мае на продаж толькі вельмі якасную літаратуру, але, на жаль, такую літаратуру часта



купляюць не так ахвотна, як, напрыклад, таго ж Толкіна, Роўлінг, Камінэра альбо якую нямецкую “дэтэктыўшчыну”...

Але існуюць і кнігарні, што з часам змаглі лёгка прызвычаіцца да існавання на мяжы, — паміж маленькай прыватнай і буйной кнігарнямі. Гэта, так бы мовіць, сярэднія кнігарні, як у Веймары — “Сава” (Die Eule). У такіх крамах часта на адных паліцах размяшчаюць як класікаў і сучаснікаў, так і забаўляльную літаратуру. І часта гэта атрымліваецца выпадкова, бо кнігі на паліцах размяркоўваюцца па алфавіце… Каля сярэдніх кнігарань часта проста на вуліцы пакідаюць сталы з кнігамі, што прадаюцца па скідках, і за імі няма ніякага догляду. Але колькі я ні сядзеў і ні сачыў з суседняй кавярні за гэтымі кнігамі, ніколі яшчэ не бачыў, каб хтосьці браў сабе кнігі без аплаты.

Такім жа чынам маленькія кнігарні выстаўляюць кнігі на вуліцы, коштам адзін еўра, і калі пакапацца ў іх, то абавязкова знойдзецца штосьці вельмі вартае і рэдкае. Я, напрыклад, знайшоў некалькі кніг пра культуру традыцый армян, выдадзеную яшчэ ў 1920 годзе, з гатычным нямецкім шрыфтам, і кнігу Станіслаўскага, 1951 года, Лейпцыг… Шмат якія маленькія кнігарні перанасычаны нават рэдкімі кнігамі, таму скідкамі распрадаюць іх ледзь не з вуліц.

Амаль кожны бар альбо кавярня, што прэтэндуе на альтэрнатыўнасць, мастацкасць альбо незвычайнасць за кошт уласнага дызайну ці ўнутраных правіл, мае і сваю ўжо старую і папулярную традыцыю бук-кросінгу (book crossing). Прачытаўшы кнігу, ты пакідаеш яе ў кавярні, а сам бярэш іншую, пакінутую кімсьці да цябе. Так кнігі падарожнічаюць, нярэдка праз межы дзяржаў. Такая традыцыя вядомая і ў Мінску. Напрыклад, наведвальнікі кнігарні “Логвінаў”, кавярні “Лондан” паспяхова карыстаюцца ёй.

Для нас гэтая з’ява пакуль даволі новая, у Беларусі яна не набыла міжнароднага статуса, як у краінах Еўропы. Але, безумоўна, у нас усё яшчэ наперадзе… А пакуль тут пачалі з’яўляцца першыя кнігарні, дзе ёсць магчымасць піць каву ў фатэлі, і, што відавочна, людзі ў Мінску шмат чытаюць у грамадскім транспарце і на вуліцы ў кавярнях, а гэта — добра.

***На здымках:** у кнігарнях Веймара.*

## Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА**



**Беларускія народныя казкі / уклад. Н. В. Філіповіч; маст. Надзея Барай і Галіна Іванова. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010. — 155 с.**

У гэтую кнігу ўвайшлі найлепшыя і ўсім добра вядомыя з дзяцінства казкі. Сярод іх — “Залаты птах”, “Бацькаў дар”, “Як кот звяроў напалохаў”, “Шаптуха” і многія-многія іншыя казачныя творы, складзеныя беларускім народам. Усе казкі, што ўвайшлі ў кнігу, размеркаваны ў тры раздзелы: чарадзейныя, казкі пра жывёл і сацыяльна-бытавыя. Цудоўныя ілюстрацыі Надзеі Барай і Галіны Івановай дапамогуць маленькім чытачам (ці яшчэ толькі слухачам) уявіць казачных персанажаў, параўнаць сваё ўяўленне пра іх з меркаваннямі мастакоў.




**Ючас, М. Грунвальдская бітва / Мечыславас Ючас. — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 243 с.**

Тэма Грунвальдскай бітвы знаходзіцца ў цэнтры ўвагі даследчыкаў з розных краін Еўропы фактычна ад самага пачатку XV ст., калі яна адбылася. Цягам гэтага доўгага часу пабачыла свет шмат навуковых даследаванняў, гістарычных раманаў, хронік, прысвечаных знакавай падзеі. Аднак Мечыславас Ючас у прадмове да ўласнай кнігі падкрэслівае, што дагэтуль у многіх пытаннях, датычных эпахальнай падзеі Сярэднявечча, паміж гісторыкамі няма згоды. У дадзенай кнізе знакаміты літоўскі даследчык “паспрабуе выкласці свой погляд і падаць аргументы ў спрэчных пытаннях”. Пры гэтым ён у самым пачатку інтрыгуе цікаўнага чытача: “Зусім магчымая рэч, што саюзнікі імкнуліся цалкам ліквідаваць ордэнскую дзяржаву і падзяліць паміж сабой раней захопленыя апошняй балцкія і славянскія землі”.



**Жорсткі раманс: фальклорныя песні / укл. А. М. Кукрэш. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 436 с.**

Сярод разнастайнага рэпертуару песень, што выконваюцца беларускім народам, ёсць жанр, які дагэтуль не публікаваўся. Гэта жорсткі (гарадскі, мяшчанскі) раманс, творы гэтага жанру ў народзе называлі “любезнымі”, “страдацельнымі”, “перажывацельнымі” песнямі. Прыйшоўшы ў беларускае асяроддзе з Расіі, гэтыя наіўныя песні расказвалі пра няшчаснае каханне, здраду, помсту, забойствы. Усе творы, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, запісаны студэнтамі БДПУ імя М. Танка падчас фальклорнай практыкі ў розных кутках Беларусі і друкуюцца ўпершыню. Самыя папулярныя тэксты рамансаў суправаджаюцца нотнымі запісамі мелодый.




**Бэнкс, И. “Империя!”, или Крутые подступы к Гарбадейлу / Иэн Бэнкс; пер. с англ. Е. Петровой. — Москва: Эксмо; Санкт-Петербург: Домино, 2010. — 480 с.**

Упершыню на рускай мове выйшла трагікамічная сямейная сага ад аўтара знакамітай “Осиной Фабрики”, галаваломнага “Моста” і рок-н-рольнай “Улицы отчаяния”. Кніга зquestions ваблівае чытача ў таямніцы, але для кагосьці — цікавы і жаданы свет вялікага бізнесу. Ужо больш як стагоддзе сямейны капітал клана Уолпулд грунтуецца на фенаменальна папулярнай гульні “Імперыя!”, — спачатку настольнай, а потым і камп’ютарнай. Але ў часы крызісу ім таксама прыходзіцца нялёгка…

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**




# Калейдаскоп мнемазіны

## Урывак з аповесці «Дараванне»

**“Старажытнагрэчаскае слова “алетэйя” (ісціна) літаральна азначае “адсутнасць забыцця”. Страціўшы памяць, непазбежна губляеш ісціну, — да такой высновы прыходзіць гераіня аповесці Алены Брава “Дараванне” Ларыса Вашкевіч, вымушаная даглядаць Ганса Крауза — цяжкахворага бацьку свайго мужа. Аднойчы Ларыса даведваецца пра тое, што Ганс служыў у войсках вермахта. Рашэнне жанчыны адназначнае: пакінуць дом былога нямецкага салдата. Аднак ні муж, ні суайчынніца-эмігрантка, ні нават уласная дачка не разумеюць яе…**

**Аповесць у хуткім часе будзе надрукавана ў адным з часопісаў РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Плануецца пераклад аповесці “Дараванне” на нямецкую мову.**

…“Цішэй! Ступай асцярожна!” — Ганс хапае яе за руку, ледзь не выкручваючы запясце. — Каб не нарвацца на міны! Бачыш сляды?” — “Ганс, адпусці руку! Мне балюча!” — “Глядзі ж! — ён цягне яе да акна (жалюзі з боку вуліцы спушчаны, у шкле — яго і яе адбіткі: стары ў піжаме з ускалмачаным рэдкім пухам на цемі ды хударлявая дзяўчына з доўгімі светла-русымі валасамі, начное акно скрадвае ўзрост — яе, але не яго). — Яны там, там! О, ды ў іх кулямёт! Падай на зямлю! Шнэле! Зараз пачнуць страляць!” — “Ганс, спыніся!!!” — “Фельдфебель загадаў мне капаць акоп… Ведаеш, як было цяжка? У зямлі тут адны карані! Але я справіўся!” Ды ўжо ж, справіўся: праход да акна надзейна забарыкадаваны крэсламі з гасцёўні, двума матрацамі — усё перакулена і ссунута на сярэдзіну пакоя. Ральф напаўголаса лаецца: усё гэта яму надакучыла. Праз паўгадзіны зноў грукат, ляпанне дзвярэй; на гэты раз Ральф нават не выходзіць са спальні. Яна знаходзіць хворага ў ложку: ён “схаваўся” — нацягнуў на галаву прасціну. Ягоны твар, у размытых плямах старэчай пігментацыі, як размазаныя па талерцы грэцкія крупы, ажно ззяе ад усведамлення добра зробленай справы; ён жадае, каб яго пахвалілі, пагладзілі па рэдкім пуху на цемі, які зараз стаіць дуба. “Хутка пачнецца бамбёжка! — запрашае ён яе падзяліць радасць. — Але я выкапаў надзейнае ўкрыццё! *Русішэ штука* нас не дастане!” На ложак навалена адзенне, зверху грувасціцца каток для прасавання пасцельнай бялізны, які з часоў Эльзы ржавее ў кладоўцы (а ён цяжэнны!), дровы… “Ганс, якое ўкрыццё?! Вайна даўно скончылася!” — “Га? Скончылася?”

Толькі тады Ральфа па-сапраўднаму і зачапіла: будуючы ўначы свае “ўкрыцці”, Ганс усюды запальваў святло — а за электрычнасць трэба плаціць! Яшчэ б, Ральф нават калядныя паштоўкі купляе летам, калі яны каштуюць усяго еўра, а не чатыры, як у снежні. “Трэба падлічыць страты! Баюся, у рэшце рэшт танней будзе здаць яго ў дом састарэлых!” Менавіта — здаць. Гэта было якраз тое, пра што Ларыса цяпер марыла. Бо не жадала даглядаць былога нямецкага салдата, які ваяваў у яе дома. І яшчэ таму, што хацела, нарэшце, упэўніцца: іх з Ральфам шлюб усё ж такі трымаецца не на вар'яцтве Ганса ў якасці адзінага фундамента.

Але куды, хацела б яна ведаць, падзеўся цяпер гэты “фундамент”?

Ад таго, што недарэчнае сённяшняе здарэнне пачалося са званка Лады, яна не прыдумала нічога лепшага, як набраць яе нумар, загадзя раздражняючыся ад манеры Лады размаўляць, роблена-ляніва пазяхаючы, расцягваючы ненатуральна чырвоны рот, але ў слухаўцы раздалося “часова недаступна”. Ага, Лада адправілася да той быццам бы ўнучкі сібірскага шамана і, вядома, адключыла мабільнік! Адразу ж ёй успомнілася другая гутарка з Ладай, пасля паездкі ў Кульмбах, у замак Пласенбург, дзе ім пашчасціла наведаць буйнейшы ў свеце музей алавяных фігур, — стаміўшыся ад аднастайнасці батальных сцэн, ад усіх гэтых старажытных кельтаў, рымскіх легіянераў, тэўтонскіх рыцараў, англійскіх мушкецёраў, вікінгаў, напалеонаўскіх гвардзейцаў ды іншых стрыечных братоў стойкага алавянага інваліда, яна запрасіла Ладу ў кафэ і пасля глытка “Чыба майлд” нечакана выклала тое, што мучыла: “Ганс ваяваў у Беларусі, уяўляеш?!” — “Ну дык і што з таго?” — шчыра здзівілася Лада, натуральная бландзінка з зялёнымі вачыма, апранутая па-айчыннаму, то бок з выпакутаванай стараннасцю: блузка са стразамі, туфлі на высачэзных абцасах, кідкі макіяж, — ніякая, між іншым, не Лада, а ўсяго толькі Людка, якая з дапамогай цёткі, што працуе ў абласным загсе, памяняла адну літару імені, каб адразу зрабіцца вабна-таямнічай. — Дык гэта ж хрэн ведае калі было!” — “Ён бачыць сябе салдатам, увесь час трызніць пра вайну!” — “А цябе тое хвалюе?” — паціснула плечыкам Лада.

Людзе-Ладзе — удваенне, у якім Ларысе чамусьці чуецца “людаедства” (і яшчэ: “пралюбадзейства”) — Людзе-Ладзе ўсяго трыццаць. Дзесяць год раздзяляюць іх — бездань, праз якую немагчыма перакінуць мост. Усё ж яна тады прызналася суайчынніцы, што калі Ральф не здасць старога ў багадзельню, яна сыдзе, кіне ўсё да д'ябла, здыме кватэру, знойдзе іншую працу альбо ўвогуле вернецца дамоў — але як пакінуць тут Светку? Як быццам бы яна, Ларыса, не разумее, што за выбіральнасцю яе ўнутранага зроку, за хітрыкамі Мнемазіны, якая паварочвае калейдаскоп з каляровымі шкельцамі такім чынам, што перад вачыма заўжды аказваюцца самыя змрочныя ўспаміны, хаваецца туга па радзіме! “У цябе ў самой дах паехаў, — спакойна канстатавала Лада, адпраўляючы ў рот кавалачак вішнёвага дэсерту. — Табе дзяржава плаціць за тое, што маразматыка даглядаеш?” — “Дык і што з таго?” — “Колькі?” — “Дзвесце еўра ў месяц”. — “Мала. Падавай на другую ступень па доглядзе, раз ён у цябе такія фінты выдае. Калі ён уночы зноў усё пераверне або перад люстэркам “Хайль Гітлер” зробіць, хуценька хапай фотаапарат і здымай, потым аднясеш у бальнічную касу: так і так, паглядзіце, шаноўнае спадарства, што наш пацыент вырабляе. Можаш і на маральны ўрон спаслацца, гэта таксама добра прадаецца. Маўляў, ты беларуска, цябе ўсё гэта нервуе. У немцаў комплекс віны з-за той вайны, яны гатовыя ўсім на свеце кампенсацыю плаціць. Будзеш атрымліваць чатырыста еўра — вядома, не шыкоўна, але…” — “ Ды справа не ў грошах…” — “А ў чым?”

Разумеючы ўжо, што дарэмна завяла тую размову, яна — хутчэй, не Ладзе, а самой сабе — паспрабавала растлумачыць: калі яе бабуля з трыма дзецьмі хавалася ў балоце, па пояс у ледзяной жыжцы, а паліцаі з айнзацгрупы і нямецкія салдаты, папярэдне запусціўшы ў вёску *чырвонага пеўня*, прачэсвалі лес, метр за метрам, і ў кожнага салдата на поясе вісеў кацялок (бабуля потым усё жыццё не магла чуць рытмічнае звяканне лыжкі аб металічны посуд), самы маленькі раптам заплакаў, і яна сунула яму ў рот смочку; але дзіцёнак працягваў пішчаць, а яна ўсё пхала і пхала яму ў рот грудзі, пакуль той не замаўчаў канчаткова, як высветлілася — задыхнуўся. “Затое мой бацька і ягоны брат дзякуючы гэтым пустым, без малака грудзям, што аказаліся ўсё ж дастаткова важкімі, каб абарваць дыханне двухмесячнай істоты, засталіся жывыя. Дакументы бацькі згарэлі ў хаце ў час той аблавы, а метрыкі памерлага немаўляці цудам захаваліся. Жывы пражыў жыццё па дакументах мёртвага. У маім імені па бацьку — імя нябожчыка, які не мог мець дзяцей, бо сам памёр ва ўзросце малечы. І цяпер, калі кармлю ды пераапранаю Ганса, я ўвесь час думаю: а раптам ён быў у тым лесе?” — “Ты гэта што — сур'ёзна? Зусім ад'ехала? — Лада глядзела на яе не разумеючы. — Пры чым тут твая бабуля? Калі ўжо надумала кінуць Ральфа, так і скажы. Згодна з табой, бабла ў яго малавата… — Лада нахілілася да яе і панізіла голас. — Я тут з адным немчуронкам з Ганновера ў Сеціве пазнаёмілася, кру-у-утызна! Пэўна, звалю я ад Эдвіна, але пакуль што — маўчок. Ужо дамовіліся з Германам разам кватэру на пяць пакояў здымаць”. Лада адкінулася на спінку крэсла, выцягнула ментолавую цыгарэтку. “Люблю марыць… эх, калі б раптам падваліла куча бабак… я б купіла сабе домік на грэчаскім востраве… а ты?” — “Я б аплаціла вучобу дачкі ва ўніверсітэце і… паставіла б на месцы той спаленай вёскі камень…”

Узгадаўшы выраз прыгожага тварыка Лады пасля тых яе, Ларысы, слоў — суайчынніца глядзела на яе з грэблівым спачуваннем, як на прыдуркаватую, — яна адкінула мабільнік убок. Ну давай жа, напруж розум, дзе можа быць стары, дзе? Пэўна, давядзецца, як ні круці, звяртацца ў паліцыю, хоць тутэйшая паліцыя выклікае ў яе проста такі генетычны страх. Раптам яна ўзгадала, што сёння — дзявятае мая, і адразу ж убачыла ў паштовай скрыні мясцовы часопіс на рускай мове: часопіс, які выдаваўся былымі аўтахтонамі СССР, прыходзіў з нямецкай дакладнасцю на дзявяты дзень месяца. Спачатку механічна, а потым з цікаваасцю прынялася шукаць на старонках матэрыялы, прысвечаныя той вайне, але… нічога не знайшла. Прагартаўшы хутка ўвесь дабраякасны глянец, зазірнула ў рубрыку “Май шмат год таму: хроніка месяца” (не можа быць! хаця б тут, адным радком!), адшукала сённяшнюю дату і з узрастаючым здзіўленнем прачытала, што 9 мая 1964 года на вяршыні амерыканскага хіт-параду апынуўся “вялікі Луі Армстронг з песняй “Hello, Dolly”. І ўсё… У гэты дзень, з пункта гледжання рэдакцыі эмігранцкага часопіса, у свеце не адбылося больш НІЧОГА, вартага ўпамінання!

Яна перагарнула старонку. Далей была выдрукавана гісторыя нашага суайчынніка, шчодра праілюстраваная ягонымі фотаздымкамі ў стылі “ню”. “24-гадовы Аляксандр у выніку 35 аперацый, зробленых на працягу двух гадоў, ператварыўся ў Аляксандру, зрабіўшы поўную змену полу! Цяпер 9 мая, дзень свайго канчатковага “цудоўнага ператварэння”, Шура святкуе як дзень народзінаў. Аляксандра паўстала супраць прыроды — і перамагла!” Ніжэй распавядалася пра тое, як на пару з іншым транссексуалам “рабяты — дзяўчаты” зараблялі грошы на аперацыю: тарыф на секс-паслугі быў немалы — 500 еўра ў гадзіну. “Не дзіўна, што кліентамі Аляксандра з'яўляліся людзі вядомыя: палітыкі, адвакаты, тэлезоркі”. З надрукаванага вынікала, што цяпер той Шурык-Шура дамагаецца разумення з боку грамадства да такіх, як ён, вязняў “душэўнага гета”.

Вось такі цяпер змест у паняцця “гета”… Дзякуй Богу, што толькі такі! Час ідзе, і нават самы страшны боль пакрываецца скарынкай забыцця. Тут толькі яна заўважыла, што вымаўляе тыя словы ўслых, даводзіць іх свайму адбітку ў люстэрку — ну чыста як Ганс! — і села на ложак, закрыўшы твар рукамі. Што ж паробіш, калі ўсякае новае пакаленне імкнецца пазбавіцца ад памяці пра мінулае, як ад старой рухляддзі, вось як яны з Ральфам вынеслі ў кладоўку няўклюдны, пасляваенны яшчэ каток для прасавання бялізны. Асабістая памяць, якая ёсць, па сутнасці, набор вопытаў, у маладых пустая, як незапоўнены лазерны дыск. Наколькі больш прадуктыўна чалавек пражываў бы сваё жыццё, калі б нараджаўся by default — менавіта па змоўчанні! — з запісанымі ў розуме гатовымі копіямі файлаў з рэсурсу калектыўнай памяці. Калі б гэта было магчыма, чалавецтву хапіла б усяго адной вайны, якая стала б апошняй. На жаль, ніхто не можа пакарыстацца чужой памяццю. І не хоча. Нядаўна яна даведалася пра тое, што праз шэсць дзясяткаў год пасля Халакосту жыхары баварскага горада Дахау выступаюць за закрыццё мемарыяла, створанага на месцы былога нацысцкага канцлагера. А дамы, што размяшчаюцца ў непасрэднай блізкасці ад труб крэматорыя, што ў час вайны дымілі днём і ноччу, лічацца цяпер першакласнай нерухомасцю, бо прылягаюць да ціхіх зялёных раёнаў. І тыя, хто жыве ў тых дамах, не пакутуюць ад начных кашмараў. А яна, па ўсёй верагоднасці, насамрэч пакутуе на клінічную ўразлівасць… Як сказала Светка: «Маці, гісторыя поўная жахаў, узяць хоць старажытных ацтэкаў — вырывалі сэрцы ў жывых палонных, каб прынесці іх у ахвяру, гэта пакруцей Маўтхаўзэна. Між іншым, сэрца яны называлі каштоўным кактусавым плодам Арла, а паміраючага ў страшных пакутах палоннага — Арлiным чалавекам. І ўвогуле ў цябе замацаванне афекту». — “А ў цябе?” — хацела яна спытаць, маючы на ўвазе вядома што, але стрымалася, заўжды баялася пакрыўдзіць дачку (вырасла, лічы, без бацькі), якая, дарэчы, досыць удала ўпісалася ў тутэйшае жыццё: скончыла моўныя курсы, знайшла працу афіцыянткі, паступіла ва ўніверсітэт на псіхолага — усё сама, малайчынка! — зняла кватэру ўдвух з перасяленцам з Казахстана. А як яна, маці, радавалася поспехам дачкі — ды дзеля гэтага гатова была трываць і не такое, што там выхадкі старога маразматыка ды дробязнасць Ральфа, скосыя позіркі суседзяў і тупасць эмігрантаў. Праз паўгода высветлілася, што Светчын Генрых, як тут кажуць, *швуль*…[1] І тое яшчэ паўбяды, а няшчасце ў тым, што дзяўчынка ўсё роўна кахае гэтага тыпуса і працягвае жыць з ім. І яна, маці, не можа анічога ёй параіць, бо на актуальную тэму “Як будаваць сямейнае жыццё з гомасексуалістам” ім не чыталі лекцый ні ў школе, ні ва ўніверсітэце.

Божачкі, яна сядзіць тут над блазенскім часопісам, а Ганс, магчыма, валяецца зараз дзе-небудзь на трасе з размажджэранай галавой!

[1] Швуль (ад ням. разм. Schwul) — гей.

**Нам, беларусам, больш звыкла бачыць гарадское аблічча, створанае архітэктарамі, скульптарамі, мастакамі-манументалістамі. І гэта зразумела. У савецкія часы спіс аб'ектаў, размешчаных у гарадской прасторы, быў строга рэгламентаваны. Ідэйна правільныя манументы, памятныя знакі амаль што вычэрпвалі кола менавіта мастацкіх, неархітэктурных гарадскіх аб'ектаў. З 1990-х гадоў на беларускіх плошчах пачалі з'яўляцца "негераічныя помнікі", пазбаўленыя ідэалагічнага напаўнення, — так бы мовіць, "маленькія людзі": сантэхнікі, дворнікі і г.д. Гэта быў, безумоўна, крок наперад. А на Захадзе ў апошнія дзесяцігоддзі ў фарміраванні гарадскога асяроддзя ўсё больш актыўны ўдзел бяруць прадстаўнікі сучаснага мастацтва (contemporary art). Урэшце, еўрапейскія тэндэнцыі робяцца актуальнымі і для беларускай рэчаіснасці.**



# Праз досвед Георга Цэя

**Дзяніс БАРСУКОЎ,**
**дырэктар мастацкай галерэі "Універсітэт культуры"**



З цягам часу нам, як і ўсім еўрапейцам, давядзецца рэагаваць на выклікі часу, шукаць адказы на пытанні: ці належыць і надалей абмяжоўваць беларускую гарадскую артпрысутнасць помнікамі, фантанамі і дэкаратыўнымі элементамі? І якое ж мастацкае напаўненне павінна мець сучасная гарадская прастора? Пачуць адказы на гэтыя пытанні, даведацца пра замежны вопыт можна было падчас правядзення ў Мінску серыі мерапрыемстваў праекта "Raum für Raum", які, дарэчы, ладзіцца адначасова ва ўсіх краінах постсавецкай прасторы.

Першым этапам рэалізацыі праекта стаў семінар на тэму "Мастацтва ў грамадскай сферы". Ён адбыўся ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску мінулай восенню, калі Беларусь наведаў нямецкі куратар, арткрытык і адукатар Хайнц Шутц, які працяглы час быў старшынёй камісій па мастацтве ў публічнай сферы Мюнхена, — адзін з вядучых спецыялістаў менавіта ў гэтай галіне. У семінары ўзялі ўдзел мастакі, студэнты нашых мастацкіх ВНУ, супрацоўнікі мясцовых адміністрацый. Тады адбылася дыскусія па наступных пытаннях. Хто распараджаецца грамадскай прасторай, хто можа яе займаць? Хто хоча і каму патрэбна мець мастацтва ў грамадскай сферы?

Наступным крокам праекта "Raum für Raum" стаў практычны майстар-клас "Часавыя матэрыялізацыі ў гарадской прасторы Мінска", што неўзабаве правёў у нас нямецкі мастак Георг Цэй з артгрупы "Inges idee". Гэтая творчая суполка ўжо больш як 15 гадоў паспяхова праводзіць мастацкія інтэрвенцыі ў грамадскую прастору па ўсім свеце: у Нямеччыне, Швецыі, Японіі, Кітаі, Тайландзе. Праекты, якія яна ажыццявіла, вызначаюцца гумарам, нестандартным мысленнем, нечаканым размяшчэннем артаб'ектаў у прасторы. Напрыклад, "Inges idee" зрабіла сапраўдны пірсінг на індустрыяльным будынку, пачапіла ювелірныя ўпрыгажэнні на аўтамабільны паркінг, паклала каля ўваходу ў Марскую акадэмію вялізны дзіцячы караблік, усталявала ў тайландскім порце высачэзнага снегавіка ды нават стварыла ў памяшканні чыгуначнага вакзала… дождж з людзей, якія ляцяць! Таму зразумела, чаму напружаная чатырохдзённая праца з Георгам Цэем сталася вельмі карыснай для мінскіх архітэктараў, дызайнераў, скульптараў.

"Гэтыя чатыры дні праляцелі для ўсіх нас у такой насычанай творчасцю атмасферы, што здавалася, не можна рэзаць на кавалкі! — расказвае маладая беларуская дызайнерка Таццяна Гомза, удзельніца майстар-класа. — Былі і прадстаўленне доследу нямецкіх калег, і прадуктыўная праца ў групах з калектыўным генерыраваннем ідэй і "мазгавым штурмам", без якіх немагчыма распрацаваць канцэпцыю праекта за такі кароткі тэрмін. Была работа ў матэрыяле, дыскусіі і эмацыянальныя стасункі паміж мастакамі. Абмяркоўваючы вынікі працы семінара, усе ўдзельнікі прыйшлі да высновы, што ўсялякае аналагічнае "ўключэнне ў прадмет" у форме творчай майстэрні дае вялізны прафесійны штуршок, прычым, кожнаму — незалежна ад прафесійнага ўзроўню; інтэлектуальна разняволываюць, даюць разуменне, што мастак па сутнасці сваёй нічым не абмежаваны ў творчым выяўленні сваёй думкі — была б думка. Яшчэ адзін важны момант, адзначаны ўсімі ўдзельнікамі, датычыць працы ў стыхійна сфарміраваных групах. Адносіны ў іх складзіся надзвычай гарманічна. Усім вядома, наколькі няпроста бывае дамовіцца паміж сабою самадастатковым творчым асобам. Цікава, што сам Георг Цэй у працэсе абмеркавання прызнаўся, што такі вопыт правядзення "воркшопа" ў групах мастакоў для яго таксама першы. І ён, як і ўсе мы, баяўся складанасцей, магчымых пры рабоце ў групах. Мяркую, прычыны дасягнутай гармоніі якраз у спалучэнні ўнутранай свабоды і сатворчасці, дзе ўдзельнікі працэсу натхняліся працай над ідэямі праектаў, а не сваёй роляй у іх".

У выніку работы майстар-класа ў гарадской прасторы Мінска часова матэрыялізаваліся даволі цікавыя артаб'екты. Вядомыя мастачкі Вольга Сазыкіна і Вольга Крупянкова ўсталявалі гамак паміж дрэваў, запрашаючы мінакоў адпачыць, абажур з восеньскага лісця на ліхтары ў скверыку. Павел Вайніцкі, Ірына Машчэнская і нямецкая мастачка Карола Цітовіч стварылі прывід вядомай гістарычнай асобы, які нават прайшоў па вуліцы, уражваючы гараджан.

Паводле слоў Паўла Вайніцкага, куратара беларускай часткі праекта, падзеі такога кшталту для нашых мясцін звышкаштоўныя: "Звычайны беларускі мастак, які чэрпае звесткі пра "актуальнае мастацтва" пераважна з рускамоўных інтэрнэт-сайтаў, падхоплівае — і ўкараняе ідэі ў лакальны кантэкст механічна, без глыбіні, толькі на ўзроўні візуальнасці. Павярхоўнасць, "прыкольнасць", забаўляльнасць (як, зрэшты, і бяздумная эстэтычнасць) пры адсутнасці грунтоўных тэарэтычных ведаў і жывога кантакту з інтэрнацыянальнай артсупольнасцю — найбольш сур'ёзныя тутэйшыя праблемы. Праект Інстытута імя Гётэ "Raum für Raum" каштоўны тым, што дае нам, крыху ізаляваным ад сусветнага артпрацэсу, магчымасць дакрануцца да яго першакрыніц, у дадзеным выпадку — паблікарту. Кіраўнік нядаўняга майстар-класа Георг Цэй — запатрабаваны творца, які мае ўнікальны досвед паспяховага ўдзелу ў міжнародных конкурсах і практычным стварэнні нетрывіяльных праектаў. І гэтым досведам ён шчыра падзяліўся з намі".

І, зразумела ж, вынікае пытанне: ці з'явяцца на беларускіх вуліцах і плошчах аб'екты, нечым падобныя да створаных падчас майстар-класа, але не на часовай, а ўжо на пастаяннай аснове? Іх прысутнасць надала б нашай гарадской прасторы выгляд больш сучасны, адпаведны і патрабаванням часу (жывём жа ў XXI стагоддзі), і еўрапейскаму статусу нашай краіны. Бо ў Беларусі ёсць творцы, якія маглі б зрабіць гэта на высокім мастацкім ды ідэйным узроўні, якія маюць цікавасць да правядзення мастацкіх інтэрвенцый. Іншая справа — ці гатовыя да такіх інтэрвенцый гарадскія ўлады, як успрымуць новае нашы, даволі кансерватыўныя, грамадзяне? Прыклад групы "Inges idee", якая ставарае праекты не толькі ў еўрапейскіх, але і ў азіяцкіх краінах і з'яўляецца камерцыйна паспяховай, дае падставы спадзявацца на крэатыўнае развіццё і нашага ўрбаністычнага асяроддзя.

***На здымках: "Здань" — работа суполкі "Inges idee" ў Японіі; увасабленне артаб'ектаў у мінскім гарадскім асяроддзі.***



## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Два гады існуе ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі папулярны творчы праект "Музычныя вечары ў Вялікім". Вечары гэтыя адбываюцца ў Камернай зале тэатра, якая з новага сезона носіць ганаровае імя легендарнай зоркі беларускай опернай сцэны — Ларысы Пампееўны Александроўскай. Выкшталцоныя праграмы, што ладзяцца ў межах праекта, уключаюць вакальныя мініяцюры, неапалітанскія песні, фрагменты з класічных опер і аперэт, беларускую камерную музыку. У канцэртах удзельнічаюць карыфеі опернага мастацтва, яркія маладыя салісты, лепшыя канцэртмайстры, у якіх раяль "выказваецца" маляўніча і вобразна, нібы сімфанічны аркестр. Бліжэйшы камерны музычны вечар мае адбыцца 8 лютага. Праграму "Спірычуэлс і не толькі..." падрыхтавала салістка тэатра, лаўрэат міжнароднага конкурсу Алена Сало з удзелам сваіх творчых партнёраў.

Заўсёднікі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра пабывалі на чарговай прэм'еры — "Вечары балета", які складаецца з дзвюх новых пастановак. Гэта "Кармэн-сюіта" Ж. Бізэ — Р. Шчадрына і Дывертысмент з балета П. Чайкоўскага "Шчаўкунчык". Абедзве пастаноўкі ажыццёўлены на аснове сваіх класічных першакрыніц. А балетмайстрам іх узнаўлення з'яўляецца народны артыст Беларусі Уладзімір Іваноў. Дырыжор-пастаноўшчык — Мікалай Макарэвіч, мастак узнаўлення — Любоў Сідзельнікава. Як вядома, спектакль "Кармэн-сюіта" на гэтай сцэне ставіўся ў 1995 годзе, і таксама ў самай першай версіі, створанай аўтарам лібрэта і харэографам Альберта Алонса. Гэтую знакамітую версію на мінскую сцэну перанёс Гедымінас Таранда. "Шчаўкунчык" П.Чайкоўскага ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры мае сваю сцэнічную гісторыю, у якую ўвайшоў пад назвай "Зачараваны прынц". Цяпер жа ўвазе гледача прапануецца ўзноўлены Дывертысмент з другога акта гэтага балета — адзін з найярчэйшых фрагментаў партытуры, які складаецца з пяці характарных танцаў.

Персанальная выстаўка Барыса Аракчэева, прысвечаная 85-годдзю гэтага вядомага жывапісца, адкрылася ў сталічным Палацы мастацтва. Яе назва — "Этапы вялікага шляху" — нібы адлюстроўвае напрамак экспазіцыі, якая ўключыла работы, створаныя ў розныя перыяды складанага, багатага на самыя розныя падзеі, жыцця мастака. Гэта малюнкі, зробленыя Б. Аракчэевым-студэнтам Мінскага мастацкага вучылішча, яго знакамітая ў свой час інстытуцкая дыпломная работа "Этапы вялікага шляху", тэматычныя карціны з фондаў Беларускага саюза мастакоў, Нацыянальнага мастацкага музея, з творчай майстэрні Барыса Уладзіміравіча. Многія, і не толькі нядаўнія работы, экспануюцца ўпершыню.

Лютаўская афіша Беларускага тэатра "Лялька" (г. Віцебск) прываблівае самых розных гледачоў. Дарослыя могуць паглядзець заўтрашнім вечарам спектакль-прыпавесць паводле Д. Кінасіты "Жураўлінае пяро", а праз тыдзень — двухактовую імправізацыю паводле "Дэкамерона" Дж. Бакача. Дзяцей парадуе чарада самых розных казак. Рыхтуецца і прэм'ера: спектакль паводле казкі Х. К. Андэрсэна "Прынцэса і Свінапас". Паказ новай пастаноўкі пачнецца з 18 лютага.

# Іх выбар — прыгожая музыка

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**На пачатку зімы завяршыліся гастролі мінскага квартэта блок-флейт "Brevis" у Германіі — ужо другое і больш маштабнае турнэ па гэтай краіне (першае адбылося дзякуючы таварыству дружбы "Майнц — Мінск" і адкрыла перспектывы для супрацоўніцтва калектыву з нямецкімі канцэртнымі арганізацыямі). Авацыямі віталі беларускіх музыкантаў Бон, Трыр, Касель, Вісбадэн, Майнц, Франкфурт-на-Майне, Брэмен, Бадэн-Бадэн ды іншыя гарады. Восем тысяч кіламетраў за 18 дзён, 21 паспяховы канцэрт, а таксама прэзентацыя музыкі з новага, падрыхтаванага да выдання, кампакт-дыска і запрашэнне да далейшага супрацоўніцтва — вось вынік нядаўняй творчай вандроўкі ансамбля "Brevis", які мае гонар прадстаўляць музычную культуру сваёй краіны ў замежжы.**

Узорны калектыў "Brevis" сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 13 г. Мінска сёння з'яўляецца не адным са шматлікіх у нашай краіне ўдзельнікаў дзіцячай самадзейнай творчасці, а прадстаўніком Беларускага саюза музычных дзеячаў. І гэты аўтарытэтны "брэнд", на думку заснавальніка, мастацкага кіраўніка і аранжыроўшчыка ансамбля Паўла Сурагіна, спрыяе прафесійнаму развіццю. Выступленні юных музыкантаў высока ацэньваліся і шырокай публікай, і спецыялістамі падчас гастроляў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, Германіі, Літве, Паўднёвай Карэі, Польшчы. Яны двойчы станавіліся лаўрэатамі Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў імя М. Кл. Агінскага, куды допускаліся ў якасці выключэння, бо ўдзельнічаюць у гэтым спаборніцтве маладыя прафесіяналы — выхаванцы музычных каледжаў, вучылішчаў, студэнты спецыялізаваных ВНУ.

Каго-каго, а немцаў майстэрствам грання на блок-флейце не здзівіш. За што ж упадабалі яны выступленні гасцей з Беларусі? Які рэпертуар прапануе "Brevis" германскай публіцы і хто яна, гэтая публіка? На мае пытанні Павел Сурагін адказаў так:

— *У Германіі блок-флейту трактуюць і ўспрымаюць як інструмент для выканання выключна музыкі барока. Мы і сапраўды прыемна здзівілі тамтэйшых слухачоў, аматараў і спецыялістаў, бо граем на блок-флейтах усялякую музыку. Маем вялікі рэпертуар, які ўключае аўтараў практычна ўсіх эпох і стыляў, у тым ліку беларускую даўніну: п'есы Войцаха Длугарая, старонкі зборнікаў, вядомых як "Полацкі сшытак", "Віленскі сшытак". І ўсё гэта — прыгожая музыка. Рэпертуар, з якім гастралiравалі па Германіі, толькі на нейкіх умоўных 15 працэнтаў складаўся з улікам пажаданняў нямецкіх менеджараў. Пераважную частку праграмы прапаноўвалі мы. А я выбіраю для рэпертуару тыя творы, якія і "чапляюць" саміх музыкантаў, і здатныя трымаць у захапленні публіку. Таму ў нашых гастрольных канцэртах гучала і класіка, і музыка эпохі рамантызму, і адроджаная беларуская спадчына, і ўзоры барока... Нямецкія слухачы былі проста ўзрушаныя і агаломшаныя, пачуўшы, як "Brevis" грае "Брандэнбургскі канцэрт" № 3 Баха або ў якім шалёным тэмпе і з найчысцюткай інтанацыяй "выдае" знакамітае "Турэцкае рондо" Моцарта! З тэхнікай гуказдабывання на блок-флейце ўвасабляць гэтую музыку не проста складана, а — на мяжы неверагоднага!*



*Выступаць даводзілася ў залах атэляў, у невялікіх канцэртных залах, у храмах; у Боне і Гамбургу — на філарманічных пляцоўках; у Брэмене быў вулічны канцэрт. Прыходзілі немцы ўсіх узростаў, слухалі і прымалі з асаблівай трапятлівасцю. Адрозненне тамтэйшага канцэртнага жыцця ад нашага прынцыповае. У нас на сур'ёзныя канцэрты ходзяць або аднадумцы, або людзі, звязаныя з музыкай прафесійна. У Германіі па-іншаму ставіцца да музыкі наогул. Калі ў нас музычная адукацыя, можна сказаць, агульнадаступная, дык там навучанне музыцы каштуе дорага. Заняткі музыкай там лічацца мастацтвам, і той, хто нешта ў гэтым разумее і ўмее, выклікае вялікую павагу ў грамадстве, а тое, што культура каштуе дорага, разумеюць на ўсіх узроўнях. Дарэчы, аднойчы да нас у атэль прыйшоў немец з акарынай і са сваімі нотамі, папрасіў дазволу проста пайграць разам з нашымі флейтыстамі. Запісаў гэты імправізаваны канцэрт на свой мабільны тэлефон і развітаўся ў шчаслівым настроі...*

Летам і восенню гэтага года "Brevis" зноў паедзе на гастролі ў Германію. Зноў будзе здзіўляць і радаваць публіку прыгожай музыкай і віртуозным, артыстычным, эмацыянальным выкананнем.

***На здымку: ансамбль "Brevis" у Мальбарку — самым буйным замку Еўропы.***

# Шпацыр у лабірынце

## Некалькі крокаў па беларуска-германскай культурнай прасторы — ад старадаўнасці да нашых дзён



**Калісьці, у антычнай Грэцыі ды ў старажытным Егіпце, лабірынтам называлася вялікая будыніна са складана размешчанымі пераходамі. Цяпер так называюць мудрагелістае, заблытанае размяшчэнне, спалучэнне чаго-кольвек: сцежак, вуліц, памяшканняў, думак... Плынь нашых думак і наша памяць, нібы віртуальная прастора з "паштовай скрыняй неабмежаванага аб'ёму", і ёсць сапраўдны лабірынт! Блукаць у ім — захапляльны занятак: за кожным паваротам адкрываюцца і падзабытыя факты, і сполахі прамінулых захапленняў, і знакі нядаўніх падзей, і перажытыя ўражанні... Словам, усё тое, што дае спажыву для бясконцай інтэлектуальнай працы. Паспрабуйце без інтэрнэт-падказак і даведнікаў, звярнуўшыся толькі да сваёй памяці, хоць збольшага акрэсліць абсяг беларуска-германскіх культурных стасункаў — і вы апынецеся ў магічным лабірынце не толькі гэтых незлічоных стасункаў, але і глыбокіх трывалых повязей...**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**Амаль тры стагоддзі таму** па запрашэнні Пане Каханку працаваць пры двары князёў Радзівілаў прыехаў паспяховы музыкант з Германіі Ян (Ёган) Давід Голанд. За 20 (!) гадоў жыцця ў Нясвіжы напісаў ён багата рознай музыкі. Сёння дзякуючы руплівцам адраджэння беларускай музычнай спадчыны творы Голанда ўвайшлі ў наш культурны досвед: першая айчынная опера "Агатка" на лібрэта М. Радзівіла; оперная пастаноўка "Чужое багацце нікому не служыць"... Гадоў 20 таму мы пазнаёміліся з "Фаўстам" Антонія Генрыка Радзівіла. (Вялікі Гётэ, які адзіны раз пагадзіўся стаць аўтарам лібрэта оперы паводле сваёй трагедыі, дапісаў некалькі нумароў і звязак, бо палічыў за гонар супрацоўнічаць з самім Радзівілам!). Апроч канцэртных паказаў ішоў спектакль на опернай сцэне, дзе старога Фаўста ўвасабляў акцёр-купалавец В. Белахвосцік, а маладога героя — тэнар Р. Паляшчук.

А музычна-тэатральныя падзеі новага тысячагоддзя? Сярод прэм'ер НАВТ оперы і балета Беларусі — арыгінальны варыянт увасаблення "Кававай кантаты" Баха. Спектакль пад назвай "Бах... Кава... Джаз..." прадставіў знаёмы твор у аўтарскай версіі маладога музыканта М. Лявончыка, цымбаліста-віртуоза, які апошнім часам вывучаў мастацтва джазавай кампазіцыі ў Германіі, і вынікам гэтай адукацыі сталася крэатыўнае пераасэнсаванне партытуры вялікага Баха... У рэпертуары балетнай трупы ёсць дасціпны спектакль нямецкага харэографа-пастаноўшчыка Д. Зайферта "Марная засцярога" на музыку Л. Герольда і аднаактовы балет "Трыстан і Ізольда", перастваораны Ю. Траянам на музыку нямецкага класіка Р. Вагнера. Ды "Карміна Бурана" К. Орфа і "Шчаўкунчык", пастаўленыя В. Елізар'евым, нагадваюць пра сувязь з вялікай германскай культурай (хто ж не ведае, што ў аснове шэдэўра П. Чайкоўскага — цудоўная казка Э. Т. А. Гофмана). Дарэчы, у 1980-я ў Мінску, дзякуючы ініцыятыве дырыжора Т. Каламійцавай, ішоў цудоўны оперны спектакль "Казкі Гофмана" Ж. Афенбаха. А яшчэ раней нямецкім рэжысёрам К. Фіртэлем ставілася опера Р. Вагнера "Лаэнгрын". У пастаноўцы "Кавалера руж" Р. Штраўса адбыўся оперны дэбют рэжысёра Б. Луцэнкі...



На сцэне нашага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета ніколі не ставілася "Матухна Кураж" С. Картэса. І паглядзець прэм'еру оперы беларускага кампазітара, створанай паводле Б. Брэхта, мы ездзілі ў суседнюю Літву. А калі ў Мінску гастраліраваў Вялікі тэатр з Кішынёва, убачылі "Маркітантку" — малдаўскую пастаноўку оперы... Не забыць, як брэхтаўскую п'есу "Матухна Кураж і яе дзеці" гралі ў 1970-х гадах коласаўцы, як бліскуча прадстаўляла сваю гераіню Г. Маркіна і спявала славутыя зонгі.

П'есы Ф. Шылера... З сярэдзіны XIX ст. у Мінску, а потым у Гродне, у Віцебску ставіліся "Разбойнікі", "Каварства і каханне", "Марыя Сцюарт", "Арлеанская дзева"... Мы ж успомнім зорку горкаўскага тэатра А. Клімаву ў ролі Марыі Сцюарт; вядучых актрыс Магілёўскага абласнога драмтэатра В. Кабатнікаву і А. Гайдуліс у псіхалагічным процістаянні каралевы Лізаветы і Марыі Сцюарт; "Братоў Маор" і "Дыметрыуса" ў рэжысуры Б. Луцэнкі і — дзве яго пастаноўкі "Трохграшовай оперы" Б. Брэхта; работу маладога В. Раеўскага над брэхтаўскім спектаклем "Што той салдат, што гэты"...

**У несканчоны лабірынт** можна трапіць, прыгадваючы супольныя праекты беларускіх і нямецкіх мастакоў. Што ўжо казаць пра сферу музыкі!

Мы ідзём на канцэрт слухаць Баха, Шумана, Мендэльсона-Бартольдзі, Брамса; мы вядзём дзяцей у ТЮГ на прэм'еру казкі "Пані Завіруха" паводле Братоў Грым і не адмаўляем сабе ў задавальненні паглядзець у гэтым тэатры "Шчаўкунчыка". Потым будзем успамінаць...

*На здымках: народная артыстка БССР Галіна Маркіна (справа) у ролі галоўнай гераіні спектакля "Матухна Кураж"; сцэна з оперы "Лаэнгрын".*

## Слова краязнаўцы



**Валерый Тухта з Лепельшчыны разважае пра значнасць захавання прадметаў і ўспамінаў пра Вялікую Айчынную вайну:**

— Колькі сябе памятаю — увесь вольны час праводзіў у пошуку розных старажытнасцей. Аднаго разу нават арганізаваў сваіх сябрукоў капаць Казельскую гару ля вёскі Чэрцы, на якой, па словах старажылаў, стаяла панская сяліба. Скарбаў мы так і не знайшлі, затое нашу калекцыю папоўнілі дзве вінтовачныя гільзы і ржавы чатырохгранны штык. Тады я нават і не здагадваўся, што вывучэнне падзей мінулай вайны стане лёсавызначальным кірункам маіх краязнаўчых даследаванняў. Калі вучыўся ва ўніверсітэце, захапіўся пошукам слядоў старажытных цывілізацый. Але людзі, з якімі даводзілася кантактаваць падчас вандровак і экспедыцый, абавязкова ўспаміналі ваенныя падзеі, нібы падштурхоўвалі мяне звярнуць увагу на гэты перыяд нашай гісторыі.

Паступова прыйшло разуменне таго, што трэба паспець занатаваць праскнутыя горыччу пакут, перажыванняў словы сведкаў. І адначасова было крыўдна, што нашчадкі не зберагаюць памяць бацькоў і дзядоў, якія прайшлі праз горніла вайны. Калі даводзілася чуць, што пасля смерці блізкіх выкідвалі, палілі асабістыя рэчы, дакументы, фотаздымкі ваеннай пары, станавілася жахліва ад таго, што мы можам страціць малавывучаны пласт гісторыі. Многія могуць са мной не пагадзіцца: маўляў, пра тую вайну ўжо пісана і перапісана, а ў нашых музеях сабрана дастаткова прадметаў. Так, але ці знойдзем мы ў тых кнігах і музеях хоць які-небудзь успамін пра сваіх землякоў, родзічаў? Думаю, наўрад ці.

Пайшоў адзінаццаты год, як я са сваімі вучнямі, сябрамі гуртка "Нашчадкі", які працуе пры Слабадской сярэдняй школе Лепельскага раёна, адкрываю невядомыя факты ваеннай пары. Вынікам нашых даследаванняў стала стварэнне ў школе музейнай экспазіцыі, большая частка якой магла б быць бясследна згублена ў віхуры часу. У мяне часта пытаюцца: што стане далей з экспанатамі? Ці знойдуцца людзі, якія здолеюць захаваць і перадаць наступным пакаленням у спадчыну гэтую памяць? Думаю, што знойдуцца і захаваюць…

# У стылі чайнай XIX ст.

**Чэслава ПАЛУЯН**

У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі працуе выстаўка чайнага і сталовага посуду XVIII — XX ст. "Звычкі мілай даўніны" з фондаў музея і з прыватных збораў.

Экспазіцыя выканана ў стылі інтэр'ера рускай чайнай XIX ст., тут прадстаўлены фрагменты сталовай дома віцебскага архітэктара Ціхана Кібардзіна, унікальныя ўзоры посуду вытворчасці Заходняй Еўропы, Расіі, краін Усходу. Складана ўявіць сучаснае жыццё без чаю, выдатнага напою, які з даўніх часоў праслаўлялі як карысны і нават лячэбны. Таму наведвальнікі выстаўкі не толькі атрымаюць магчымасць акунуцца ў наша далёкае і нядаўняе мінулае, але і адчуць цеплыню і ўтульнасць сумеснага чаяпіцця: арганізатары прапануюць некалькі дэгустацый віцебскага чаю.

## Музейны ўнікат

# Салдацкі альбом

**Андрэй БЛІНЕЦ**



**Пачынаючы некалькі гадоў таму даследаванне лёсаў ураджэнцаў Клеччыны, якія ваявалі ў шэрагах польскіх узброеных сіл на Захадзе, я нават не здагадваўся, якія знаходкі мяне чакаюць. Адным з такіх сюрпрызаў стаў альбом Антона Есіса. Больш як сотня аматарскіх фотаздымкаў, як правіла, невялікага памеру. Першыя з іх датаваны канцом 1942 г., апошнія — прыкладна 1947-1948 гг. На іх — выявы жаўнераў у нязвыклай для нас брытанскай ваеннай форме на фоне сярэднеазіяцкай пустыні, італьянскіх гор, ватыканскіх сабораў…**

Аўтар большасці фотаздымкаў Антон Есіс нарадзіўся ў в. Панача былой Сіняўскай гміны Нясвіжскага павета (цяпер Клецкі раён Мінскай вобласці). Працаваў сталяром, ажаніўся, гадаваў сына. А ў жніўні 1939 г. як рэзервіст быў мабілізаваны ў Войска Польскае. Менш чым праз месяц перад часцямі Чырвонай Арміі, якія наступалі, байцы склалі зброю без адзінага стрэлу. Спадзяваліся на хуткае вяртанне дадому, але замест гэтага іх накіравалі ў працоўныя лагеры, а потым — на лесапавал у Комі. Адтуль удалося вырвацца толькі восенню 1941 г., калі ў СССР пачалося фарміраванне асобнай Польскай арміі. Каб трапіць у яе шэрагі, Антон, чые продкі ад веку былі праваслаўнымі, запісаўся каталіком. Так з ваеннапалоннага ён зноў стаў салдатам. А потым, разам з арміяй, прайшоў шлях праз Сярэднюю Азію, Іран, Блізкі Усход і Егіпет да Італьянскага фронту. Менавіта тады ён і захапіўся фатаграфіяй. На здымках зафіксаваны вайсковыя заняткі і салдацкі адпачынак, сябры і аднапалчане. Сярод мноства фатаграфій — здымкі земляк-коў-беларусаў, з якімі давялося сустрэцца за тысячы кіламетраў ад дома.



Вясной 1944 г. салдат 10-га сапёрнага батальёна Антон Есіс апынуўся ў Італіі пад Монтэ-Касіна. У ноч з 11 на 12 мая ён быў сярод тых, хто штурмаваў нямецкія пазіцыі. Сапёры ішлі наперадзе і разміравалі дарогі, масты і, у літаральным сэнсе, пракладалі шлях сваімі целамі. Іншы беларус, удзельнік той бітвы Пётр Сыч, у аповесці "Смерць і салаў'і" піша: "Сапёры — гэта мурашкі вайны. Іх недаацэньваюць. Лаўры забіраюць кавалерысты, артылерыя, пяхота, а перадусім — генералы. А куды б гэтыя "героі" дайшлі без сапёраў?" І зноў Есісу пашанцавала. Падчас выбуху загінула дзевяць чалавек з яго аддзялення, а ён застаўся жывы, хоць і цяжкапаранены. Доўга лячыўся, а потым быў накіраваны інструктарам на курсы шафёраў. У памяць пра Монтэ-Касіна ў альбоме цэлая серыя фотаздымкаў, зробленых у верасні 1945 г., калі адбывалася асвячэнне вайсковага цвінтара: руіны манастыра, ускладанне вянкоў да помнікаў, магілы палеглых жаўнераў. Сярод апошніх, дарэчы, — 180 ураджэнцаў нашай краіны, большасць з якіх складаюць беларусы.



Пасля вайны Антон Есіс не стаў вяртацца на радзіму. Спачатку шукаў шчасця ў Канадзе, а потым перабраўся ў Вялікабрытанію. У горадзе Лестэр, што недалёка ад Манчэстэра, набыў дом, які ўласнаручна перабудаваў пад гасцініцу. Родным дасылаў лісты, пасылкі. У 1986 г. запрасіў да сябе ў госці ўнука Пятра. Яму распавёў пра сваю салдацкую эпапею і перадаў альбом. Сёння частка фотаздымкаў адтуль захоўваецца ў Музеі гісторыі Клеччыны. Хочацца верыць, што з часам іх можна будзе ўбачыць у экспазіцыі.

***На здымках (з фотаальбома Антона Есіса): ураджэнцы Клеччыны — салдаты арміі Андэрса: Антон Есіс, Пётр Зіневіч і Вікенцій Цішкевіч, Палесціна, 1943 г.; руіны манастыра Монтэ-Касіна і польскія вайсковыя магілкі, 1945 г.; салдаты 2-га польскага корпуса на ваенных занятках.***

## Культура слова

# Сяг ці крок?

**Кастусь ЦВІРКА**

Слова *крок*, якое прыйшло да нас, здаецца, з захаду, трывала замацавалася ў нашай літаратурнай мове. Шырока карысталіся ім і класікі Якуб Колас, Янка Купала, Кузьма Чорны, Іван Мележ.

На Беларусі, дакладней, у яе ўсходняй частцы, жыў, а можа, і цяпер жыве адпаведнік слову *крок* — *сіг*. Зауёсды карыстаўся ім Максім Гарэцкі: "Ды толькі яны ступілі некалькі сігоў, як блізюханька з варот пасыпаліся рэвальверныя стрэлы" ("Дзве душы"); "Ідзе, блазенны, хуценька, дробненькімі сіжкамі..." ("Лявоніус Задумекус"). У сваім "Маскоўска-беларускім слоўніку" браты Гаўрыла і Максім Гарэцкія і пазначаюць *сіг* менавіта як *крок*. Падаюць гэтае слова ў слоўніках таксама І. Насовіч, І. Бялькевіч, М. Байкоў з С. Некрашэвічам. І ў іх *сіг* — гэта *крок*. Як жывое, не "ўстарэлае" слова.

З цяперашніх жа беларускіх слоўнікаў *сіг* чамусьці знік. Засталося толькі вытворнае ад яго — *сігаць*, якое тлумачыцца як "скакаць", "бегчы", "шпарка ісці шырокімі крокамі" ("Тлумачальны слоўнік беларускай мовы"). Чаму б не пусціць у слоўнікі і сам *сіг*, хоць бы з пазнакай *устарэлае* ці *абласное*?

Трэба думаць, хадзіла ў нас і адпаведнае *сігу* слова *сяг*. Галосныя *і* і *я* гучаць у гэтых словах як пераходныя з аднаго ў другое. Гэтак жа, як у слове *няма*. Адно што *сіг* — гэта і *крок*, і *скок*, а *сяг* — толькі *крок*, *шаг*: "Ён выйшаў з хаты і засягаў у поле" (М. Гарэцкі. "Дзве душы"). Не ведаю, ці жыве сёння ў народзе слова *сяг*. Мусіць, варта было б пашукаць яго нашым дыялектолагам. Застаўся наш *сяг* толькі ў словах *сягаць* ("ісці, рухацца", як тлумачаць слоўнікі), *сягнуць*, *дасягнуць*, *дасягненне*. Пра бытаванне *сяга* засведчыў Уладзімір Даль, які, запісаўшы ад беларусаў, замацаваў яго ў сваім слоўніку: "Сяг, сяжок — расстояние, на какое можно сягнуть, шагнуть".

Забытае слова *сяг* наўрад ці вернецца ўжо калі ў нашу мову. І ўсё ж у якім-небудзь слоўніку, можа, гістарычным, яго варта было б, мусіць, замацаваць для памяці.

Пакуль жа, каб не надта "сігаць" ад *кроку* да ўсходняга *шагу* (дарэчы, вельмі блізкага да *сягу*, можа, і карэннага, толькі відазмененага), нам не трэба забываць і народныя адпаведнікі гэтаму слову. Першы — гэта *ступа* (ісці мерным крокам — ісці мернай ступою). У залежнасці ад сэнсу можна знайсці і іншыя словы і выразы. Напрыклад, чым кепска будзе гучаць руская фраза "Послышались чьи-то шаги" ў такім перакладзе: "Пачулася чыясьці хада"? Або выслоўе "От трагического до смешного — один шаг", калі яго перакласці так: "Ад трагічнага да смешнага — адзін раз ступіць"?

Думаю, не ўпрыгожыць мастацкі твор такі канцылярызм — *зрабіць крок*. Яго лёгка замяніць гэтым *ступіць*. "Ступіць крок" — гучыць намнога лепш.

Ці не залішне часта пускаем мы ў сваю мову і дзеяслоў *крочыць*? Мне здаецца, апраўдана будзе ўжываць яго толькі як адпаведнік рускаму *шагать*.

# Валянцін Таўлай і загадкавая Тоня К.


Валянцін Таўлай, 1929 г.

Сяргей ЧЫГРЫН

**Нядаўна сланімчанка Вера Кузьмінічна Кулак перадала мне вось гэты фотаздымачак. Гэта партрэт беларускага паэта Валянціна Таўлая. На адваротным баку здымка напісана: “На добрую памятку Тоні К. ад Валянціна Таўлая. Рудаўка. 19.VIII.1929 г.”.**

Сам па сабе здымачак арыгінальны. Але ж паўстае пытанне: хто ж такая Тоня К.? Што за прыгажуня, якой ужо вядомы на той час паэт падараваў свой фотаздымак і прысвячаў вершы, напісаныя ў Рудаўцы і ў Слоніме:

*Не гаруй — надарвеш толькі грудзі,*
*Без пары жаўрука не кляні:*
*Серабром аб замерзлыя груды*
*Жаўруковае сэрца звініць…*

Тоня К. — гэта дзяўчына з вёскі Рудаўка Слонімскага павета — Антаніна Кулак. Яна на 3 гады была старэйшая за Валянціна. У Рудаўцы прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Валянціна Таўлая. Там прыйшло да яго і першае каханне — Тоня Кулак. Чым жа ён запомніўся Антаніне Кулак? Чаму яна выбрала менавіта яго, Валю? Валя, так у вёсцы ўсе называлі Валянціна Таўлая, быў прыгожы, гаваркі, адукаваны. Ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а калі прыязджаў у Рудаўку, то прывозіў шмат навін, кніг, сябрам чытаў свае вершы. Валя быў завадатарам і арганізатарам моладзі. Яго слухалі, любілі, ішлі за ім.


Антаніна Кулак — першае каханне Валянціна Таўлая, 1930-я гады.

Хлопцы і дзяўчаты з Рудаўкі і суседняй Вялікай Кракоткі, падахвочаныя Валянцінам Таўлаем, змагаліся за сваю беларускую школу, пісалі дэкларацыі, складалі заявы, а ў 1927 годзе заснавалі Вялікакракоцкую беларускую бібліятэку — асяродак нацыянальнага руху. Нездарма яны самі далі ёй імя Янкі Купалы. Так бібліятэка стала першай установай культуры ў Беларусі, якой было нададзена імя песняра. Яе наведвалі дзясяткі беларускіх пісьменнікаў, некалькі разоў у бібліятэку прыязджала жонка паэта Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. На вялікі жаль, гістарычную Вялікакракоцкую бібліятэку імя Янкі Купалы ў 2008 годзе зачынілі.

Антаніне Кулак свой фотаздымак Валянцін Таўлай падараваў 19 жніўня 1929 года. А 29 жніўня 1929 года ў слонімскай дэфензіве з’явіўся фотаздымак паэта з ганебнай арыштанцкай дошкай на грудзях. Валянцін, напэўна, прадчуваў арышт, таму і напісаў каханай дзяўчыне: “На памятку…” Але ў турме ён думаў пра каханую:

*Кожную ноч салавейка пяяў,*
*Зоры глядзелі у вочы.*
*Дзе ж ты сягодня, дзяўчына мая?*
*Дзе ж вы, шчаслівыя ночы?..*

А вось як напісаў Мікола Арочка ў сваёй кнізе “Валянцін Таўлай” (Мн., 1969): “На мулкіх астрожных нарах малады паэт не знаходзіў сабе месца ад успамінаў пра “салаўіныя ночы” і дзявочыя рукі. Як шчасліва яму мроілася, калі ён зноў бачыў сябе з ёй, зграбнай, усмешлівай, самай прыгожай з усіх рудаўскіх дзяўчат — з Тоняй Кулак. Там, на волі, дзе, здавалася, яго ўсяго забірала праца падполля, усё ж хапала начэй і на “сцежкі ў жытным”, на пяшчотную радасць быць поруч з ёй…”

Тоня кахала Валянціна. Але сям’я Антаніны Кулак пераехала ў вёску Вішава Слонімскага павета. Бацька яе, Кузьма Андрэевіч Кулак, працаваў на чыгунцы брыгадзірам будаўнікоў, таму даводзілася мяняць месца жыхарства. Вёска Вішава даволі далёка знаходзілася ад Рудаўкі, зусім у іншым канцы павета. Там, у Вішаве, да Тоні пасватаўся Віктар Бараноўскі. Бацькі пачалі рыхтавацца да вяселля. І раптам Тоня атрымлівае пісьмо ад Валянціна Таўлая з просьбай не выходзіць замуж за Віктара. Прачытаўшы ліст ад свайго былога сябра, Тоня сказала бацькам, што вяселля не будзе, што яна паедзе ў Рудаўку. І бацькі не пярэчылі дачцэ, а Кузьма Андрэевіч на возе неяк адвёз дзяўчыну ў Рудаўку…

Але пазней лёсы Антаніны Кулак і Валянціна Таўлая разышліся. У снежні 1932 года паэта з Савецкай Беларусі, куды ён перабег, ратуючыся ад чарговага арышту, накіроўваюць у Варшаву для падпольнай работы. У дарозе Валянціна заўважылі шпікі, але яму ўдалося на хаду саскочыць з цягніка і да канца зімы хавацца ў гумне ў Рудаўцы. Тоні перадалі сябры, што Валянцін у Рудаўцы. Яна яго вельмі чакала, але каханы да яе чамусьці не прыйшоў. Чаму — застаецца загадкай: ці то баяўся арышту, ці то не хацеў падстаўляць дзяўчыну, ці была нейкая іншая прычына.

У 1933 годзе Антаніна Кулак выйшла замуж за Браніслава Гародку, які тады працаваў настаўнікам у Рудаўцы. Браніслава хутка мабілізавалі ў Войска Польскае. Ён ваяваў з немцамі, нават трапіў да іх у палон. Але потым яго з палону вызвалілі англічане. Толькі пасля вайны Браніслаў Гародка на Слонімшчыну ўжо не вярнуўся, ён застаўся жыць у Польшчы ў горадзе Чэнстахова. У 1946 годзе да яго пераехала і жонка Антаніна Кулак.

Малодшая родная сястра Антаніны Кулак Вера, якая жыве ў Слоніме, сказала, што апошні раз яна наведала сястру ў Польшчы ў 1999 годзе. Як толькі ўвайшла ў яе кватэру, Тоня адразу спытала: “А ці прывезла ты кнігу вершаў Валі Таўлая?”…

Антаніна Кулак пражыла 89 гадоў. Яна ўсё жыццё кахала Валянціна і помніла пра яго. А ў сямейным альбоме захоўвала вось гэты фотаздымачак юнага Таўлая з аўтографам. І калі Валянціна ад’язджала на Беларусь, Тоня дастала з альбома здымак і перадала яго сястры: “Вазьмі, Вера, гэты фотаздымак. Няхай ён вяртаецца на Беларусь, на бацькоўскую зямлю. Я яго тут берагла, няхай цяпер ён зберагаецца дома. Там ён не прападзе”.

Вера абняла Тоню на развітанне і заўважыла, як з вачэй старэйшай сястры паліліся слёзы.

Першае каханне Валянціна Таўлая Антаніна Кулак памерла ў 2000 годзе і пахавана побач з мужам Браніславам Гародкам на могілках у Лодзі.

# Вершы захаваліся ў Літве

Адам МАЛЬДЗІС

Да мяне нярэдка заходзіць наш зямляк, урач Швянчонскай бальніцы Станіслаў Міхно. Родам ён з Астравецкага раёна, з мястэчка Гервяты, дзе вучыўся ў школе, а цяпер жыве ў Літве, у пасёлку Пабрадзе каля райцэнтра Швянчоніс. Добра знаёмы з лёсам гервяцкай галіны роду Дамейкаў, ён напісаў некалькі артыкулаў на гэтую тэму і таму ўвайшоў у акадэмічнае Літоўскае таварыства імя Ігнацыя Дамейкі, якое даследуе і прапагандуе спадчыну нашага славутага суайчынніка (родам з Навагрудчыны) — чылійскага, польскага, беларускага і літоўскага вучонага-геолага, падарожніка і пісьменніка.

Адначасова Станіслава Міхно цікавяць праявы беларускіх і рускіх традыцый на тэрыторыі Астравеччыны і Швянчоншчыны. Вось і ў апошні візіт ён прывёз сваю публікацыю ў газеце “Обзор” (2010, 21 — 27 студзеня), прысвечаную мастачцы Ксеніі Ліўчак, якая, мала каму вядомая дачка некалькіх народаў, пахавана ў Пабрадзе. А заадно перадаў мне рукапісы беларускіх вершаваных твораў, знойдзеных ім у літоўскіх і беларускіх засценках, — для высвятлення аўтарства і публікацыі.

Найперш сярод знойдзеных і перададзеных твораў прыцягваюць увагу дзве вершаваныя гутаркі — “Папаў да неба” і “Як Петрык наш жаніўся”. Першая з іх пачынаецца разважаннем, што рознымі шляхамі бедныя і працавітыя трапляюць у рай, а вось тых, хто жыве з іх прыгнёту, святы Пётр туды не пускае:

*А другі, хаця багаты,*
*Можа умна гаварыць.*
*А памрэць — як чорт рагаты,*
*Так у пекле ён гарыць!*

Інакшы лёс у каваля Тадора. Хаця зарабляў ён часам і многа, але “ў мужыцкай жыў хаціны”, карміў васьмярых дачок. Да таго ж жонка Еўка паводзіла сябе, нібы ведзьма, “збрыдла мужу, як каўтун”. І, нягледзячы на шаптанні знахароў, Тадор сканаў. Ля брамы ў рай у душы яго спыталі, што ж ён добрага за жыццё зрабіў. Той, уздыхнуўшы, адказаў: “Святы Пётр, я быў жанат”. А паколькі нябесны брамнік у такім стане ніколі не быў — прапусціў ён душу пакутніка. Пачуўшы гэта, услед папёрся “стары, лысы аканом”: ён жа быў жанаты ажно два разы. Аднак на гэты раз апостал Пётр быў няўмольны:

*— Можна першы памыліцца, —*
*Петрык даў яму адказ.*
*— Дурань можа ажаніцца,*
*Як ты, братку, другі раз!*

У другой гутарцы расказваецца пра кавалера Пётрыка. Чалавек ён нябедны — “мае нову хату”. Таму і жонку рашыў выбраць багатую. А тут і прэтэндэнтка знайшлася:

*Недалёка Шумска ляснік жыў багаты,*
*Да яго Марыські Пётрык хоча ў сваты.*
*А гэтыя ляснік дык Мацеем зваўся,*
*Спачатку жыў бедна, сіроткай астаўся*
*Ад бацькі, ад маткі. Потым ажаніўся,*
*Ня меўшы зямелькі, па службе пусціўся.*

Праўда, Тадору, жонку Мацея, вяскоўцы лічаць ведзьмай, бо яна “з чортам пакумалась багатым”. Але гэта не дужа хвалюе Пётрыка — абы за Марыськаў ляснік даў добры пасаг. Заўважым, што немаральнасцю ў гутарцы надзелены багацейшыя сяляне, быкчакі.

Звернем таксама ўвагу на назву мясцовасці — Шумск. Гэта мястэчка, што знаходзіцца на Чорным тракце — па дарозе са Смаргоні праз Кяну на Вільню. Гэтай дарогай, напэўна, не раз ехаў з Кушлян і ў Кушляны і паэт Францішак Багушэвіч. І Кяна ў адной з яго гутарак ёсць (“і даехаў да Кяны”), толькі трансліраваная яна з лацінкі няправільна: “Кіяна”. І стыль абедзвюх гутарак “жвавы”. Напісаны яны ўвогуле літаратурна. То, можа, сам Багушэвіч іх пісаў? Праўда, адпаведнага сацыяльнага гучання няма, напісана тэматычна даволі “дробненька”. То, можа, аўтарам з’яўляецца Стары Улас, які перад смерцю жыў у падвіленскіх мясцінах недалёка ад Няменчына. А гэта недалёка і ад швянчонскага Пабрадзе, дзе цяпер жыве Станіслаў Міхно!

Зусім іншым почыркам, буйным, размашыстым, і куды слабейшым стылем напісаны верш “Беларусам”. У ім менш колеру, больш адчуваецца самавуцтва. Датаваны ён 13 сакавіка 1907 года і, хутчэй за ўсё, народжаны на хвалі “нашаніўскага” нацыянальна-патрыятычнага ўздыму. Гучыць жа смела, патрыятычна:

*Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,*
*Ўстань ты, наша старана.*
*Ўжо глядзіць к нам на палаткі*
*Жыцця новага вясна.*
*Ці ж мы, хлопцы, рук ня маем,*
*Ці ж нам сілы Бог ня даў?*
*Ці над родным нашым краем*
*Луч свабоды не бліснуў?*
*Выйдзем разам да работы,*
*Дружна станем, як сцяна.*
*І прачнецца ад дрымоты*
*З вамі наша старана.*

Паводле слоў Станіслава Міхно, знайшоў ён гэты верш у засценку Руднішкі каля Міхалішак Астравецкага раёна, дзе сёння засталіся толькі тры хаты. У адной з іх жыве нявестка майстра па мэблі, рэзчыка па дрэве Баляслава Сымановіча, якая і перадала рукапіс твора Міхно. Напісаў верш брат Баляслава, вучань нейкай установы. Даволі чытэльны подпіс расшыфроўваецца так: “І. Ф. Сымановіч”. Высветліць, хто гэта быў у мінулым і ці не засталося ад яго больш вершаў, — справа гонару мясцовых краязнаўцаў.

Тым жа почыркам, што і твор “Беларусам”, перапісаны верш Францішка Багушэвіча “Дурны мужык, як варона”. Гэта сведчыць пра папулярнасць аўтара “Дудкі беларускай” у даволі аддаленых ад Вільні і Кушлян вёсках.

Такім чынам, дзякуючы нашаму літоўскаму калегу, на літаратурнай карце Астравеччыны з’явілася яшчэ адно прозвішча — Сымановіч (або Шымановіч). Высветліць жа, ужо на старонках не газеты, а часопіса, скажам, “Полымя”, хто з’яўляецца аўтарам дзвюх працытаваных вышэй гутарак, я папрасіў бы багушэвічазнаўца Уладзіміра Содаля.

Марына ВЕСЯЛУХА

# З Берліна ў Мінск — на ровары!

**Як ацэньвае беларускую літаратуру чалавек "звонку", замежнік, які напісаў магістарскую дысертацыю па творчасці Уладзіміра Караткевіча? Той, хто выкладае беларускую літаратуру ў адным з універсітэтаў Нямеччыны? Чалавек, які перакладае паэзію і прозу з беларускай на нямецкую мову? На гэтыя і многія іншыя пытанні вы знойдзеце адказы ў нашай гутарцы з такой асобай. Хто ён? Знаёмцеся: Андрэ Бём.**



*Асоба Андрэ Бёма даўно вядома беларусам, якія вывучаюць нямецкую мову. З 2005 па 2010 год ён быў выкладчыкам нямецкай мовы ад недзяржаўнай арганізацыі "Нямецкая служба акадэмічных абменаў", удзельнічаў у многіх культурніцкіх праектах, працаваў у БДУ на розных факультэтах, арганізоўваў вечары нямецкага кіно… Ён аўтар магістарскай дысертацыі па творчасці Уладзіміра Караткевіча (сама работа выстаўлена ў экспазіцыі Аршанскага музея У. Караткевіча).*

*Да таго ж, Андрэ — спецыяліст у галіне літаратурнай кампаратывістыкі, ён займаецца і перакладам твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў на нямецкую мову.*

**— Андрэ, ваша магістарская дысертацыя прысвечана вывучэнню светабачання і канцэпцыі персанажаў у эпічных творах Уладзіміра Караткевіча. Чаму менавіта Караткевіч? Якія творы з яго багатай празаічнай спадчыны вы выбралі для аналізу і чаму?**

— Я аналізаваў раманы і аповесці "Нельга забыць", "Чорны замак Альшанскі", "Дзікае паляванне караля Стаха", "У снягах драмае вясна", "Лісце каштанаў". Абраў менавіта гэтыя тэксты, бо мяркую, што яны да пэўнай ступені рэпрэзентатыўныя для творчасці Караткевіча. "Каласы пад сярпом тваім" спецыяльна выключыў з працы, гэта вельмі аб'ёмны, шматпластавы раман, які трэба было б разглядзець асобна. У сваёй рабоце я даследую канцэпцыю персанажаў, светапогляд і раблю выснову, што Караткевіч "прапагандуе" ў сваёй прозе шчыры, моцны гуманізм, што па сутнасці ўжо вядома, гэта, аднак, прыводзіць да таго, што ў ягоных творах часта ёсць альбо чыста станоўчыя, альбо чыста адмоўныя персанажы — назіраецца палярызацыя ў дзве групы персанажаў: "добрых" і "дрэнных". Вельмі спрошчаны светапогляд, на маю думку, — такім чынам ствараецца ў тэкстах даволі спрошчаны мікракосмас.

**— Вы спецыяліст у галіне літаратурнай кампаратывістыкі. Ці суадносіцца творчасць Караткевіча з раманамі нямецкіх пісьменнікаў, яго сучаснікаў? Якія гэта аўтары і ў чым выяўляюцца тыпалагічныя сувязі?**

— Мяркую, Караткевіч у беларускай літаратуры займае асаблівае месца. У цэнтры яго творчасці — гісторыя, культура і фальклор Беларусі. Караткевіч ствараў раманы, аповесці і нават вершы на гістарычныя тэмы, ён пісаў шмат эсэ, нават казкі. Ягоныя творы маюць і рамантычныя, і рэалістычныя рысы. Такіх літаратараў у нямецкай літаратуры знайсці цяжка — трэба было б шукаць у XIX ст., напэўна. Нямеччына стала нацыянальнай дзяржавай у 1871 г., Беларусь — нашмат пазней. Імя Караткевіча для беларускай культуры значыць прыкладна тое, што ў нямецкай — Браты Грым, прынамсі што датычыць казак, паданняў і фальклору ў цэлым. Прадстаўніком гістарычнага рамана ў Нямеччыне з'яўляецца Ліён Фейхтвангер, але ягоныя творы не асвятляюць пытанняў нямецкай гісторыі альбо ўзнікнення нямецкай нацыі, нямецкай дзяржаўнасці.

**— Ведаю, што вы не так даўно пачалі выкладаць беларускую літаратуру ў Ольдэнбургскім універсітэце. Гэта для вас складана ці проста? Як нямецкія студэнты ўспрымаюць заняткі?**

— Сапраўды, я праводжу факультатыўны спецкурс "Уводзіны ў беларускую літаратуру і культуру", яго наведваюць студэнты, якія валодаюць рускай і польскай мовамі і вывучаюць нават харвацкую альбо ўкраінскую мову і таму хаця б разумеюць тэксты на беларускай мове, могуць з імі працаваць. Курс па беларускай літаратуры ў Ольдэнбургу прапаноўваецца ўпершыню, і таму я магу даволі вольна скласці праграму і ўлічыць патрэбнасці і жаданні студэнтаў. Першыя два месяцы мы чыталі кароткія апавяданні, якія ёсць у нямецкім перакладзе. Зараз ужо пачынаем чытаць тэксты чыста на беларускай мове. Засяроджваем увагу на літаратуры апошніх 150 гадоў і найперш XX ст. Мы чыталі паэму "Тарас на Парнасе" і разглядалі аднайменную п'есу Сяргея Кавалёва, разглядаем асноўныя працэсы не толькі ў беларускай літаратуры, але і гісторыі, грамадстве, напрыклад, паўстанне 1863 — 64 гг. У цэлым, заняткі не абмяжоўваюцца літаратурнымі творамі. Мы таксама вывучаем асновы беларускай гісторыі і культуры.

**— Якія прыёмы і метады вы выкарыстоўваеце падчас заняткаў, каб зрабіць беларускую літаратуру больш зразумелай замежнікам?**

— У асноўным мы чытаем і аналізуем кароткія тэксты — вершы, апавяданні, вершаказы Алеся Разанава, прачыталі аповесць Васіля Быкава "Сотнікаў" і, хаця б урыўкамі, "Чарнобыльскую малітву" Святланы Алексіевіч. "Вялікія" тэксты, раманы, прачытаць нам, на жаль, няма калі, тым больш што ў студэнтаў тады дакладна ўзніклі б праблемы з беларускай мовай. Але я прадстаўляю студэнтам раманы ў кароткім пераказе зместу і расказваю пра значэнне аўтара і пэўнага твора для беларускай літаратуры.

**— А ці можаце назваць творы, што асабліва падабаюцца нямецкім студэнтам, знаходзяць самыя шчырыя водгукі?**

— Цяжка сказаць, таму што ў нас па беларускай літаратуры, на жаль, толькі адзін занятак на тыдзень. Таму я магу ім даць рэпрэзентатыўнае, але ўсё ж такі толькі агульнае ўяўленне пра літаратурныя працэсы на Беларусі. Тэксты, якія мы вывучаем, да таго ж, я выбіраю па нейкіх суб'ектыўных крытэрыях. Студэнты ведаюць рускую літаратуру, і яны слушна, як я лічу, заўважылі, што існуе шмат агульнага паміж беларускай і рускай літаратурай, што тычыцца формаў, тэм, сюжэтаў, матываў, асабліва ў савецкі час. Але яны таксама зразумелі, што дзесьці ў 1990-92 гадах нешта вельмі моцна змянілася ў літаратурнай прасторы на Беларусі.

**— Андрэ, вы працуеце яшчэ і над перакладамі твораў сучаснай беларускай літаратуры на нямецкую мову. Якім чынам іх адбіраеце для перастварэння па-нямецку? Ці карыстаюцца гэтыя пераклады папулярнасцю ў Германіі?**

— Адбіраць тэксты для перакладу — нескладана. Цяжка зацікавіць немцаў беларускай літаратурай. Выбар мой, напэўна, суб'ектыўны (натуральна!). Крытэрый для мяне — гэта актуальнасць і "зразумеласць" для нямецкага чытача. Мяне захапляюць апавяданні Уладзіміра Арлова "Код адсутнасці" Валянціна Акудовіча — вельмі цікавы тэкст, прынамсі для мяне, але, мабыць, не для шырокага нямецкага чытача, Юрась Барысевіч піша добрыя тэксты, Віктар Жыбуль, Вера Бурлак і шмат хто яшчэ… Але ў беларускай літаратуры ёсць і шмат чаго неперакладзенага, што было апублікавана яшчэ ў савецкі час і нават раней: раман Кузьмы Чорнага "Трэцяе пакаленне", раман Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" (на маю думку, ключавы тэкст для беларускай нацыі)…

**— А ў цэлым, як суадносіцца сучасная беларуская літаратура з сучаснай нямецкай? У чым іх адрозненне і падабенства? Ці "ўпісваюцца" нашы літаратары сёння ў агульнаеўрапейскі кантэкст?**

— Мне падаецца, што сучасная беларуская літаратура прыкладна 15 год таму ўступіла ў такі, скажам, перыяд пошукаў новых форм і зместаў, і гэты працэс яшчэ не скончыўся. Беларускія літаратары паспяхова вызваліліся ад патрабаванняў афіцыйнай літаратуры савецкага часу (вайна, вясковая проза…), а куды яны ідуць цяпер — невядома. Сучасная нямецкая літаратура куды больш багатая формамі і зместам, яна больш разнастайная, напэўна — ёсць творы самага рознага кшталту, напрыклад, на тэму аб'яднання ўсходняй і заходняй Нямеччыны, ёсць "постмадэрновыя" тэксты, ёсць нават замежныя аўтары, якія пішуць па-нямецку, нягледзячы на тое, што для іх нямецкая мова — не родная, і такім чынам узбагачаюць нямецкую літаратуру новымі сюжэтамі і зместам. Да апошняй групы адносяцца, да прыкладу, нямецкія аўтары турэцкага паходжання. Мне вельмі падабаецца гэты напрамак у сучаснай нямецкай літаратуры сваімі інтэркультурнымі аспектамі.

А яшчэ падаецца, што дамінантным жанрам у сучаснай беларускай літаратуры з'яўляецца паэзія і, мабыць, кароткія формы (апавяданні, аповесці), у той час як у Нямеччыне гэта, безумоўна, проза (раман). "Вялікага" рамана, які можна лічыць "ключавым" для беларускай літаратуры, за апошнія 15-20 гадоў, напэўна, не было. Дарэчы, я магу памыліцца.

**— Якія вашы планы на будучыню? Ці звязаны яны з беларускай літаратурай?**

— Хачу далей прафесійна займацца не толькі беларускай літаратурай, але і беларускай культурай, перакладаць творы беларускіх літаратараў, падарожнічаць па Беларусі. Хто ведае — можа, я напішу кнігу пра Беларусь, пра людзей на Беларусі. З мінулага лета ёсць у мяне беларуска-нямецкі блог на дзвюх мовах, прысвечаны выключна Беларусі, беларускай культуры, які буду ўздымаць на больш прафесійны ўзровень самым сёлета. Мая мара — ехаць з Берліна ў Мінск на ровары. Калі нехта хоча далучыцца, няхай са мной звяжацца. Арганізуем!

# Дом Гейнэ ў горадзе Дзюсельдорфе

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота з асабістага архіва

**17 лютага споўніцца 155 гадоў з дня смерці Генрыха Гейнэ (1797 — 1856), паэта, які пры жыцці меў значна больш прыхільнікаў творчасці ў Расіі, чым на радзіме. Яго творчасць паўплывала на Лермантава і Герцэна, яго перакладалі Цютчаў, Фет і Блок.**

Генрых Гейнэ (Heinrich Heine) — паэт эпохі позняга рамантызму, лічыцца ў Германіі і заснавальнікам сучаснага жанру фельетона. Яго іранічны стыль і высмейванне тагачасных парадкаў і сучаснікаў не спрыялі прыхільнасці з боку літаратурных крытыкаў і палітычных дзеячаў. Гейнэ пахаваны на могілках Манмартр у Парыжы: улады, для якіх ён быў бунтаром, не дазволілі цяжкахвораму паэту вярнуцца на радзіму...

І пасля смерці яго творчасць ацэньвалася неадназначна, ішлі бурныя дыскусіі. У гады нацыянал-сацыялізму кнігі Гейнэ публічна спальвалі. Першы поўны збор яго твораў выдадзены толькі ў 1970-х. І толькі ў 1989 годзе ў яго родным Дзюсельдорфе з'яўляюцца вуліца, плошча і ўніверсітэт, якія названы ў гонар Гейнэ.

"Дзюсельдорф вельмі прыгожы", — казаў некалі пра свой родны горад нямецкі класік. (Дзюсельдорф з 1946 г. — сталіца Паўночнай Рэйн-Вестфаліі, самай населенай зямлі Германіі, месца рэзідэнцый многіх палітыкаў і эканамістаў.) На першым паверсе дома, у якім нарадзіўся будучы паэт-рамантык, была крама яго бацькі, пасля — пякарня і рэстаран. Пазней у будынку ў гістарычнай частцы горада працавала кафэ "У Гейнэ". А пяць гадоў таму ўлады Дзюсельдорфа вырашылі адчыніць у родным доме паэта літаратурны цэнтр. Сёння на Болькерштрасэ, вулачцы, на якой па выхадных віруе натоўп, сярод бараў і рэстаранаў, у "вузкім доме" месціцца літаратурнае бюро, кафэ і кнігарня. У мастацкім меню — літаратурныя чытанні і дыскусіі, выстаўкі і вернісажы, пастаянныя сустрэчы з пісьменнікамі.




***На здымку:** Дом Гейнэ ў Дзюсельдорфе гасцінна прымае аматараў кнігі.*

# Беларуская мінуўшчына

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава



**Як узаемадзейнічаюць сёння айчынныя і нямецкія гісторыкі? Што прымушае еўрапейскіх даследчыкаў прымаць удзел у штогадовай канферэнцыі “Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць”? Пра гэта — наша гаворка з вядучым беларускім “германістам” Сяргеем Новікавым, кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам, загадчыкам кафедры айчыннай гісторыі і сусветнай культуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.**

**— Сяргей Яўгенавіч, як вы зацікавіліся Германіяй, нямецкай гісторыяй? Такі інтарэс узнік у маладыя гады ці пазней?**

— Захапленне гісторыяй і культурай Германіі пачалося ў 1970-я гады, калі я вучыўся на гістарычным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Тады студэнты гістфака вывучалі замежную мову нароўні з гісторыяй, паколькі атрымлівалі па ёй другую спецыяльнасць. Калі паступіў у аспірантуру, спадзяваўся выбраць тэму дысертацыі менавіта па нямецкай гісторыі. Але тагачасны загадчык кафедры гісторыі СССР, прафесар Віталь Фамін, паставіў мяне перад выбарам: пісаць работу на аснове дакументальнай базы айчынных архіваў або чакаць магчымасці працаваць у архівах ГДР. Тады я нават не мог здагадвацца, што ў тагачасным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі на ўліку знаходзіліся спецфонды з дакументамі і матэрыяламі на нямецкай мове. Але да так званай “архіўнай рэвалюцыі” 1990-х гадоў гэта было амаль нікому невядома. Таму я выбраў першую прапанову, а напісанне дысертацыі на аснове нямецкіх матэрыялаў засталося ў марах.

У канцы 1990-х гадоў у мае рукі патрапіла праца нямецкага даследчыка Хартмута Ленхарда “Жыццёвая прастора на ўсходзе. Немцы ў Беларусі 1941 — 1944 гг.”, малавядомая на той час для шырокага беларускага чытача. Тады не ведаў, што яе частка была перакладзена на рускую мову і апублікавана ў 1993 годзе ў часопісе “Нёман” пад даволі нечаканай назвай “Невядомая вайна”. Пад уражаннем ад гэтай працы я напісаў тэзісы, з якімі ў красавіку 1999-га ўдалося выступіць у альма-матар на канферэнцыі. Выступленне мела назву “Адэкватнасць – у навуковай аб’ектыўнасці: да пытання эканамічнай палітыкі нямецкай акупацыйнай улады ў Беларусі (1941 — 1944)”. Яго можна лічыць маім “першым баявым хрышчэннем” на ніве ваеннай германістыкі.

**— З таго часу вы напісалі дзве ўласныя манаграфіі (“Эканамічная палітыка нацысцкай Германіі ў Беларусі 1941 — 1944 гг.” і “Беларусь у кантэксце германскай гістарыяграфіі гісторыі Другой сусветнай вайны”), каля 200 навуковых артыкулаў у суаўтарстве — шэраг кніг і вучэбных дапаможнікаў. Прычым, адзін з апошніх, “Магілёўская бітва летам 1941 года”, выйшаў у маскоўскай энцыклапедыі да 65-й гадавіны Перамогі. Зразумела, гэта немагчыма без цудоўнага ведання нямецкай мовы. У вашым выпадку гэта вынік адукацыі ў педінстытуце ці самападрыхтоўка?**

— Мяркую, і першае, і другое. Вельмі ўдзячны настаўнікам нямецкай мовы, якія не толькі бліскуча ведалі сваю справу, але і выдатна валодалі методыкай навучання студэнтаў. Станоўчы вынік мела і тое, што студэнты гістфака на той час навучаліся па праграмах інстытута замежных моў. Апроч усяго памятаю наказ першай інстытуцкай выкладчыцы нямецкай мовы Тамары Калябошынай: заўсёды мець звычку да штодзённага чытання на замежнай мове любых матэрыялаў, нават у невялікім аб’ёме. Гэта дало свой плён. Як і тое, што актыўна займаўся самападрыхтоўкай. Каб вярнуцца да мовы, якой у штодзённым побыце не карыстаўся амаль 15 гадоў, прайшоў гадавыя курсы перападрыхтоўкі на базе Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Усё гэта і стала падставай для даследавання арыгінальных нямецкіх дакументаў, чытання нямецкай навуковай літаратуры на мове арыгінала, выступленняў па-нямецку з дакладамі на канферэнцыях і г.д.

**— Ці не найбольш вядомай вашай ініцыятывай стала правядзенне штогадовых канферэнцый “Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць”.**

— На сённяшні момант яны лічацца брэндам лінгвістычнага ўніверсітэта. Амаль дзесяць гадоў таму, у 2002-м, маю ініцыятыву правядзення такіх канферэнцый падтрымалі прафесійныя гісторыкі, калегі па кафедры гісторыі і беларусазнаўства: прафесар Ніна Краснова, старэйшы выкладчык Сяргей Кубека, дацэнты Валянцін Курганаў і Эдуард Ліпецкі. Пры закладванні традыцыі мы з’яўляліся прыхільнікамі ідэі комплекснага вывучэння ваеннай праблематыкі. Гэта бачылася немагчымым без удзелу даследчыкаў беларускай гісторыі як з Германіі, так і з іншых краін.

**— Наколькі атрымалася ўстанавіць кантакты такога кшталту?**

— Яны развіваліся паступова. Але дасягнутыя вынікі ўражваюць. У першай канферэнцыі, якая была прысвечана 10-й гадавіне аднаўлення адносін паміж Беларуссю і ФРГ і адбылася ў МДЛУ 23 мая 2002 года, прымалі ўдзел 25 беларускіх гісторыкаў, эканамістаў, палітолагаў і культуролагаў, каго цікавілі праблемы беларуска-нямецкіх і нямецка-беларускіх узаемадачыненняў. А вось на IX міжнароднай канферэнцыі, якая прайшла ў мінулым годзе, гэта лічба павялічылася больш чым удвая. Самае галоўнае, што цяпер у МДЛУ з ахвотай прыязджаюць германісты Беларусі, Расіі, Украіны, беларусісты Аўстрыі, Германіі, Латвіі, Літвы і Польшчы.

Пачалася арганізацыя чарговай, юбілейнай, дзясятай па ліку канферэнцыі “Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць”. Створаны аргкамітэт пад старшынствам рэктара ўніверсітэта Наталлі Баранавай.

**— Якія перспектывы акрэсліваюцца ў бліжэйшы час у галіне вашых даследаванняў?**

— З асаблівым нецярпеннем чакаю работу даследчыка Цэнтра па даследаванні антысемітызму пры тэхнічным універсітэце ў Берліне Петры Рэнтрап, прысвечаную гісторыі мінскага гета і лагера смерці Трасцянец. Нават цяпер прадчуваю, якія пытанні паўстануць перад беларускімі гісторыкамі пасля выхаду гэтай працы. У такім кантэксце неабходна разглядаць і перспектыву для далейшага супрацоўніцтва.

Сёння стала відавочным, што даследаванне некаторых пытанняў перыяду вайны на Беларусі практычна немагчыма без выкарыстання нямецкіх архіўных крыніц і даследаванняў. Выклікі часу ставяць перад беларускімі гісторыкамі задачы па ліквідацыі “белых плям” у вывучэнні нашага мінулага, а таксама вымагаюць ад навукоўцаў дасягнення кансэнсусу ў гістарыяграфіі, працягу вывучэння ваеннай гісторыі Беларусі ў сістэме гістарычных ведаў, адэкватных цяперашняму часу.

# Неспадзяванкі ад ганаровых гасцей

Марына ВЕСЯЛУХА

**“Германія: багацце колераў і фарбаў” — дэвіз, пад якім краіна-ганаровы госць прадставіць сваю кніжную прадукцыю на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Таму адным з акцэнтаў падборкі кніг з’яўляецца экалогія, будаўніцтва з улікам экалагічных патрабаванняў. Сёння Германія — адна з вядучых краін у гэтай галіне. Але гэта не адзіная адметнасць праграмы ганаровага госця. Пра тое, што чакае наведвальнікаў выстаўкі ў праграме Германіі, пра новыя нямецка-беларускія выдавецкія праекты чытачам “ЛіМа” расказалі супрацоўнікі Інстытута імя Гётэ ў Мінску.**

Вера Дзядок, каардынатар культурных праграм Інстытута імя Гётэ ў Мінску: “Як і кожны год, мы запрасілі ў Мінск нямецкіх пісьменнікаў, якія падчас выстаўкі прэзентуюць свае кнігі, некаторыя з іх ужо перакладзены на беларускую мову і пабачылі свет у беларускіх выдавецтвах. 10 лютага пройдуць чытанні і размова з пісьменніцай Катрын Шміт, якая ў 2009 годзе за кнігу “Ты не памрэш” атрымала прэмію нямецкага кнігагандлю за лепшы раман года. Гэтая прэмія паказальная, яна служыць доказам высокага мастацкага ўзроўню кнігі, твор сапраўды вельмі цікавы. Да таго ж, на Беларусі мала выдаецца перакладаў з нямецкай мовы, і мы палічылі, што раман і аўтар гэтага заслугоўваюць. Так з нашай дапамогай кніга “Ты не памрэш” была перакладзена на беларускую мову. Перакладчык Альгерд Бахарэвіч на сустрэчы таксама прачытае ўрыўкі з беларускага тэксту.

11 лютага будзем прадстаўляць яшчэ адну кнігу, яна таксама выйшла ў беларускім перакладзе дзякуючы нашай падтрымцы. Гэта выданне нямецкага аўтара Увэ Рада “Таласы Панямоння: гісторыя, культура, лёсы аднаго еўрапейскага абшару”. У кнізе гаворка ідзе пра Нёман, яго культурную гісторыю. Увэ Рада раней выдаў кнігу пра Одэр, прысвечаную культуры і гісторыі рэгіёна на ўзбярэжжах гэтай вялікай ракі, пра народы, якія яго насяляюць. Ён ужо наведваў Беларусь у 2009 годзе, тады здзейсніў вандроўку ў Гродна, дзе сустракаўся з рознымі людзьмі. Можна сказаць, што гэтая кніга сталася своеасаблівым вынікам яго падарожжа. Яна пабачыла свет у нямецкім выдавецтве толькі ў верасні мінулага года. Выданне выклікала вялікую цікавасць і шырокі грамадскі рэзананс. Зважаючы на тое, што не кожны год у Германіі выходзіць новая кніга, якая тычыцца Беларусі, мы палічылі неабходным адразу ж яе перакласці.

Яшчэ адзін аўтар, які наведае Мінск, — Клеменс Маер. Гэта малады пісьменнік, таксама даволі вядомы. Яго кнігі карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў чытачоў, больш таго, на яго чытанні заўсёды прыходзіць шмат публікі. Трэба заўважыць, што не ўсе аўтары добра і паспяхова прэзентуюць творы. Некаторыя пісьменнікі не любяць адказваць на пытанні, нам жа хочацца, каб адбылася сапраўдная камунікацыя з публікай, каб людзі знаёміліся не толькі з творам, але і з асобай аўтара. Таму Клеменс Маер у гэтых адносінах — вельмі прыдатная кандыдатура. Ён прачытае ўрыўкі з твораў “Гвалты. Дзённік” і “Калі мы марылі”. Яны напісаны ў форме ўспамінаў пра маладосць аўтара. Самі творы не перакладзены на беларускую мову цалкам, мы пераклалі толькі асобныя ўрыўкі, выбраныя самім аўтарам”.

Падчас выстаўкі будуць прэзентаваны не толькі мастацкія, навуковыя, але і публіцыстычныя выданні. Гэта перш за ўсе кніга Вольфганга Грофа і Сабіны Кнайб “Ёханес Рау. Жыццё палітыка — прамовы, пісьмы, фотаздымкі”. Выданне прысвечана 80-годдзю вялікага палітычнага дзеяча і распавядае пра асноўныя этапы яго жыцця і дзейнасці.

У цэлым праграма нямецкіх гасцей насычаная. Запланаваны спецыяльныя імпрэзы для школьнікаў. У межах праграмы падтрымкі школ, у якіх вывучаюць нямецкую мову, пройдзе майстар-клас з мастачкай Сузанай Смаіч “Як намаляваць мультфільм”. Акрамя чытанняў адбудуцца і тэматычныя сустрэчы, прафесійныя абмеркаванні, дыскусіі. Так, даклад з удзелам Клауса Топіч (выдавецтва Вольтэрс Клувер) і Аляксея Харужкі “Працэс дыгіталізацыі ў выданні сацыяльнай літаратуры” закране пытанні ўсіх рабочых момантаў у выдавецтве, звязаных з працэсам пераходу ў лічбавы фармат.

Падчас прафесійнага абмеркавання “Дыгіталізацыя як новая задача ў кнігавыдавецкай справе” з удзелам Клауса Топіча (выдавецтва Вольтэрс Клувер), Дзмітрыя Беразовіна (выдавецтва “Новое знание”), Аляксандра Нячая (выдавецтва “Вышэйшая школа”) будуць разгледжаны пытанні публікацыі і продажу літаратуры ў сучасных умовах. Удзельнікі дыскусіі прааналізуюць сітуацыю, што склалася на сённяшні дзень у выдавецкай сферы, ацэняць магчымыя вынікі таго, што зменіцца ў бліжэйшыя гады ў сувязі з дыгіталізацыяй.

Манфрэд Хэгер, штатны прафесар праектавання і энергаэфектыўнага будаўніцтва на архітэктурным факультэце Тэхнічнага ўніверсітэта Дармштата, кансультант Сусветнага эканамічнага форуму, Міжнароднага саюза архітэктараў, прэзідэнт Нямецкага таварыства экалагічнага будаўніцтва выступіць з дакладам “Сонечныя перспектывы. Сённяшні дзень зялёнай архітэктуры!”.

Пасля закрыцця Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу пройдуць два тэматычныя семінары для выдаўцоў. Пра іх расказаў Ігар Куксін, асістэнт праекта “Культура і развіццё”: “У 2009 годзе ў межах ініцыятывы “Культура і развіццё” распачаўся праект “Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы”. Ён рэгіянальны, разлічаны на Усходнюю Еўропу і Цэнтральную Азію. У 2009 годзе прайшла падрыхтоўчая сустрэча, на якой сабраліся прадстаўнікі выдавецтваў і кнігагандлёвых арганізацый з розных краін. Былі вызначаны тэмы, найбольш важныя і актуальныя для супрацоўнікаў кніжнай сферы. У 2010 годзе праходзілі мерапрыемствы ў Мінску, Маскве, Кіеве, Ташкенце, іншых гарадах. У мінулым годзе ў межах кніжнай выстаўкі-кірмашу мы праводзілі семінары па электронных кнігах і ўладкаванні выставачных стэндаў. Пасля завяршэння асноўнай праграмы сёлетняй выстаўкі пройдуць два спецыяльныя семінары: прываблiванне кліентаў, продаж кніг, утрыманне кліентаў; другі семінар будзе прысвечаны арганізацыі працы ў рэдакцыі”.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Ірыны Мацкевіч

# Справа ў капелюшы

**Модныя тэндэнцыі падобныя да бумеранга — яны маюць уласцівасць вяртацца. Праўда, не вельмі хутка, гадоў гэтак праз 40—50. І толькі мода насіць капялюш выпала з агульнага графіка рэверсаў. “Яна ніколі не вернецца, — сцвярджаў некалькі гадоў таму на лекцыі, што прачытаў у Мінску па дарозе з Парыжа ў Маскву, Аляксандр Васільеў, гісторык моды, які замяніў Вячаслава Зайцава на вынясенні модных прысудаў. — У галаўных убораў няма будучыні: дамы пераселі за руль аўто, і капялюш ім замінае”.**

Шчыра кажучы, за рулём куды больш перашкаджаюць абцасы. Але ніхто нават не насмеліцца выказаць думку, што мы, жанчыны, ад іх адмовімся. Ды і клімат, дарэчы, не дазволіць нам развітацца з галаўнымі ўборамі.

Да таго ж, за рулём мы далёка не ўсе і далёка не 24 гадзіны ў суткі. Да месца прыгадаць і французскую прымаўку, што жанчына з усяго на свеце віртуозна робіць тры рэчы: сварку, вінегрэт і капялюш.

Колькі ж можна хаваць ад іншых таленты? Менавіта гэтае пытанне задала сабе фрау Утэ Патэль-Місфельдт, арганізатар і натхняльніца трыумфальнага вяртання моды на капелюшы. З яе лёгкай рукі германскае мястэчка Нойбург-на-Дунаі, што знаходзіцца ў Баварыі, зрабілася цэнтрам увагі мастакоў, турыстаў і ўсіх, чыя душа прагне свята.

У невялічкім утульным гарадку рыхтуюцца ўжо да дванаццатага фестывалю “Mut zum Hut und schmuck durch Schmuck”, назва якога сцвярджае: насіць капялюш — гэта, калі хочаце, мужнасць. Раз на год у канцы верасня мерапрыемства збірае творчыя сілы з усяго свету, каб завіравала на тэрыторыі старажытнага гарадскога палаца на працягу трох дзён свята, дзе спалучаюцца і лацінаамерыканскі карнавал, і касцюмаванае сярэднявечнае шэсце з клоўнамі на хадулях і аркестрам духавых інструментаў. Фрау Утэ кожны дзень дэманструе новы галаўны ўбор і касцюм, гараджане — нацыянальныя строі, а госці свята, якія прыехалі не толькі паглядзець, а і сябе паказаць, — знак адрознення ад усяго астатняга чалавецтва. І можна набыць які заўгодна капялюш і ўвогуле галаўны ўбор — ад класічных фетравых да тых, якімі ўпрыгожваюць сябе выканальніцы танцаў на бразільскіх карнавалах.

У пошуках цікавага, што не сорамна было б уключыць у праграму свята для роднага горада, фрау Утэ і яе паплечніцы не абмінулі і Беларусь. Пазалетась у Нойбургу пабывалі дызайнеры Ірына Мацкевіч ды Ірына Дзёміна. Ірына Мацкевіч адкрывала для сябе архітэктуру горада і фатаграфавала фестываль, а Ірына Дзёміна прапаноўвала скураныя капелюшы. (Яе работы мінчане і госці сталіцы бачаць на штогадовых веснавых мэблевых салонах.) Фотаздымкі Ірыны Мацкевіч захавалі мора кветак на гарадскіх падаконнях, дошку аб'яў з тоўстага шкла, якая сама па сабе мастацкі твор і не псуе старажытны архітэктурны ансамбль вуліцы, а таксама вялізны капялюш-павільён ва ўнутраным двары палаца, дзе віруе выстаўка-продаж. Экстэр'ер другога фестывальнага памяшкання ўпрыгожваюць рознакаляровыя конскія галовы. Менавіта ў ім дэманструецца сучаснае мастацтва — спражкі з няроўнымі краямі і адмысловым цісненнем, зробленыя з рагоў, якія па асаблівай тэхналогіі “разгортвае” адно з афрыканскіх плямёнаў (хвала інтэграцыі!), дыхтоўны фетр, які на вашых вачах робіцца капелюшом, і фантазійныя скураныя капелюшы Ірыны Дзёмінай. Невераготная колькасць наведвальнікаў, якія шчодра дораць кампліменты: “О, гэта стопрацэнтнае, сапраўднае мастацтва!”

У Германіі штогод праводзіцца каля 20 такіх выставак, але крэатыўнай атмасферы, якую здолела стварыць фрау Утэ, больш няма нідзе, — расказвалі Ірыне яе суседзі па выставачнай пляцоўцы, нямецкія мастакі. Таму “Mut zum Hut” чакаюць амаль як надыход Новага года: цэлы год старанна рыхтуюцца і марацъ пра сустрэчу.





Паўдзельнічаўшы ў фестывалі, Ірына разважае: “Можа, сам Васільеў сёння не так катэгарычна ставіцца да будучыні капелюшоў. Бо капялюш — рэч своеасаблівая. Ніякая сумка, шалік і нават сукенка не адыгрываюць такую ролю ў стварэнні вобраза. Пры гэтым капелюш — рэч дастаткова каварная. Памылішся з выбарам — і ён падкрэсліць усе твае недахопы. На жаль, мастацтва і культура насіць капялюшы намі страчана, мы карыстаемся імі толькі як утылітарнымі рэчамі”.

Можа, вяртанне моды на капялюш ідзе па сваёй больш пакручастай спіралі?

Тым часам фрау Утэ рыхтуецца ўвасобіць новую ідэю: а чаму б падчас свята не аздобіць адно з вокнаў кожнага нойбургскага дома капелюшом? Пра капялюш як прадмет мастацтва прыгадалі не толькі ў Германіі. У Маскве праходзіла выстаўка “Шапочный разбор”. Калі-небудзь дойдзе гэта і да нас. А вось у верасні капелюшы з усяго свету зноў будуць весці рэй у Нойбургу.

***На здымках: падчас святочнага канцэрта гараджане дэманструюць не толькі галаўныя ўборы, але і свае майстэрства; жыхары Нойбурга маюць даўняе хобі — рэканструкцыя старажытных нацыянальных строяў.***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі “Дзівасвет” выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай “Дзівасвет”.**

## З глыбінкі

### «Янкаў вянок» у Барысаве

У Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Каладзеева прайшоў урок-прэзентацыя кнігі Уладзіміра Ліпскага “Янкаў вянок”, на які разам з аўтарам прыехала і супрацоўніца часопіса “Вясёлка” Анастасія Радзікевіч. Правяла ж гэты ўрок для работнікаў сельскіх бібліятэк раёна і вучняў гімназіі № 3 метадыст цэнтральнай бібліятэкі Людміла Захарэвіч.

З затоенай увагай слухалі прысутныя ў зале аповед Уладзіміра Ліпскага і пра яго даўнюю мару напісаць кнігу пра Янку Купалу для дзяцей, і пра тое, што для ажыццяўлення задумы аўтару давялося наноў перачытаць творы песняра і ўсё напісанае пра яго, пераглядзець шматлікія архівы і дакументы, пабываць у мясцінах, куды лёс у розныя перыяды жыцця закідваў паэта, прасачыць яго радавод. У выніку і атрымалася кніга “Янкаў вянок”.

Гімназісты прачыталі вершы народнага паэта “Мужык”, “Хлопчык і лётчык”, “Алеся”, урывак з паэмы “Барысаў”, паказалі кароценькія інсцэніроўкі з камедыі “Паўлінка” і ажывілі некаторыя старонкі кнігі “Янкаў вянок”. У выкананні барысаўскай паэткі і барда Марыны Помаз прагучалі песні на словы Янкі Лайкова і Ніны Загорскай.

**Ганна ДУСЬ**

### Рудненскія вячоркі

На базе Руднямарымонаўскай сельскай бібліятэкі пры падтрымцы бібліятэкара Тамары Бандарэнкі студэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Александронец стварае этнаграфічны музей-лабараторыю імя Еўдакіма Раманава. І актыўна гуртуе вакол сябе мясцовую моладзь, школьнікаў.

Нядаўна ў сельскім Доме культуры адбылося трэцяе рэгіянальнае фальклорнае свята — “Вячоркі”. Ініцыятарам гэтага цікавага мерапрыемства, на якое прыехалі многія госці і прадстаўнікі мясцовай улады, стала аматарскае аб'яднанне “Таварыства Еўдакіма Раманава”. Госці на свае вочы пабачылі, як традыцыйна ладзілі вячоркі ў Гомельскім рэгіёне, як цікава бавілі свой вольны час моладзь і замужнія кабеты. Фальклорны калектыў “Рамонкі”, якім кіруе Віктар Задарожны, стварыў належны пазітыўны настрой у глядзельнай зале. Самадзейныя артысты, сярод якіх былі і школьнікі, прадставілі рэканструяваныя імі народныя звычаі і абрады.

**Ганна АТРОШЧАНКА,**
**в. Рудня Марымонава**
**Гомельскага раёна**

## Афарызм

*Існуе няпісаны (і неабвержны) закон, які цудоўна ведаюць усе па-сапраўднаму адукаваныя і культурныя людзі: чым лепей ведаеш нейкую мову (і гэта можна сказаць не толькі пра мову, але і пра краіну, навуку, сяброў, многіх жанчын, мастацтва і г.д.) – тым больш яна прыгожая і значная.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**





**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад 3251

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 3.02.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 503

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12